на навукова-даследчую тарфяную станцыю, а пазней, калі з'явілася ідэя пра пабудову камбіната, было запрапанавана кіраваць працай, задачай якой было давесці мэтазгоднасць пабудовы камбіната. І прафесар Галынскі, урэшце, кіраваў і апошнімі тэхнічнымі і тэхналагічнымі даследаваннямі, якія праводзіліся на балоце.

Інстынктыўна адгадваючы ўплыў Паўла Андрэявіча на свой лёс, прафесар баяўся яго і спрабаваў, як умеў, пратэставаць. Да апошняга часу прафесар лічыў сябе зусім незалежным у сваёй працы на станцыі, і, памятаючы, як дорага каштавала яму шуканне гэтай незалежнасці, баяўся страціць яе. Перш за ўсё, ён баяўся пасяганняў на гэтую незалежнасць з боку Паўла Андрэявіча. З гэтай прычыны ён некалькі баяўся добрых адносін да сябе з боку Будніка і быў бы рад, калі-б гэтыя адносіны былі больш афіцыйнымі, і ўсё, што мог рабіў, каб было менавіта так. Ён свядома падкрэсліваў у гутарках з Паўлам Андрэявічам сваю непрычыннасць у справах, якімі жыў апошні, хоць сам і не так ужо моцна верыў у гэную сваю непрычыннасць. Ад гэтага была часта і раздражненасць, і нават адценне злосці ў словах прафесара, Павел Андрэявіч адчуваў іх, разумеў адкуль яны і, нават, некалькі рад быў гэтаму. Ён ніводнага разу не паспрабаваў угаварваць прафесара, або дакараць яго, як ніводнага разу не спрабаваў і прасіць яго аб чым-небудзь, і загадваць яму. Ён проста быў з прафесарам, як роўны, і, даручаючы яму якую-небудзь работу, ён як бы падзяляў яе з некім, рабіў усё так, каб прафесар ніколі не адчуў сябе на становішчы чалавека, які некаму служыць. Служыць можа лёкай, або чалавек, якога сілай прымусілі служыць. Служыць можа чалавек, наняты за грошы. Рэволюцыі не патрэбны людзі, якія служаць ёй, бо яны заўжды гатовы здрадзіць ёй. Рэволюцыі патрэбны людзі, якія яе справу лічаць за сваю і выконваюць яе, як самы ганаровы свой абавязак. Так разважаў Павел Андрэявіч і гэтым кіраваўся ў сваіх адносінах да прафесара.

— Я, паважаю людзей, якія мысляць незалежна,—сказаў Павел Андрэявіч.—Людзей, якія не прымаюць дадзенага намі на веру, або, што самае горшае, з рознымі карыснымі мэтамі, а толькі перакапаўшыся ў тым, што дадзенае намі ёсць найбольш правільным з усяго, найбольш мэтазгодным з пункту гледжання чалавецтва. Вы, менавіта такі і я рад гэтаму.

— Хм... думайце пра мяне, як хочаце, справа ваша. Хоць я, безумоўна, рад, што вы так пра мяне думаеце, а не інакш.

— Пра вас інакш думаць нельга, Міхаіл Палікарпавіч. Часам я і хацеў бы інакш падумаць, ды неяк яно ў мяне не выходзіць. І ўжо хай так і будзе, яшчэ вось навіна. Вы адказны кансультант работ па праектаванню першай чаргі камбіната.

— Я?

— Вас гэта здзіўляе? Па сутнасці-ж тут нічога новага для вас. Проста афіцыйна падцвердзілі тое, што вы робіце, што вы напалову амаль зрабілі.

— Але-ж гэта адказнейшая справа?

— Таму вам яе ўрад і даручае, а я надзвычай рад, што буду працаваць разам з вамі. Мне даручана кіраваць будаўніцтвам. Я, праўда, сам хацеў гэтага.

— Паколькі гэта ваша ідэя, такое жаданне зусім законнае, а я вось не ведаю, мне кансультацыя будзе не пад сілу.

— Наконт сіл гэта вы дарэмна, Міхаіл Палікарпавіч. Хапіла сіл на адну палову працы, хопіць і на другую. Не з такіх вы людзей, каб у свае сілы не верыць.—Буднік хітравата, але адкрыта, як пазі-

раў на прафесара, усміхнуўся.—Тут яшчэ адна справа ёсць: праз два тыдні нам давядзецца з вамі выступаць з гэтага поваду з дакладамі ў совеце народных камісараў.

— Чаму-ж мне?—Прафесар здзіўлена прыўзняў левую руку.—Вы будзеце кіраваць будаўніцтвам, вы і рабіце даклад, а я... Ну, пасабіць вам магу ў чым-небудзь, падрыхтаваць патрэбны матар'ял, а даклад, гэта ўжо ваша справа. Я прасіў-бы вызваліць мяне.

— Нічога не меў бы супроць, каб гэта залежала ад мяне, але, бачыце, тут проста так і напісана: заслухаць даклад прафесара Галынскага. Вось.—Буднік падаў прафесару паперку, з якой чытаў. Паперку прафесар узяў, кінуў на яго поглядам і паклаў на стол.

— Але я-ж проста не ўмею гаварыць, які-ж з мяне дакладчык? Вы, Павел Андрэявіч, відаць, па злосці мяне у дакладчыкі ўпісалі.— Прафесар зірнуў Будніку ў твар.—Я-ж разумею, даклад вам даручалі, а вы і мяне ў яго ўпрэглі.—Прафесар усміхнуўся, а Буднік зарагатаў.— Значыць, так і ёсць?

— Ну, не, Міхаіл Палікарпавіч, што вы? Тут без мяне абыйшлося.

У гэты час прыадчыніліся дзверы і ў габінет зайшла жанчына ў лёгкім шэрым паліто. Змеціўшы яе Павел Андрэявіч ветліва заківаў галавою і прыўзняў над сталом руку ў знак вітання.—Вы ў самы раз прышлі, таварышка Каляда. Вось, знаёмцеся. Прафесар Галынскі, Міхаіл Палікарпавіч. А гэта наш новы інжынер, прызначаны для работы на вашай станцыі.

Жанчына сарамліва падала прафесару руку і ён разглядзеў зусім яшчэ малады яе твар, з вузкіх шчылін воч на якім бліснулі насустрач ягонаму погляду ледзь прыметныя вугалькі зрэнак.

— Вы калі, Міхаіл Палікарпавіч, паедзеце,—запытаў Буднік.

— Сёння-ж.

— Вось разам і паедзеце.

— Я рад,—згадзіўся прафесар,—калі таварышка згодна.

— Я з прыемнасцю.

— Ну, вось і добра,—Буднік падняўся з-за стала і намерыўся ісці да дзвярэй.—Я зараз-жа папрашу свайго сакратара арганізаваць вашыя дарожныя справы, а тады вы, таварышка Каляда, трошку пачакайце, мы па адной справе ўмовімся з Міхаілам Палікарпавічам, ды я хачу пагаварыць з вамі.

— Добра, мне пайсці туды?

— Навошта-ж? Сядзіце тут, справы нашы не таемныя.

Пакуль Буднік умаўляўся з прафесарам, Каляда Аксана, гэта была яна, былая комсамолка шапятоўскай ячэйкі, а цяпер комуністка, блукала вачыма па велізарнай карце, што вісела ў габінеце Будніка, шукаючы на ёй знаёмыя назвы.

— Вы на тую, на меншую зірніце,—адгадаў яе жаданне Буднік.

Аксана перавяла погляд на другую карту, якая вісела побач, прачытала надпіс, зроблены ўнізе ў кутку, і зноў вярнулася да вялікай. І толькі тады, як спыніўся палец на невялічкім кружочку, дзе было мястэчка Пагулянка, а вочы каля самага пальца разглядзелі ледзь прыметную, крывую і шырока-разгалінаваную рысу ракі Хвошчаўкі, і накрэсленыя густа адзін на другі, няправільнай формы кружочкі вазёр, каля якіх, паўкругам рассыпаных, ледзь прыметных рысак, ляжала Яснаўскае балота, толькі тады Аксана перайшла да меншай карты. Тут яна зноў знайшла і раку Хвошчаўку, і возера Сыты мох, і некалькі меншых вазёр, якія былі злучаны з Хвошчаўкай невялічкімі балотнымі рэчкамі. На карце была адзначана і тэрыторыя навукова-даследчай станцыі, і тая частка балота, якая была ўжо асушанай.

Больш чатырох гадоў не была Аксана дома. Яна ўявіла месцы, вызначаныя на карце такімі, якімі памятае іх і падумала, што зусім не пазнае іх цяпер. Тады за кароткімі канцамі сенажацей, якімі ўпіралася шапятоўскае поле ў балоты, глухой сцяной густога зялёнага алешніку, або напалову сухога, нізкарослага, касматага хвойніку, пачынаўся балотны лес. Для Аксаны з канцом сенажацей канчалася ў гэтым баку і зямля. Далей не было ходу.

Можна ісці з Шапятоўкі напоўдзень па шляху да Пагулянкі. Можна вясковай дарогай ісці на захад у Кірпатаўку, а з яе, палявымі і лугавымі сцежкамі за рэчку, у Замасточча, Смыкі, Альхоўку, але няма дарог на поўнач і на ўсход. Там канец дарогам. Там яны ледзь прыметныя, разбрыліся па полю паміж хутарамі і губляюцца каля іх, зарастаючы ўлетку густой сакавітай муравою. Дзесці за балотамі невядомая чужая воласць, людзей з якой Аксана ніколі не бачыла ў Шапятоўцы, якіх уяўляла зусім іншымі, не падобнымі на сваіх.

З балот ішлі ў восень на Шапятоўку сцюдзёныя ветры. Зімой адтуль налятали мяцельныя і самыя марозныя ветры. Увесну плылі вільготныя, густыя туманы і цэлую вясну і лета густыя хмары куслівых камароў і машкары. Такімі, па старому, жылі ў Аксанінай памяці гэныя месцы, хоць думала яна пра іх інакшае.

Калі-б у дні свайго дзяцінства яна аднойчы знайшла рассунутай на баку сцяну густога балотнага лесу і ўбачыла-б замест яго далёкі, загублены ў тумановай сіняве небасхіл, яна адчула-б у гэтым бяскрайнасць зямных прастораў. Нешта ад гэтага дзіцячага ўспрыяцця свету жыло і цяпер у яе ўяўленні пра тое, што стала з даўно знаёмымі ёй месцамі, якія яна ўбачыць праз некалькі дзён. Яе погляд блукае па выведзеных на карце крывых і простых лініях розных форм і велічыні і, карта была каля самага вакна, па густых, зялёных верхавінах высокіх ліп у гарадскім садзе, што побач з пляцам. За ліпамі нябачна камяніц. Над імі ў глыбокім блакіце павольна праплываюць белыя кавалкі хмар. Аксане здаецца, што за ліпамі няма гораду, а пачынаецца поле. Ёй хочацца хутчэй туды. Пра гэта думае яна і не адразу разумее, што гаворыць да яе прафесар. Зразумеўшы, што прафесар развітваецца з ёй, Аксана сарамліва чырванее і вінавата ўсміхаецца.

— Значыцца а сёмай гадзіне мы з вамі ўбачымся?

— Так, так, абавязкова,—ад карты Аксана пашла да стала і села ў крэсла. Павел Андрэявіч правёў прафесара за дзверы свайго габінета і там развітаўся з ім.

Нездаволены тым, што давядзецца ўсё-ж рабіць даклад у соўнаркоме і, думаючы, каб як лепш падрыхтавацца да яго, прафесар павольна сыходзіў з лесвіцы.

У адным памяшканні з советам народнай гаспадаркі змяшчаліся яшчэ страхкаса і наркамат працы. З гэтай прычыны лесвіца заўжды была залюдненай. Тут былі і беспрацоўныя, якія па некалькі месяцаў хадзілі на біржу і, згубіўшы надзею калі-небудзь атрымаць работу, ішлі на скаргу да самога наркома; і жанчыны з дзецьмі, якія прыходзілі сюды прасіць дапамогі; і інваліды розных катэгорый, якія прыходзілі кожны па сваёй патрэбе і са сваёй скаргай. Бедна апранутыя, у парванай, улапленай адзёжы, яны таўпіліся на пляцоўках лесвіцы, стаялі абапёршыся на парэнчы, і сядзелі на вокнах. Адны абыякава, другія з зайздрасцю, асобныя са злосцю, пазіралі на прафесара. „Буржуй!"— прафесар прыпомніў першыя месяцы пасля рэволюцыі, калі яму часта даводзілася чуць за сваімі плячыма гэнае слова. Яго кідалі з пагардай і са злосцю. Тады прафесару было цяжка ад незаслужанай крыўды. Цяпер гэнага слова яму ніхто не кідае, але ён пачынае хваляваціца,

збіваецца з павольнага спакойнага кроку і спяшаецца, як мага хутчэй прайсці лесвіцу, каб абмінуць гэтых людзей.

Непадалёк, акурат па дарозе, кудой прафесару трэба было ісці, змяшчаліся сталоўка для беспрацоўных і біржа працы. Каля сталоўкі, уздоўж тратуара чарга па абед. У чарзе найбольш жанчын і падлеткаў.

Праз некалькі крокаў біржа. Гэта аднапавярховы, даўгі, з невялікімі вокнамі, даўно не фарбаваны будынак. Ён набіты людзьмі. Праз адчыненыя вокны з сярэдзіны біржы чутны крыкі і сярдзітая лаянка. Біржа набіта беспрацоўнымі, якія прышлі на чарговую рэгістрацыю. Усіх, хто прыйшоў, будынак не змяшчае ў сярэдзіне, і людзі купкамі яшчэ стаяць на тратуары, і сядзяць на высокім яго краі, які ў гэтым месцы ўзвышаецца над вулічным брукам ледзь не на поўаршына.

Тут і некалькі былых чырвонаармейцаў, былых сялян, якія не схацелі вярнуцца ў вёску пасля дэмабілізацыі, спадзяючыся знайсці хоць якую работу ў горадзе. Тут і кваліфікаваныя рабочыя розных прафесій, і людзі, у якіх прафесіі яшчэ няма, для якіх біржа парог, за якім некалі пачнецца зусім новае. Час ад часу з сярэдзіны біржы, праціскаўшыся праз густы натоўп людзей, выходзіць шчаслівец. У яго моцна заціснутая ў пальцах рукі невялікая памерам паперка—пуцёўка на працу. Вышаўшы на ганак, такі спыняецца, каб адыхацца. На твары ў яго радасная ўсмешка. Ён шырока расхінае падношаны пінжак, які дагэтуль насіў зашпіленым на ўсе гузікі. Ён асцярожна разгортвае атрыманую паперку перад зайздрослівымі поглядамі знаёмых і хоць сам добра ведае, што скурзавод знаходзіцца на Пролетарскай вуліцы каля рэчкі, пытаецца ягоны адрас у знаёмых, а пасля, усё яшчэ нясучы ў сабе ўсмешку чалавека, абрадаванага доўгачаканым, ён па-незвычайнаму шырокімі і крышку развалістымі, спакойнымі крокамі ідзе ад біржы ў цэнтр горада. На скрыжаванні вуліц ён прыпыняецца і павяртае галаву, каб апошні раз цірнуць на памяшканне біржы, а за гэтым знікае ў гарадскіх вуліцах і ўжо больш ніколі не прыходзіць у шэры, даўно не фарбаваны, аднапавярховы будынак.

Так, час ад часу па аднаму беспрацоўныя назаўжды пакідаюць біржу, але на іхнае месца прыходзяць новыя, са шматлікіх мястэчак і далёкіх вёсак і становяцца на іхнае месца ў чарзе па працу і садзяцца на іхнае месца на краю тратуара. Маладыя, моцныя людзі стомлены стаяннем у чарзе. Іхнае цела хоча рухаў, рукі тужаць па рабоце.

Вялізарная краіна пачынала жыць па-новаму. Шырокая ў сваіх прасторах, яна падымалася ў часе і выпроствалася на ўвесь свой рост. Учарайшым днём было поле, зрытае крывымі лініямі акопаў, згароджанае радамі колля, абблытанага калючым дротам. Акопы засыпалі і зааралі, калючы дрот знялі з гнілога, спарахнелага колля і пачалі абгароджваць ім сады і засеяныя палі. На месцы вогнішч, пакінутых белымі ад былых мястэчак, вёсак і гарадскіх кварталаў, сталі новыя і невялікія драўляныя дамы, і яшчэ нешматлікія прасторныя камяніцы. Над ускраінамі гарадоў, дзе нядаўна яшчэ стаялі разбураныя сцены заводаў і абломленыя каміны фабрык, усё гусцей і гусцей пасцілаўся чорны дым. Усё часцей і часцей трывожылі былы пакой гарадоў фабрычныя сірэны і гудкі паравозаў з нядаўна адноўленых вагзалаў. Сталёвымі шляхамі, працягнутымі ад горада да горада і да шматлікіх межаў вялікай краіны ішлі цягнікі, цяжка нагружаныя хлебам і машынамі, жалезам і вугалем, лесам і каменем.

Усё гэта ведаў прафесар Галынскі, але яму хацелася спрачацца з Паўлам Андрэявічам і ад таго, кідаючы косыя погляды на беспра-

цоўных, ён іранічна ўсміхаецца, уяўляючы перад сабой Паўла Андрэявіча.—„Мы павялічым прасторы сваёй зямлі. На былой балотнай багне вырасцуць два з паловай дзесяткі заводаў, вырасце новы соцыялістычны горад".—Прыпомніў ён апошнія словы Паўла Андрэявіча і ўхмылка на ягоным твары стала большай.—„Пра дзесяткі заводаў і пра новыя гарады марыце, а галодных людзей, якім няма з чаго жыць, якім няма да чаго прыкласці сваіх здаровых яшчэ рук, гэных людзей вы не заўважаеце і не хочаце заўважаць. А можа вы думаеце перасяліць іх у свой новы соцыялістычны горад? Ха-ха!—прафесар адчуў задавальненне ад таго, што змог знайсці аргуманты для спрэчак з Паўлам Андрэявічам.—Ха-ха, спрабуйце, хочаце, каб і я верыў разам з вамі ў гэта?.. Як хочаце, мне ўсёроўна. Я рабіў і раблю сваю справу незалежна ад таго, патрэбна яна вам, ці не патрэбна.—Прафесар пацісну́ў плячыма.—Думаеце, што не так? Як хочаце думайце, справа ваша".

Заняты гэткімі разважаннямі, уяўляючы, што ён спрачаецца з Паўлам Андрэявічам, прафесар з хітраватай скептычнай ухмылкай пазіраў на небагата прыбраныя вітрыны кааперацыйных крам і на чароды каля іх, а злослівыя крыкі ў чарзе, якія раней раздражнялі прафесара, як і цеснага і штурханіна на без меры вузкіх тратуарах, цяпер толькі павялічвалі ягонае пачуццё задаволенасці. З гэтай прычыны прафесар з паўгадзіны без дай прычыны праблукаў па гораду і пашоў у гасцініцу, як стаміўся. У гасцініцы, скінуўшы з ног запыленыя гамашы, зняўшы пінжак, лёг адпачыць.

Паседжанне соўнаркома, на якім слухаліся даклады пра пабудову энерга-хімічнага камбіната на Яснаўскім балоце, адбылося роўна праз шаснаццаць дзён пасля гэтага.

Машына, на якой прыехалі Павел Андрэявіч і прафесар, з павароту паціху прайшла за высокую загароду прасторнага, былога архірэйскага двара і, калі завярнуўшыся, непрыметна спынілася непадалёк ад высокага ганку, прафесар, выйшаўшы з яе, разглядзеў двухпавярховы, былы архірэйскі асабняк. Знадворку быў гэта будынак старога казённага тыпу з нізкаватымі няўмеру тоўстымі сценамі, якія ўгадваліся па вокнах. Вокны вузкія, хоць і даволі высокія, напомнілі прафесару сваёй формай царкоўныя.

За падвойнымі дзвярыма, за ганкам у баку сядзеў каля століка міліцыянер. Ён прывітаўся з Паўлам Андрэявічам, якога ведаў і папрасіў ісці на другі паверх. На верхняй пляцоўцы, па абодва бакі якой былі дзверы-адна ў канцылярыю соўнаркома, а другая ў залу паседжанняў,—прафесар змеціў вешалку. Некалькі паліто і шапак, ды яшчэ нейчы, з загнутым дзяржаннем, кіёк што віселі на вешалцы, сведчылі пра тое, што зала ўжо не пустуе.

Свой партфель прафесар паклаў на стале побач з месцам, якое абраў сабе Павел Андрэявіч, а сам адышоў да сцяны, каб разглядзець карціны, размешчаныя там. Ідучы да сцяны, прафесар зазірнуў у сад, які пачынаўся адразу за домам у некалькіх метрах ад яго і цягнуўся радамі па схілу ледзь не да самай рэчкі. Нахіл быў круты і прафесар бачыў з вакна роўныя верхавіны нізкіх садовых дрэў і над імі, у канцы, рад высокіх ліп, якім дрэвы садовыя былі ў палову росту.

Карціны, размешчаныя па сценах залы паседжанняў, былі сведчаннем барацьбы за совецкую рэспубліку. Самым крайнім на сцяне супроць стала прэзідыума мясціўся вялікі фотоздымак групы дэлегатаў першай партканферэнцыі, былых катаржан. Сярод іх прафесар знайшоў і таварыша Андрэя. У чорным паліто і высокай шапцы-ку-

чомцы ён сядзеў сярод іншых, закінуўшы нагу за нагу, прытрымліваючы рукой палу паліто. Ззаду за плячыма групы высілася глухая, з плямамі голай цэглы, дзе адвалілася атынкоўка, сцяна. Побач, каля сцяны, крывое, бязлістае, сукаватае дрэва. Дэлегаты зняліся каля турэмнай сцяны. Адсюль яны пачыналі свой шлях у далёкую заснежаную Сібір, на катаргу, а на дрэве некалі быў павешаны іхны таварыш, партрэт якога прафесар бачыў на сцяне побач з іншымі.

Усхваляваны стаяў прафесар каля здымка і не заўважыў, як падышоў і стаў побач з ім Павел Андрэявіч. Павел Андрэявіч у каторы ўжо раз перачытваў надпіс, зроблены на здымку, але сёння, як ніколі, з вялікай сілай надпіс абудзіў успаміны. Можа таму, што ўвесь гэны час Павел Андрэявіч выношваў у думках новае, што павінна ўзняцца над балотнай багнай, і цяпер адчуў небачную ніць, якая звязвае гэнае новае з тым былым.

...З двара выехала чатыры фурманкі з багажом, а за імі ў беспарадку даўгой чарадой пайшлі людзі, катаржане. У старых, стаптаных гамашах, некаторыя ў лапцях, некаторыя ў валенках. У многіх на плячах зношаныя і падраныя турэмныя халаты, у другіх так-сяк пасшываныя кавалкі старых, парыжэлых аўчын, напамінанне пра былыя кажухі.

Людзі кожны з самім сабой, са сваімі думамі ідуць павольнай і цяжкай хадой, а ззаду за імі, ляніва ступаючы ў снег цяжкімі ботамі, ідзе салдацкі канвой.

Засталася ззаду даўгая вуліца Бусць-Карыйскага паселішча. Ужа завярнулі фурманкі на раку Шылку і пашлі па ільду. І тады, калі Кара, дзе многімі былі пражыты гады катаргі, засталася ззаду, гэтым захацелася азірнуцца. Фурманкі павольна паўзлі па ільду, а людзі без згавору спыніліся і стаялі так некалькі хвілін, сагнуўшыся ад холаду, хаваючы ў рукавы халатаў, паліто і кажухоў змёрзлыя рукі.

Бывай, катарга!

Крычыць адзін, але ў кожнага хваравіта крывіцца твар і кожны прыкусвае губы, каб прамаўчаць гэныя кароткія хвіліны. Ззаду гады катаргі. А наперадзе?

Уснежаны халодны прастор будзе сляпіць сваёй бялявасцю стомленыя ад бяссонніц вочы. На ім першы ў дарозе Шылкінскі этап і за ім вымалёўвалася невядомая будучыня вечнага пасялення.

Наперадзе будзе цераз пяць дзён Стрэценск. Будзе страшэнная стомленасць, голад і адмарожаныя вушы, шчокі і ногі. Пасля будуць чатыры з паловай месяцы даўгой, цяжкай дарогі да Іркуцку і будзе за Іркуцкам апошняя Якуцкая турма. А за ёй адзін са шматлікіх якуцкіх улусаў і ў улусе, далёка ад радзімы, без усялякай надзеі на зварот, вечнае пасяленне.

На шляху да якуцкай турмы будуць брудныя халодныя этапы, паверкі на марозе і будуць вастрогі: нерчынскі, чыцінскі, верхнеудзінскі і іркуцкі. Перад Іркуцкам Байкал. Будуць перадвясеннія дні і ў людзей ногі напоўбосыя і адмарожаныя будуць грузнуць у дарозе па тракту, што віецца паўз бераг Байкала, будуць шлёпаць па халоднай вадзе, якая лужынамі стаіць на паверхні, на ільду.

Прашчай, катарга!

Мароз. Каб нагрэцца, трэба ісці хутчэй. Ісці цяжка. Ногі коўзаюцца ў сухім снезе, цяжка пераступаюць з месца на месца. Сыпучы, непрытаптаны снег замінае хадзе. Вакол асляпляюча чыстая бялявасць. Яна рэжа, стамляе вочы. Ад таго людзі пазіраюць сабе пад ногі і ўслухоўваюцца ў сваю хаду.

Наперадзе скрыпяць палазы фурманак. Угары над заснежанымі

бяскрайнымі прасторамі валавяныя хмары. Стомленасць цісне ўніз галаву, прыгінае плечы, прытупляе свядомасць і сцірае гастрыню цяжкога настрою...

— Пазналі?—Голас у Паўла Андрэявіча ціхі ўсхваляваны.

— Так, так, пазнаў адразу,—кажа прафесар і дзівіцца на ажыўленыя ўспамінамі вочы Паўла Андрэявіча.—Катарга, дарога на катаргу,— кажа ён.—Гэта тысячы кілометраў пешшу? Я не разумею, як вытрымлівалі чалавечыя ногі.—Прафесар усё яшчэ дзівіцца Паўлу Андрэявічу ў твар. Па ягоных вачах прафесар угадвае ціхую нутраную дрож успамінаў.

— Я і сам цяпер добра не разумею, як у мяне пасля таго засталася такая сіла. Цяпер гэта, як бы сон.

— Цяжкі сон,—кажа прафесар і абодвы яны ўсміхаюцца і павяртаюцца, каб пайсці на свае месцы. У гэты час з задрапіраваных дзвярэй, у якія можна прайсці, абмінуўшы край стала прэзідыума, выйшла трое чалавек. Адзін з іх падаўся крок наперад, прывітаўся з Паўлам Андрэявічам, а пасля падаў руку прафесару.

— Міхаіл Палікарпавіч? Наш сёнешні імяніннік? Віншую, вельмі рад пазнаёміцца. Я два разы прачытаў вашу запіску, каштоўнейшы дакумант. Ведаеце, чым яна мяне скарыла? Я неяк па-новаму адчуў, якая багатая наша краіна. Чытаеш вашу запіску і бачыш, якім магутным волатам падымаецца наша зямля. А якія сілы ў ей! А гэта-ж нашы сілы. Зямлю рэволюцыя амаладзіла, як і народ. А ў народзе якія сілы! А таксама-ж нашы яны, нашы, а не чые-небудзь. Усё лепшае, што ёсць у чалавецтве, усё яно наша. І калі не сёння, дык заўтра абавязкова будзе нашым. Мы-ж, большэвікі, выцягваем калымагу гісторыі з ямы, куды яе зацягнуў капіталізм, мы выратуем дарагія чалавецтву каштоўнасці. Ведаеце, Міхаіл Палікарпавіч,—ён падаўся бліжэй да стала і паклаў на стол партфель, які да гэтага трымаў у руцэ.—Вы інтэлігент і яшчэ старой закваскі. Сярод гэтай інтэлігенцыі багата сумленнейшых людзей, каштоўнейшых, але прабачце мяне за рэзкасць, ёсць і нягоднікі, людзі тыповага лекайскага склада. Ніяк яны не хочуць працаваць разам з намі, усё яшчэ служаць сваім былым гаспадарам і стараюцца нагадзіць нам. А некаторыя-ж з іх некалі прыгожа ўмелі гаварыць пра народ, пра яго цяжкі стан. Прабачце, што я скажу нешта не зусім прыемнае на адрас усяе карпарацыі старой інтэлігенцыі. У яе было больш любові да прыгожых слоў аб народзе, чым да прыгожых спраў для яго. І гэткая, ведаеце, бездапаможнасць у справе. Нават найбольш сумленныя з інтэлігенцыі хутчэй былі толькі прапаведнікамі. Праўда, тады і гэта было вялікай справай. Не ў кожнага хапала сіл быць рэволюцыянерам, ды яшчэ па-нашаму большэвіком. Але сёння нам такія прапаведнікі зусім не патрэбны. Сёння што-ж прапаведваць? Найвышэйшыя агульна-чалавечыя ідэалы большэвікі ператвараюць у справу. Ведалі вы гэныя ідэалы? Жадалі вы іхнага ажыццяўлення? Тады станавіцеся побач з намі і давайце разам і будзем выцягваць з ямы завезеную туды калымагу. Цяжка? Ну, што? Безумоўна цяжка, але затое-ж якая дарога наперадзе!

Прафесар упяршыню бачыў так блізка гэтага худашчавага чалавека, твар якога сведчыў аб моцнай волі і бязмерна вялікай энергіі, настойлівасці, што бытавалі ў ім. Некалі ён бачыў скульптурны злепак гэтага твару. Часта бачыў яго на партрэтах. Цяпер ён упэўніўся, што ні мастакі, ні скульптар не хлусілі. У сапраўднасці твар быў яшчэ багацейшым у яго рухавасці і ветлівасці, якая час-ад-часу выглядала з-за суровага аблічча. Гэтага не змаглі перадаць ні мастакі,

ні скульптар. Прафесар паглядаў на ягоны твар, звяраючы сваё ўражанне, слухаў, як гаворыць гэны чалавек і дзівіўся ўпэўненасці, што гучэла ў ягоных словах. Было нешта агульнае ў гэтым паміж ім і Паўлам Андрэявічам, тое, што прафесар згодзен быў прылічыць да якасцяй, уласцівых гэткай катэгорыі людзей. Як і ў словах Паўла Андрэявіча, у словах гэтага чалавека была яшчэ большая сіла сцвердження.

— Пад уплывам вашай запіскі,—сказаў старшыня Соўнаркома,— я зусім стаў падобны да лірычнага паэта.

— Нашаму часу лірызм вельмі патрэбен.

— Правільна. Нам патрэбна ўсё добрае і карыснае. А скажыце, Міхаіл Палікарпавіч, як у вас там жывецца? Можа патрэбы вялікія ў чым маеце? Там у вас багата каштоўнейшага чалавечага матар'ялу, а мы, занятыя сваімі справамі, не заўжды ўспомнім што вам трэба. Вы павінны часцей наведваць нас і патрабаваць калі што трэба, бо, як будзеце маўчаць, мы будзем думаць, што ў вас усё добра.

— Мы гэта ўлічым,—прафесар усміхнуўся, дзякую.

— Так, абавязкова часцей нам дакучайце. А цяпер будзем пачынаць паседжанне. Ваш даклад другі па парадку.—Старшыня Соўнаркома кіўнуў галавою і пашоў за стол на сваё заўсёдашнее месца.

Ні першага дакладу, ні спрэчак, якія разгарнуліся пасля яго, прафесар амаль не чуў. Ён перагортваў старонкі сваіх матэрыялаў, раіўся з Паўлам Андрэявічам, і час-ад-часу дробнымі, ледзь прыкметнымі літарамі, рабіў новыя запісы на старонках свайго дакладу. І калі старшыня саўнаркома назваў яго прозвішча, даючы яму слова для дакладу, прафесар некалькі разгубіўся. Гэтая разгубленасць пасілілася, калі ён падняўся з-за стала і пайшоў да трыбуны.

— ... Яснаўскае балота, разам з блізкімі да яго, складае адзіны масіў у пяцьдзесят сем тысяч трыста гектар. Тыповае, векавое балота, якое па сваіх памерах, магутнасці, канфігурацыі, геаграфічнаму стану і якасці торфа ўяўляе велізарную каштоўнасць. Сярэдняя глыбіня пакладу 3,56 метра. Цеплатворная здольнасць ад трох тысяч шасцісот калорый пры дваццаці пяці процантах вільготнасці, да чатырох тысяч ста. Попельнасць у сярэднім два і пяцьдзесят шэсць сотых проценту. Па сярэдняй арыфметычнай мы атрымаем шэсцьдзесят шэсць кілограмаў паветрана-сухога торфа з аднаго кубаметра сырца, а ўвесь запас паветрана-сухога торфа, які мы атрымаем з балота, складае сто сорак адзін мільён тон.

Пністасць сярэдняя. Першы гарызонт пней на глыбіні аднаго метра, другі на глыбіні двух з паловай—трох метраў... Для лясістасці характэрна карлікавая сасна ў два-тры метры вышыні. Дзе сушэй, бярэзнік, на сухадолах і каля азёр вялікія хвоі, нават годныя для будоўлі...

Пукатая паверхня балота з нахіламі ад сярэдзіны, якія павялічваюцца з набліжэннем да водапрыймальнікаў, стварае добрыя ўмовы для асушэння яго. Асноўны водапрыймальнік—рака Хвошчаўка, шматлікія прытокі якой забяспечваюць сцяканне балотнай вады з усіх бакоў балота...

Прафесар адышоў ад трыбуны да шчыта, на якім мясцілася карта яснаўскага балотнага масіва. Блукаючы па карце тупым канцом алоўка, паказваючы на ёй і раку, і яе прытокі так, каб іх бачылі прысутныя ў залі, накрэсліваючы поўкруглымі рухамі алоўка ад сярэдзіны напрамкі паземнікаў, ён бачыў перад вачыма жывыя імшары балот, раскінутыя на дзесяткі кіламетраў і спакойна апавядаў пра іх, даўно запамятаўшы на разгубленасць, якая ў пачатку перашкаджала гаварыць...

— ...Электрастанцыя магутнасцю ў чатыраста тысяч кіловат, якая ў наступным будзе ўключана ў адзіны энерга-вузел Саюза. Яна дасць энергію заводам некалькіх гарадоў, сельскай гаспадарцы і электрыфікаваным чыгункам... Брыкетны завод з вырабам двухсот пяцідзесяці тысяч тон брыкета ў год... Завод тарфяных ізаляцыйных пліт з вырабам шасці мільёнаў квадратовых метраў у год... Трыста пятнаццаць тысяч тон кокса... Завод сінтэтычнага каучука... Папярова-картонная фабрыка... Заводы смала-перагонны і газавы... Заводы па перапрацоўцы сапропеляў, пакладамі надзвычай багаты шматлікія вазёры, што знаходзяцца на тэрыторыі яснаўскага масіва. Яны дадуць тысячы тон маторнага паліва, парафінаў, мяцілавага спірытуса, ацэтону, воску... Заводы селікатнай прамысловасці... горад, які павінен умясціць у сабе дзесяткі тысяч рабочых з іхнымі сем'ямі...

Далёкія балотныя імшары ажываюць ва ўяўленні прафесара. Ён бачыць, як падымаецца з багны, затоптаная туды тысячагоддзямі зямля. Амалоджаная, падымае яна бясконцыя свае багацці і, шчодрая ў сваіх дарунках, перадае іх людзям. Прафесар бачыць гэных людзей. Яны не падобны на тапельца, які некалі на яго вачах кінуўся ў возера. Яны не падобны і на тых, што некалі прыходзілі ў панскі двор прасіць Пілацеева аб сваёй зямлі. Яны іншыя.

Прафесар скончыў і сеў. Некалькі кароткіх адказаў на запытанні. Кароткае паведамленне Паўла Андрэявіча пра арганізацыю падрыхтоўчых работ па будаўніцтву камбіната, а пасля зноў, як і перад паседжаннем, прафесар з цікавасцю сочыць за тварам худашчавага сярэдня-рослага чалавека. Зараз гаворыць ён. Спакойна, усё з той-жа ўпэўненасцю ў голасе і з той-жа сілай сцвержання ў словах.

А пазней, седзячы ў аўтамашыне поруч з Паўлам Андрэявічам, прафесар нанава разглядаў і яго. Упершыню за ўвесь час знаёмства знікла насцярожанасць у адносінах да яго, якую заўжды адчуваў і не было жадання спрачацца. Прафесар нават злавіў сябе на тым, як некалькі разоў ён горача падтрымаў Паўла Андрэявіча ў ягоных меркаваннях і гэта некалькі здзівіла і напалохала яго.

## ПАДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

Быў самы ранак, час, калі пачынае сыходзіць з зямлі туман і з тумана, паступова разгортваючы сваімі промнямі яго заслону, выходзіць сонца. Яно не грэе. Цмянае сонцавае кола кружыцца за туманавай заслонай над самымі балотамі і вільготнай мякаццю яго сцірае з сябе санлівасць. Туман радзее, а сонцаў круг усё чысцей, усё яскравей і рухавей. Пакуль сонца ў тумане, сабраная ў кроплі раса нерухома трымаецца на мураве, і колер муравы мутнавата-зялёны. У ветра да сонца рухі няўпэўненыя і блытаныя. У птушак галасы нясмелыя, птушкі не спяваюць яшчэ, а як-бы пераклікаюцца адна з другой пасля начы. Як толькі ўзнімаецца ўгору абмытае росамі сонца, а туман пачне аплываць за асмялеўшым ветрам на ўсход, як бы згаварыўшыся, разам пачнуць свой ранішні спеў птушкі, густалісты асіннік і бярэзнік заварушацца, гойдаючы тонкімі верхавінамі, падстаўляючы гнуткія свае галіны пад лёгкія і ўчэпістыя птушыныя ногі. Варухнецца мурава пад ветрам і заіскрыцца расой. Залачонымі пырскамі будзе ўзлятаць з-пад ног раса збітая з муравы, а прымятая нагамі мурава будзе павольна падымацца насустрач сонцу і будзе зелянець вузкай сцежкай цераз увесь поплаў.

Іх трое: Павел Андрэявіч, галоўны інжынер будаўніцтва, і прафе-

сар Галынскі. Інжынер час-ад-часу спыняецца, азіраецца навокал і паказвае, дзе размесцяцца заводы камбіната. Інжынер хваліць мясцовасць.

— Праўда,—кажа ён,—ёсць свая прыгажосць і ў стройнасці заводскіх гмахаў, і ў рухах машын. Яе нават не менш там, чым у прыродзе, але яна іншая і мы пакуль што не ўмеем зрабіць так, каб *побач* з ёй захаваць і вось гэта.—Ён паказвае на прыазёрны лес.

— Навучыцца гэтаму не так цяжка,— кажа да яго Павел Андрэявіч і прафесару да злосці хочацца спрачацца з ім.

— Думаеце, што не цяжка? а мне здаецца, што гэта дужа цяжка. У нейкім сэнсе гэта нават цяжэй, чым пабудаваць самы камбінат, чым стварыць новую прыгажосць, пра якую гаворыць інжынер.

— Чаму?—дзівіцца Павел Андрэявіч.

— Хоць бы таму, што будуючы, зусім не трэба, каб усе рабочыя былі інжынерамі і нават кваліфікаванымі будаўнікамі. А каб захаваць гэта,—прафесар паказаў рукой на лес каля возера,—неабходна, каб усе, хто будзе жыць тут і хадзіць па гэтых месцах, каб яны былі культурнымі. Навучыцца класці з цэглы сцяну лягчэй, чым авалодаць нават самымі пачаткамі культуры.

Прафесару сёння, як ніколі, хочацца спрачацца з Паўлам Андрэявічам. Ён злуе і ад гэтага адыходзіць троху ў бок, за інжынера, каб не ісці поруч з Буднікам. Асобна ідзе ён і тады, калі ўвайшлі ў асіннік. Інжынер тады пайшоў следам Паула Андрэявіча, а прафесар адзінцом з боку. Густы асіннік перашкаджае ісці. Ён расхінае галлё, каб прайсці. Часта згінаецца, часта павяртаецца бокам, на твар чапляецца павуціннe. З лісцяў ападае на яго раса, але ён ідзе так адзінцом аж да самага возера.

Возера яшчэ ў цяньку. Сонцам асветлены толькі напалову лес на супроцьлеглым беразе, ды верхавінне асінніку. Ля возера густая і высокая трава. Ад расы мокнуць боты і нават штаны на каленах мокрыя.

— Велізарнае возера,—кажа інжынер.—І якая тут цішыня. Лес той,—інжынер паказвае рукой на высокія алешыны на супроцьлеглым беразе,—далёка цягнецца? Які там прыгожы бераг!

Прафесар даўно пазірае на той бок возера. Ён бачыць высокі абрывісты бераг і ў ім вузкую сцежку да самай вады. Сцежка, як бы вырытая. Па абодва бакі яе алешыны і густыя кусты. Угары густое галлё алешын і сцежка цямнее чорнай плямінай тунеля, прарытага ў зелені лісця. Месца гэнае непадалёк ад таго, скуль некалі—прафесар прыпомніў гэта цяпер,—кінуўся ў возера селянін.

— Тут надзвычай прыгожая мясцовасць,—гаворыць і Павел Андрэявіч.—Мы захаваем лес каля возера не кранутым. Возера будзе месцам здаровага адпачынку.—І запознена адказвае інжынеру.—А лес цягнецца вельмі далёка.

— І якое багацце колераў і фарбі—дзівіцца інжынер.—А там зялёны тунель. Тудой напэўна некалі прыходзілі да возера піць ваду мядзведзі і ласі.

— А цяпер ходзяць звычайныя сялянскія каровы,—перабівае яго прафесар.

— Гэта, напэўне, так,—згаджаецца інжынер, і, не разумеючы прычыны прафесаравай раздражненасці, нейкі час дзівіцца на яго. Украдкам паглядае на яго і Павел Андрэявіч і злёгку ўсміхаецца. Прафесар угадвае гэную ўсмешку і яшчэ больш злуе.

— Некалі людзі не заўважалі прыгожасці прыроды.—Словы гэныя вымаўляе паціху, як бы гаворыць іх самому сабе,—Кавалак хлеба чалавеку даводзілася вырываць у яе з зубоў. Прырода помсцілася.

Яна была страшнай для нашых даўніх продкаў, а не прыгожай. Вы не ведаеце падання аб гэтым возеры, якое жыве ў народзе? Яно сведчыць пра тое, што я кажу. У тую пару ў чалавека не было разладу з самім сабой. Цэльнасць, адзінства натур было вялікае. Не было канфлікта ў сабе. Канфлікт быў з прыродай, з яе стыхіямі, супроць якіх чалавек меў усяго сябе. А ў наш век трагедыя чалавека ў ім самім, у канфлікце з самім сабой.

— Наш век знішчыць гэны канфлікт.

— Пакуль што атрымліваецца акурат наадварот. Рэволюцыя абвастрыла яго, а не змякчыла.

— І ўсётакі, Міхаіл Палікарпавіч, наш час створыць чалавека цэльнай натуры. Гэта будзе незвычайна багатая натура і цэльная. Такія людзі ўжо ёсць і сёння.

— Адзінкі такіх былі заўжды.

— Сёння гэта ўжо не адзінкі, а нешта большае.

— Быў бы вельмі рад, калі-б гэта было так.

— А яно так і ёсць, Міхаіл Палікарпавіч. Вы ў сваіх вывадах грунтуецеся на нагляданнях за інтэлігенцыяй, у адносінах да якой вашы вывады ў значнай долі правільныя, але сёння грунтавацца толькі на гэтых нагляданнях нельга, каб рабіць вывады для больш шырокага круга людзей.

— Прабачце, Павел Андрэявіч,—прафесар паспрабаваў іранічна ўсміхнуцца.—Я запамятаў, што на сёнешні дзень інтэлігенцыя перастала быць мернікам чаго-б там ні было. Я часта мыслю па аналогіі з былым, калі інтэлігенцыя азначала напрамак грамадскай думкі, густаў, калі можна было сказаць, што інтэлігенцыя, гэта вось грамадства.

— Гэтага ніколі не было, Міхаіл Палікарпавіч. Інтэлігенцыя ніколі не была нечым цэльным.

Інжынер нейкі час моўчкі слухаў спрэчкі Паўла Андрэявіча з прафесарам, а пасля і сам умяшаўся ў іх і то згаджаўся з прафесарам, то спрачаўся і з ім і з Паўлам Андрэявічам. Ужо сонечныя промні дасяглі вазёрнага берага, спаўзлі з яго ў ваду і пачалі расплывацца па ёй, усцілаючы неспакойнымі бляскамі паверхню возера, над якой падымалася пара.

Паўз бераг возера яны дайшлі да месца, дзе недаўгім рукавом яно злучаецца з Хвошчаўкай і пашлі далей да рэчкі і паўз рэчку да чыгуначнага маста.

— Горад будзе тут,—Павел Андрэявіч паказаў рукой за рэчку.— Здаровае, высокае месца. Значную частку лесу можна будзе не крануць.—Ён павярнуўся тварам да лесу і за ім павярнуў туды твар і Міхаіл Палікарпавіч.

Спрэчкі іхныя абарваліся яшчэ па дарозе да маста і цяпер Міхаіл Палікарпавіч маўчыць. Ён ведае, што праз нейкі час Павел Андрэявіч прыедзе сюды назаўжды. Ім рабіць адну справу. Давядзецца часта быць разам і разам вырашаць вельмі важныя пытанні. Як-жа складуцца іхныя адносіны ў далейшым? Сёння ў спрэчках з Паўлам Андрэявічам ён залішне гарачыўся. Гэтага не трэба, гэта зусім лішняе. Трэба быць спакойным. Урэшце, яму якая-ж справа да Паўла Андрэявіча? З чым можна будзе,—згодзіцца, а з чым нельга—не згодзіцца, не прыме таго і ўсё. Ніякіх спрэчак не трэба.

Так думае Міхаіл Палікарпавіч і сочыць поглядам за селянінам, які ідзе з лесу па вузкакалейцы. Яму здалося, нібы ў селяніна левая рука абвісла з боку, як не жывая і ён прыглядаецца да рукі. Селянін ідзе, не спяшаючыся, і хутка прафесар здагадваецца, што ў яго левай рукі зусім няма, што левы рукаў світкі пусты. Пад шэрай, па-

лінялай і парыжэлай світай у селяніна белая, з свайго палатна, кашуля. Па кашулі падпеdo пояс. Пачосныя штаны ўнізе падвязаны аборачкамі, каб не матляліся. Ногі босыя. Ідзе селянін ужо не па пяску вузкакалейкі, а па зямлі побач з ёй і, як ступае пятамі аб зямлю стука, і крокі ягоныя звіняць.

З балота да рэчкі ідзе поезд. Поезд здалёк дае папераджальны свісток і ўсе трое сходзяць з маста насустрач селяніну. Калі поезд абмінае іх, спыняецца і селянін, і, як і яны, пазірае на рэйкі, па якіх коцяцца даўгой паскай вагончыкі, гружаныя торфам.

Калі поезд праехаў мост, селянін памкнуўся быў ісці, але Павел Андрэявіч прывітаўся з ім і запытаў скуль ён.

— Я Шапятоўскі.

— А як ваша прозвішча?

— Каляда. Сузон Каляда.—І селянін пазірае ў твар Паўлу Андрэявічу.

— Сузон Каляда? Я памятаю вас. Непадалёк ад школы жылі?

— Ага,—селянін зусім здзіўлены і прыглядаецца да Паўла Андрэявіча, каб пазнаць яго. Ён нават на крок падаецца наперад каб уважлівей прыглядзецца да чалавека які яго ведае, але пазнаць Паўла Андрэявіча не пазнае.

— А памятаеце,—пытае Павел Андрэявіч,—двое вашых у *Сібір* ездзілі, як яны?

Селянін не спяшаецца адказаць, ён ведае пра каго пытаюць і пачынае аб нечым дагадвацца.

— А няўжо-ж гэта вы?—Селянін падаецца яшчэ бліжэй да Паўла Андрэявіча.

— Я.

— Таварыш Буднік?

Цяпер зусім здзіўленымі стаяць і інжынер, і Міхаіл Палікарпавіч якія ўпершыню пачулі гэтае прозвішча Паўла Андрэявіча.

Селянін, міргаючы вачыма, падае Паўлу Андрэявічу руку.

— Дык-жа добрага дня вам. Як-жа гэта вы да нас патрапілі? Ага!—Ён прыпамінае пытанне Паўла Андрэявіча.—Жывы і Тарэнта Шкробат, і Мікода Жук. Усе жывы. Гэта вось,—селянін паказаў рукою за рэчку ў напрамку былога панскага двара,—акурат тарэнтаў хутар.

Павел Андрэявіч запрапанаваў сваім спадарожнікам пайсці на хутар.—Я некалі ў гэных месцах жыў,—сказаў ён,—і шмат каго ведаю з тутэйшых сялян. Вось яго,—Павел Андрэявіч паказаў на Каляду,— Шкробата гэтага самага добра ведаю і яшчэ некаторых. Калі не пярэчыце, я дужа хацеў бы зайсці на гэны хутар. У яго знойдзецца паснедаць?—звярнуўся ён да селяніна.

— Ато чаму-ж не? жыве ён цяпер добра, лепш за ўсіх нас. Некалі мы, як бы роўныя былі,—сказаў селянін з крыўдай у голасе, а цяпер няроўна жывем.

— Зойдзем на хутар?—пытае Павел Андрэявіч у прафесара,—вы не пярэчыце, Міхаіл Палікарпавіч?

— Давайце, давайце, я у ахвоту вып'ю малака, калі яно знойдзецца.

— Чаму-ж не знойдзецца, грамадзянін? Малака ў яго хоць заліся. Гэта калі-б да мяне, вы, скажам прышлі, то ўжо за малако прабачылі-б, няма яго ў мяне, а ў Тарэнты і малако знойдзецца і да малака што-ні што знойдзецца.

У голасе селяніна Павел Андрэявіч угадвае крыўду, якую ён наўмысля як-бы выказвае, каб яе пачулі. Па дарозе селянін паказаў пусты левы рукаў.

— Шчэ на старой вайне страціў,—сказаў ён,—а цяпер з-за яе па-

кутую ўсё жыццё. Скажам, зямлю і я атрымаў, як і іншыя, але які-ж я на той зямлі работнік з адной рукой? Палавіны мяне няма.—Селянін выставіў здаровую руку наперад.—Каля зямлі хадзіць аднае рукі мала. Тарэнта вось некалі таксама нічога не ўмеў, але ўстаў на ногі, а ў мяне ва ўсім неўпраўка. Я і на хутар свой ніяк вось не перабяруся, усё на старым двары сяджу. І не тое, каб я не хацеў перабірацца, на чужым мне сядзець не салодка, але куды-ж я тую парахню перакідаць буду? Я таму і хадайнічаў, каб хоць два гады яшчэ пажыць на месцы, можа-б хату якую паставіў сабе.

Селянін спадзяецца, што Буднік зможа яму дапамагчы ў нечым і таму падрабязна апавядае пра сябе, спяшаючыся сказаць усё, баючыся, каб хаця што не засталося невыказаным.

Ён ішоў побач з Паўлам Андрэявічам да самага Тарэнтавага двара, а як наблізіліся да двара, пайшоў і адчыніў фортку. Двор Тарэнтаў абгароджаны частаколам. З-за частаколу хата двума вокнамі пазірае на паўднёвы ўсход, двума на поўднёвы захад. З хаты Тарэнта бачыць увесь свой хутар, кожнага чалавека, які забрыдзе на яго зямлю. І на гэны раз ён даўно змеціў чатырох чалавек, што ішлі па сцежцы ад рэчкі. Ён пазнаў Сузона і пачаў прыглядацца хто з ім яшчэ. Нікога акрамя Сузона не пазнаў, калі чацвёра падыйшлі і да самага двара. Сузон адчыніў фортку і даў чужым людзям раней зайсці ў двор, а пасля ўжо сам зайшоў і усміхнуўся да Тярэнты, які збянтэжыўшыся падаўся насустрач прыйшоўшым.

— Небось, не пазнаеш?—Сузон спыніўся перад Тарэнтам з хітраватай усмешкай.—Дзе табе пазнаць. Як разбагацеў, то цяпер ён не пра тое думае,—кажа Сузон да Паўла Андрэявіча.

— А такі і не пазнаю, мусіць,—Тарэнта падае руку Паўлу Андрэявічу, пасля інжынеру і прафесару.—Можа калі дзе і бачыліся, ці мала людзей было ў акопах? Я-ж пяць гадоў ваяваў.—Ён прыплюшчвае вока, ад чаго правая шчака падцягваецца ўгору, і на твар з кутка паміж прыўзнятым правым вусам і барадой выпаўзае хітраватая ўсмешка.

— Разбагацеў, на старое запамятаў,—жартуе Сузон.—Запамятаў, як некалі на маім двары збіраліся?

— Нічога я не запамятаў.—Тарэнта пазірае, як і раней Сузон, здзіўлена і проста ў твар Паўлу Андрэявічу. Павел Андрэявіч маўчыць і ўсміхаецца.—Хіба-ж настаўнік наш?

— Вот жа-ж—настаўнік, а ты і не пазнаў. Мала цябе, відаць настаўляў таварыш Буднік,—зноў жартуе Сузон і задаволена ўсміхаецца У ягоным голасе адчуваецца і злосць. Тарэнта гэтак жа, як і раней у лесе Сузон, яшчэ раз падае Паўлу Андрэявічу руку.

— Глядзі ты! А я ніколі не пазнаў бы калі-б адзін на адзін сустрэліся.—Ён уважліва ўглядаецца ў Буднікаў твар.

— Дзе там! Ніколі не пазнаў-бы, ні за што!

Абрадаваны такім спатканнем, Тарэнта кінуўся да хатняга ганку і адчыніў дзверы.—Заходзіце-ж, гэта-ж такія госці! Мы з таварышам Буднікам,—звяртаецца ён да прафесара і інжынера,—некалі яшчэ зналіся, як ён у нас дзяцей вучыў. Нас таварыш Буднік рэволюцыі навучаў тады.

— А таварыш Тарэнта ніяк мяне слухаць не хацеў, усё справядлівасці шукаў.

— Ды яно шукаў, аж пакуль у вастрог трапіў. І вы-ж здаецца, некуды трапілі тады?

— Я трошку далей, чым у вастрог. Я ў Сібір схадзіў.

— Такі значыць, былі на катарзе?

Гаворачы, Тарэнта завёў гасцей на чыстую палову хаты і запрасіў іх сесці. У хату ўвайшла гаспадыня, павіталася з незнаёмымі людзьмі, пакланіўшыся ім, і рушніком, які трымала ў руцэ, сцерла з услончыкаў пыл.

— Сядайце—запрапанавала яна.—Сядай і ты, Сузон, чаго-ж стаіш— Мятнула яшчэ рушніком па стале і выйшла. Следам за ёй выйшаў сам Тарэнта.

Прафесар, як слухаў гутарку Паўла Андрэявіча з Тарэнтам, прыпомніў, што некалі, ад'язджаючы з гасцявання ў Пілацеявых, ён дагнаў сялян, якіх гналі стражнікі ў астрог, а за гэтым прыпомніў і народнага вучыцеля, з якім некалі пазнаёміўся быў у гэных месцах. Прыпомніўшы, зірнуў на Паўла Андрэявіча, падумаў, што часта-ж бачыў яго і не пазнаў. І не толькі не пазнаў, а нават ніколі не падумаў, што гэта ён, той самы народны вучыцель, які быў зацікавіў яго сваімі гаворкамі і не менш моцна ўразіў ягонае самалюбства палітыкай кпінаў над ягонымі дэмакратычнымі ідэаламі. Няўжо-ж гэта ён той самы?

Прафесар уважліва разглядае Паўла Андрэявіча. Павел Андрэявіч адгадвае ягоны погляд і ўсміхаецца.

— Мы і з Міхаілам Палікарпавічам вельмі даўнія знаёмыя, толькі Міхаіл Палікарпавіч мяне не памятае, бясспрэчна,—гаворыць Буднік, звяртаючыся хутчэй да інжынера, ніж да прафесара.

— Вось як?—дзівіцца інжынер.

— Так, так. І я ніколі не падумаў-бы, што гэта былі вы. Мы ўсяго-ж два разы бачыліся, здаецца. І ў такіх умовах.—Прафесар прыпомніў, як Павел Андрэявіч выратаваў яго на возеры.

— У гэтым няма нічога дзіўнага, што вы не маглі, Міхаіл Палікарпавіч пазнаць мяне. Не маглі-ж вы раптам падумаць, што старшыня рэўкома, гэта былы ваш знаёмы—народны вучыцель. У нашай гаворцы не было, паколькі я памятаю, нічога такога, што магло-б навесці вас на здагадку. І я вас тады хутчэй угадаў, а не пазнаў.

— А ўсё-ж гэта надзвычай дзіўна.—Міхаіл Палікарпавіч варухнуў плячыма.—Я так часта бачыў вас за апошнія гады і ні разу нават не падумаў, што той народны вучыцель і вы, гэта адна і тая-ж асоба. Таго я памятаў і нават цяпер уяўляю, як другога чалавека. Хоць, безумоўна,—прафесар углядзеўся ў твар Паўлу Андрэявічу,—у вас багата падабенства з вобразам настаўніка, якім ён застаўся ў маім уяўленні. Так, так. Бясспрэчна, вельмі багата падабенства, я цяпер гэта зусім добра бачу.

У хату зайшоў гаспадар. Ён прынёс з сабою яшчэ адзін услончык і паставіў да стала. Сам не сеў. Сам стаў каля гасцей так, каб быць трошку ў баку ад іх.

— Мая гаспадыня што-ні-што згатуе зараз, перакусіце. Гэта-ж такая сустрэча! Вы толькі падумайце!—Тарэнта нахіліўся да прафесара.—Чалавек вучыў нас, як жыць на свеце, цераз нас на катаргу трапіў. Вось цяпер, таварыш Буднік, і дзівіся, што з чаго выйшла. Словы вашыя так сабе не прапалі. Тады, вядома, можа я, або другі хто і не ўсё, як след разумелі. Як вы кажаце, я ўсё справядлівасці шукаў, але пасля я тое кінуў, зразумеў, што праўда, яна ў кулаках, а не ў паясніцы. Пасля вастрогу я ні перад кім паясніцы не гнуў больш. А яшчэ, каб-жа чалавек ведаў тады, што так вось будзе!— Тарэнта развінуў рукамі, паказаў наўкол сябе.—Я-ж чалавекам стаў!— Зноў нахіліўся спачатку да прафесара, пасля да інжынера.—Вы падумайце толькі: загона зямлі ў мяне не было за старым часам, а цяпер вунь які хутар маю.—Падаўся тварам да вакна і зірнуў за

**Я. КОЛАС**

# НА ШЛЯХАХ ВОЛІ*)

## XXI.

## ЗМОВА

На фронце ціха і зловесна.
Як пыл, асеў ваяцкі дух,
Салдатам вораг—брат і друг,
І саматугам дружна, цесна
Пра мір з ім гутарыць сумесна,
Знаёмства шырачы свой круг.
Ды ўсё-ж салдаты для адчэпкі,
Каб голас „доўгу“ іх не грыз,
Такі паставілі дэвіз:
„А фронт трымаць мы будзем крэпка.
Хто ў наступленне—башка ў шчэпкі,
А правакатарам біць чмыс!“
Між афіцэрам і салдатам
Варожасць чуецца вастрэй—
Ты, благароддзе, не дурэй
І не камандуй нашым братам.
Спраўляй памінкі сваім святам—
І самі можам весці рэй!
І генерал хай не балуе,
Хай зменіць нораў свой круты.
Мы ім прыпомнім „доўг святы“!
Даволі быў салдат халуем,
А ваш загад прагаласуем—
Ці вешаць кішкі на драты.
Сышлі са сцэны генералы,
Пашлі палкоўнікі на звод—
Іх лёс рашыў салдацкі сход
І капітану ходу мала,
І толькі „прапар“ заняпалы
Сям-там ліпеў, як згінуўшы плот.
У войску тлум і калатуша.
Хто за вайну, мільён супроць.
Другім гарачкі не пароць
І пад шумок выносяць душы
Дамоў да жонкі, да любушы

---

*) Працяг.

Папесціць стомленую плоць.
Панылa змоўклі афіцэры
Ї між салдат іх не відаць,
А між сабою не маўчаць,
Хоць зачыняюць шчыльна дзверы,
Каб у іхнія намеры
Не пранікала „шэрых“ рацъ.
Паручык Далін злы, сярдзіты,
Хоць з віду і спакойны ён.
Згрызот у Даліна мільён,
Яго надзеі ўсе разбіты:
Той-жа „заразай“ фронт заліты,
Ї армія ідзе на скон,
А з ёю гіне і Расія,
У гразь раняе воблік свой,
Ды хто парупіцца аб ёй
Ї гэту ганьбу з яе змые?
Ярмо цяжэйшае на шыю
Уздзене ей нямецкі гой.
Перад калегамі ў зямлянцы
Бічуе Далін рэчаў стан
Ї выкрывае той „туман“,
Што напусцілі ашуканцы,
Адшчапенцы, галадранцы.
Ї супроцістaвіць ім свой план.

Паручык Далін

Шугае шал і чмут,
Салдацкая сваволя,
А мы... чаго мы тут?
Якая наша роля?
Глядзець, як салдатня,
Прыняўшы воблік звера,
Наглее дзень ад дня,
Не ведаючы меры?..
Тут слоў не шкадавалі,
Завілістых і пышных слоў—
Не зрушылі „аслоў“
Высокіх шчыляў хвалі!
Наш глаўкагаварун,
Віхлясты хвост сабачы,
Адкінуўшы бізун,
Не вырашыў задачы.
Свабодзе і айчыне
Супроцьпаўстала скура
Ї скурная натура,
Расія-ж няхай гіне:
Рабам нямыслячым яна—
Гук пусты, поўгроша ёй цана!

Паручык Гульбін

Анархія, браток, зайшла далёка.
Кладзі вясло, плыві па волі рока.

Капітан Кунашын

Непрацiўленне злу?..
Ды ведай, дружа, меру:
Яно да твару больш аслу,
Чым афіцэру.

Гульбін

Калі быць аб'ектыўным,
Дык тут не трэба солі,
Бо мы, як гэта ні дзіўна,
Даўно ў аслінай ролі.

Кунашын

І ты апраўдваеш яе!

Гульбін

Я факты канстатую.

Далін

Шаноўныя мае!
Пакінем выстралы ўпустую.
Не ў гэтым справа,
Што прадстаўляем мы сабою—
Мы—парыі без сілы і без права,
У шчыліны загнаны салдатнёю.
Фальшыва наша палажэнне:
Мы—ворагі, праціўнікі свабоды,
Бо мы рабілі перашкоды
Ганебнаму на фронце паражэнню.
Але цяпер—шабаш:
Сляпым і то ўжо ясна,
Што стан сучасны наш—
Гармідар і кірмаш,
І армія загінула бясчасна.
Тлень гнуснасці і смроду
Адзелася ў адзежу ліберала,
Уславіла і брацтва і свабоду,
І роўнасці ў правах злажыла оду,
І „справядлівы" мір паабяцала
У дэкларацыях высокіх канстытуцый:
„Мір без анексій і без кантрыбуцый!"
І вот вам рэзультаты
„Гуманнай" іхняй ролі:
Разбэшчаны салдаты,
Як нідзе ніколі,
У арганізм жывы, адзін
Забіты востры клін
І армію надвое раскалолі,
І арміі няма ўжо болей,
Бо смродам аддае
Жывы 'шчэ труп яе,
І контуры відны яе магілы.

Ёй эпітафію ўжо можна напісаць:
„Памерла „доблестная“ раць
Ад дызертыры і большэвіцкае бацылы“.

Кунашын

Не кепска ты сказаў,
Ды я яшчэ-б дадаў.
„А вылячыць яе ад гэтай дуры
Магла-б рука ваеннай дыктатуры“.

Гульбін

Па часе, капітан, рэцэпты
Вы момант упусцілі:
Дыктатарства будуецца на сіле,
Дыктатарства без сілы—баб‘і шэпты.
На дыктатара, дружок мой, стаўка біта!
Карнілаў выступіў і што-ж?
Шуму на рубель, карысці ні на грош—
Сам арыштаваны і—квіта!

Кунашын

Няверны ты Хама
І скептык мяккацелы:
Не вышла раз—дарма,
Паўторым спосаб смелы.
Карнілаў не адзін
Русі дастойны сын,
Не ўсіх зараза захапіла
І не ўсе палі духам,
Ёсць верныя палкі,
Ёсць нашы казакі,—
Хіба гэта не сіла,
Не можа стаць абухам,
Каб здраду аглушыць,
Заразу задушыць
І вывесці краіну
На верную пуціну?

Гульбін

Хто-ж зробіць усё гэта?
Такога чарадзея
Гісторыя легендамі авее,
Уславіць песнямі паэта.
І першы я, пачуўшы яго клік,
Пайду на смерць за ім, як на пікнік,
Ды гора толькі ў тым,
Што ўсё гэта—ілюзіі і дым.

Кунашын

А не заслона дымавая,
Не тэорыя бяссілля, каб у ёй
Схаваць інертнасць і спакой—
Мая, моў, хата з краю?

Гульбін

Заслоны розныя бываюць,
І сумятнёй актыўнасць прыкрываюць.

Далін

Пакіньце слоўную дуэль
І дайце дасказаць мне слова.

Гульбін.

Валяй! Няхай жыве прамова
Хоць з прамовамі і селі мы на мель.

Далін.

Дык факт такі,
Што армія, як такавая,
Апошнія мінуты дажывае,
А мы ў ёй—лішнія сукі,
Без голасу, без права,
І супраць нас
Нянавісць выклікала мас
І сям-там робіцца аблава.
Большэвікі,
Выходзячы з свае дактрыны,
Распальваюць інстынкт звярыны,
І тэзіс іх такі:
„Афіцэрства—класавы наш вораг.
Кладзі пад яго порах!
Бяры яго ў штыкі!"
А мы пад здрадніцкі іх шум,
Не сходзім з свайго поста,
Пакорна зносім глум
Апошняга прахвоста.
Анархія расце,
Гусцее ком бязладдзя,
Мы-ж цягнемся ў хвасце,
Як нейкае азаддзе.
Мы ўсё яшчэ ў няволі
Традыцый і закона.
Закона-ж і няма,
Ёсць проста—куцерма.
Дык час сказаць „даволі"!
Бо скінута заслона,
Не можам ваяваць,
Пакончым-жа з гульнёю:
На фронт прапашчы напляваць
І ўзяць разлуку з салдатнёю!

Гульбін

Сказаць прасцей,
Паручык дабрадзей—
Падацца ў дызертыры,
Забыўшы аб вайне і міры?

Далін

О, не, дружок!
Не—гэта—першы крок,
Пачатак справы.
Не ўсімі-ж наша Русь забыта,
Не ўся яна ў канец заліта
Атрутай здрадніцкай аравы.
Цык вось мой сказ:
Настаў той час,
Калі і мы
Сказаць сваё
Павінны слова—
Даволі цьмы!
Прэч, гадаўё!
Пачнецца іншая размова.
А для таго,
Каб слова словам стала,
То трэба, каб яго
І сіла падтрымала.
І выхад тут адзін:
Хто Русі верны сын
І сэрца ў кім жывое—
Пад сцяг вайны! Да зброі!
Збавенне рыхтаваць!
А клік наш баявы—
Хто чэсны, хто жывы,—
Расію ратаваць
І збавіць ад турмы,
Ад здрадніцкіх намераў.
А сіла—гэта мы,
Мы, кадры афіцэраў!
Расія ёсць, быць мусіць і закон...
На Дон!
На ціхі, вольны Дон!

Кунашын

Правільна, паручык, верна!
Да слоў тваіх,
Гарачых і святых,
Я далучаюся ўсямерна...
Не кончана ігра,
І песня не дапета.
А скептык наш—ура!—
Што скажаш ты на-гэта?

Гульбін

Ну, што-ж? У добры час!
Пашлі нам, госпадзі, збавенне з Дону!
А ціхі Дон не раз
Апораю быў трону.
І гэты план,
Шаноўны капітан,
Я цалкам адабраю,
Бо як бы ні было там,

Не хочацца і мне
Стаць санкюлотам
Ї жыць у іхнім раю.
Але, прызнацца шчыра,
Не верыцца штось мне,
Што сіла наша іхнюю самне
Ї выцягне Расію з віру.
Давайце разважаць цвяроза
Ї праўдзе пазіраць у вочы смела:
Напышлівая поза,
Рамантыка—не дзела,
І першае пытанне:
Пад лозунгам якім
Мы з ворагам сваім
Пачнем гэта змаганне?
А вораг—не дурак:
Ён знае чым і як
Завабіць мільёны.
Сказаў ім: „Смерць буржую!
Далоў вайну чужую!
Гуртуйцеся ў калоны
Рабочых і сялян!
Ганеце вон купцоў,
Паноў, святых айцоў,
Што ўводзяць вас у зман.
Бярыце іх набытак,
Бо ён не іхні—наш,
Ї ўся зямля наўсцяж—
Законны наш спажытак.
Рабочым—заводы,
Зямлю—сялянству,
Ї поўная свабода,
Магіла ашуканству!
Ї сам—будзь ты ўладар
Ї поўны гаспадар".
А мы чым можам казырнуць
У процівагу?
Чым можам павярнуць
К сабе сермягу?
Абстрактнаю праграмай,
Законнасцю, парадкам?
Ці смутай гэтай самай,
Трагічнасцю выпадка?
Калі-ж не прыдуць к Дону
Дняпро, Нява і Волга,
То нашаму разгону
Песенька не доўга.

Кунашын

Наперад ты не забягай,
Не стаў свайго прагнозу.

Гульбін

Я што? Маўчу—няхай!
Ї божа памагай—

Цуд можа стаць з кур'ёзу.
Падтрымліваю план—
І мне па сэрцу ён.
Я з вамі, капітан!
Няхай жыве наш Дон!

## Далін

Калі саб'ём касцяк,
Акованы бранёю,
То лозунгі—пусцяк,
Мы пойдзем напрасцяк,
Пакончыўшы з гульнёю
У згубныя ідэі,
Ідэі—неданоскі,
І ўсё тады знямее
Ад горада да вёскі.

2—12/X 1934 г.

**Ц. ДОЎГАПОЛЬСКІ**

# АГІТЦЯГНІК

**(Аповесць *)**

*27-га красавіка.*

У нашы абавязкі ўваходзіць таксама такі пункт—прыцягнуць да пасеўнай кампаніі вясковую інтэлігенцыю, асабліва настаўніцтва. Я напомніў аб гэтым Рэліну. Ён зірнуў на мяне з дружацкай усмешкай, што азначала:

— А стары, бач, пападае на патрэбную дарогу...

Рэлін скудлычаны, нявыспаны. Паліто скамечанае. У шарсцяную матэрыю ўелася асцё, у валасок—салома, з каўняра—тырчыць салома.

Зарысоўваю Рэліна ў яго цяперашнім выглядзе.

— Да настаўніцы зайду сам,—кажу яму.

— Гэта мне падабаецца,—хітра адказаў ён:—вас ужо цягне да настаўніц—добрая прымета... Ведаеце, што я вам скажу—вы тут, у цягніку, добра паправіліся, загарэлі... А што-б вы рабілі ў настаўніцы?

— Відаць, што яна малярка,—адказваю.

З-за кузні паднялося сонца. Яно прабралася сюды ў хату з усіх трох вакон. Малюнкі на сценах выпукляюцца ясней. Выступае кожная дэталь. У рабоце адчуваецца ўпэўненая рука.

Раблюся нецярплівым. Хацеў-бы скарэй пабачыць настаўніцу. Пазнаёміцца з ёю.

Дваццаць пяць год. Прыглядаюся да самога сябе—не пазнаць. Параўноўваю свой цяперашні выгляд з даўнейшай фотаграфіяй—ніякага падабенства. Зусім іншы твар—далёкі, чужы, варожы.

Іду трактам. Абапал дарогі пасталі сталетнія бярозы. Стаяць пагорбленыя ад часу, але трымаюцца моцна, і на доўгіх, звіслых галінах выступаюць зялёныя лісточкі. Абапал тракту распасцёрліся старыя палеткі Падброддзя. На ўскраі леса гудзяць два трактары, а тут, каля дарогі калгаснікі валочуцца за плугамі. Глеба яшчэ сырая, вільготная, ліпучая. Коні худыя і плугі пакідаюць за сабой доўгія палосы вышараванай медзі, мясцамі заплямленай волавам. Над узадранымі баразнамі лунаюць і грузна апускаюцца грачы, чорныя, нібы кавалкі вугалля. Падскакваючы, яны капаюцца моцнымі светлымі дзюбамі ў падраным медзяным доле. Аруць на лён.

Мяне бадзёрыць вясновы дзень, гучная пераклічка зязюлек, спевы жаваранкаў, у маёй памяці асвяжаюцца даўно забытыя драбніцы. Вунь пасярод поля стаіць дуб. Пад ім я правёў шмат гадзін сваёй недарэчнай моладасці, адкінуты ад свайго гарапашнага асяроддзя, ад бацькі-маляра, ад сяброў—змагароў-падпольнікаў. Пад гэтым самым дубам я не раз сядзеў да прыкрасці сыты, нібы пан і яго сям'я, абі-

---

*) Канец. Пачатак глядзі ў № 10.

бока, пустапаснік, які меў у жыцці толькі адну мэту: падбіраць таны фарбы да партрэтаў тупых, перасычаных уласнікаў.

Здалёку, бачу, ідуць мне насустрач трое босых дзяўчатак. Як рана яны спатыкаюць вясну. На дварэ яшчэ вільготна, пранізліва-холадна. Лёгкія танныя паркалёвыя сукеначкі прыкрываюць іх рухавыя дзявоцкія целы. У касічкі ўплецены пралескі—раз назаўсёды—тут у вёсцы любяць фарбы, краскі, малюнкі. Гэта выяўляецца і ў культываванні настаўніцы.

Яны набліжаюцца да мяне павольнымі крокамі.

— Да мяне, дзеткі?—пытаюся,—да мяне?

Дзяўчаткі спыняюцца. Саромліва апускаюць русыя галоўкі. Ножкі спакойна ўспрыймаюць вясновую клейкасць глiністай дарогі. Адна з іх, прысадзістая,—во-во яна ўжо дарослая дзяўчына,—стаіць засмучоная, задумная і, месячы глiністы дол стромкімі крэпкімі нагамі, узнімае на мяне пару васільковых вачанятак.

— Вы са школы ідзіце,—перапытваюся.

Маўчаць, не адказваюць, чаго яны хочуць—не разумею.

Старшая, прысадзістая дзяўчынка моўчкі заплакала. Тое, што яна плача, можна пазнаць толькі па гарачых кроплях, якія сцякаюць на пульхныя шчочкі. Абедзве таварышкі глядзяць на яе засаромленыя.

Бянтэжуся. Пытаюся, гладзячы яе па галоўцы:

— Чаго плачаш? Цябе хто-небудзь пакрыўдзіў?

Не магу цярпець дзіцячых слёз.

— Бацька яе сасланы,—крыкнула другая.

Толькі цяпер дзяўчынка заплакала ўголас. Тварык разгарачаны. Шчокі вільготныя ад слёз. Яна нізка схіляе русую галаву, хавае яе ў крыху ўзнятыя плечыкі, нібы абараняючыся ад пагражаючага ўдара.

Другая дзяўчынка з гэтай тройкі тлумачыць:

— Яна прышла прасіць вас, каб вы бацьку яе вызвалілі.

Каб я вызваліў яе бацьку! Каб я, дыктатар амніставаў бацьку, *Уцягнулі* мяне ў пекную гісторыю. Дзяўчаткі чакаюць майго *адказу. Усё* залежыць ад мяне... А як было-б, калі-б я павінен быў вырашыць гэтую справу? Што-б я зрабіў? Вызваліў-бы яго? Вызваліць другога? Трэцяга?—Усіх вызваліць? Блытаецца ў галаве. Дзяўчаткі весялеюць. Яны радуюцца, што дзядзечка сапраўды задумаўся аб лёсе сасланага. Твар плачучай дзяўчынкі святлее. Слёзы спыніліся. Яны, дзяўчаткі, чакаюць майго загаду. Не знімаюць з мяне вачэй—вось-вось я вярну ёй бацьку...

— А вы ведаеце, хто я?

— Ведаем, вы—старэйшы.

— Так, я старэйшы, я стары.

— Старшы над агітцягнікам.

— А хто выправіў вас да агітцягніка?

— Наст...

Дзяўчынка запнулася ў пачатку фразы.

Дзеці маўчаць. Пераглядаюцца. Чаму яны не адказваюць на маё простае запытанне, ніяк не магу зразумець.

— А за што выслалі бацьку яе?—пытаюся рашуча.

Дзяўчаткі зноў маўчаць.

— Вы не ведаеце, за што яго выслалі?

— Ведаем, ён быў кулаком,—адказвае адна, а другая торгае яе за руку. Прагаварылася дурная, а-я-яй...

— А матку тваю таксама выслалі?

Дзяўчынка круціць галавой, што не. Яе не выслалі.

— Бачыш, маткі не выслалі, а цябе, дзяўчынка, таксама не выслалі?

Сяброўкі засмяяліся, а я хацеў-бы ў гэты момант зірнуць на свой уласны твар. У галаву лезе яўрэй у янотавай футры, які жыве на адным падворку са мной. Як вам падабаецца мая чуткасць? Дзіцё хоча вярнуць з высылкі свайго бацьку, а я жартую. Гэта было-б цікава для мяне самога, калі-б дзяўчаткі сустрэліся з Рэліным. Як-бы ён паступіў у гэтым выпадку?

— А твой бацька,—зварочваюся да другой.

— Мой бацька ў калгасе.

— І твой бацька ў калгасе?—пытаюся ў трэцяй.

— У мяне няма бацькі.

— А маці?

— А маці ў калгасе.

— А кулакоў патрэбна высяляць?

— Кулакоў трэба высяляць.

— Дык чаго-ж вы ідзеце ў агітцягнік?

— Гэта яна ідзе.

— А вы?

— Мы так сабе, паглядзець.

— А яна ідзе прасіць, каб вызвалілі бацьку?

— Так.

Трое ратаяў-калгаснікаў спыняюць ля мяжы сваіх коняй, закурваюць. Коні скубуць сена, якое тут-жа прапасена для іх. Калгаснікі набліжаюцца да мяне. З гэтых трох сялян пазнаю аднаго—Ярмошкіна. Былы батрак. Ён прыкметна пастарэў. Прыглядаецца да мяне. Пазнае мяне, ці не? Лепей, каб не пазнаў.

— Вы таварыш Ярмошка?—пытаюся.

— Пакуль што Ярмошка, а што далей будзе—не ведаю.

— Што гэта значыць?

— Гэта значыць, што павінен са сваёй брыгадай узараць сягоння два га, а коні—падлы.

— А за што выслалі бацьку гэтай дзяўчынкі?

— Была такая справа. Спачатку з жытам, а пасля з бульбай. Спачатку ён закапаў жыта, а затым закапаў бульбу. Закопваць бульбу—не грэх, але калі трэба выкапваць яе, завезці на станцыю, дык трэба-ж гэта зрабіць... Так я кажу, дзяўчынка? Бацька яе думаў усіх абдурыць, і ўрэшце сам здурнеў... Прышлі па жыта, гаворыць—не ўрадзіла. Прышлі па бульбу—зноў гаворыць—не ўрадзіла. А вы, дзяўчаткі ўжо заняткі закончылі? Так рана? А куды-ж вы накіраваліся?.. Так сабе? А хто вас са школы адпусціў?.. Хто вас адпусціў?.. Чаго ўцякаць? Адкажыце, калі пытаюцца.

Вось як гаворыць адсталы панскі парабак-Ярмошка. Ярмошкай распараджаліся. Ён быў малады, дужы, паслухмяны. Твар яго быў тады смуглы ад вятроў і сонца. А цяпер на ім ляглі цёмна-сінія зморшчыны—здаецца, што твар яго татуіраваны.

— Ты даўно тут працуеш?

— Усе свае гады тут працую... І хацеў-бы запытацца ў цябе, чым тым можаш нам дапамагчы.

— Я—мастак.

— А што ты думаеш маляваць?

— Жыццё ваша.

— Не ў адпаведны час прыехаў.

— Не ў адпаведны? Чаму?

— Бо мы жывём яшчэ бедна... вельмі бедна... Бачыш нашых коняй—яны худыя—аўса не даем. Сорамна паказвацца з гэткай гаспадаркай... Ты разумееш нашу беднасць, а людзі будуць глядзець,ківаць гало-

вамі... Яны скажуць: во што зрабілі з Падброддзя новыя гаспадары. Твар будзе гарэць ад сораму. Не, цяпер не патрэбны маляры. Так і сказаў—„маляры".

— А хто вінаваты ў вашай беднасці?

— Мы самі, зразумела; сена згнаілі на сенакосах. Канюшыну пакралі. З аўсом праваронілі.

Ён дастаў з кішэні пусты кісет і зноў засунуў туды.

Ярмошка паўшоў да свайго каня, які пасвіўся ля мяжы.

— Бачыш, з чым мы засталіся,—захапіў ён энергічна ў рукі лейцы і плуг... Хай толькі трава пакажацца... Мы ўсе прынаціснулі-б... Увосень убачыш, што будзе тварыцца. Тады мы цябе, мастак, запросім.

— Весялей, весялей,—падганяў ён лагодна коні.

Падбадзёраныя тлумачэннямі Ярмошкі, дзяўчаткі зноў пакіравалі ў школу. Яны спяшаліся і ўвесь час азіраліся назад, нібы хтосьці гняўся за імі. Я сапраўды пайшоў да настаўніцы, але ўжо не такі самаўпэўнены, як раней.

*28 красавіка*

Я думаў пра сябе і Ярмошку. Дваццаць пяць год таму назад мы абодва служылі ў аднаго пана. Дваццаць пяць год таму назад пан размяркоўваў сілы, кожнаму даваў работу. Тады мы абодва, я і Ярмошка, знаходзіліся, уласна кажучы, у аднолькавых умовах. Пан не задавольваўся тым, што пазіраваў перада мной, ён старанна сачыў за маёй працай і гэтым выкараняў усякія сляды пратэсту, гастрыні ў маёй рабоце. Я быў тады больш паслухмяны, больш залежны за прыгоннага мастака. Той пакінуў у сваіх творах узоры высокай мастацкасці, улажыў у свае работы гумар і сарказм абуранага зняволенага чалавека.

Я сказаў-бы, што Ярмошка мяне перарос,—гэта факт. Я быў зусім бездапаможным перад дзіцячай дэлегацыяй. Ярмошка ясна і ўпэўнена пераканаў самых дзяцей, што так трэба было паступіць.

Пядыходжу да палацаў падбродскага пана. Азіраюся. Ад старога мураванага паркана і следу не засталося. Пад'езд засмечаны—цяжка дабрацца да парадных дзвярэй, да высокага ступеньчага ганку з калонкамі па баках.

Я спыніўся і ўспомніў, што гэта адкрытая плошча ўся пярэсцілася кветкамі. Утрамбаваныя сцежкі змяіліся па ўсіх напрамках паміж клумбамі кветак. Цяпер—не дабрацца да палацу. Мне стала непрыемна—плошча абсалютна не выкарыстоўваецца. Як-жа выйсці да школы?

Я пачуў за сабой дзіцячыя крокі. Азірнуўся, убачыў Сцёпку.

— Хадзем,—узяў ён мяне, як хлопчыка, за руку,—пакажу вам уваход у школу. Пойдзем праз сад.

— Я зашоў у аудыторыю. На сцяне, супраць дзвярэй, вісеў партрэт Леніна—работа вядомага мастака. Я таксама маляваў Леніна. І гэта работа мяне ніколі не здавальняла. Гэта я ведаў і без Рэпіна. Пад партрэтам застаўся надпіс: „Дзевяць год без Леніна".—Белыя літары на чорным фоне,—відаць, самі дзеці выканалі гэта. Прыгадваю, што гэта быў дзіцячы пакой. У гэтым вось пакоі жыў паніч. Ён быў рослы і дужы не па гадах. У дзесяць год ён быў дужэйшы і большы за мяне. І калі пані завяла мяне ўпершыню ў пакой свайго сынка, яна зарагатала. Яна адчула, што яе смех моцна пакрыўдзіў мяне, і спрабавала загладзіць недалікатнасць. Гэтым самым яна яшчэ больш абразіла мяне. Яна сказала:

— Вы—дробны. Мой дзесяцігадовы Ян перарос вас. Ну, Ян, трымацца спакойна... Тады пан мастак увекавечыць тваё дзяцінства.

Тады я не адважыўся супярэчыць. І, прыдушваючы сваю пагарду, узяў аловак.

Аглядаюся: у верхняй цалове засталіся яшчэ старыя, пад колер дуба, абоі. Я прыгадаў, што ля дзвярэй дзіцячага пакоя, знаходзілася шкала, на якой быў адзначаны Янаў рост са дня яго нараджэння да дзесяцігадовага ўзросту. Падышоўшы да дзвярэй, я страшэнна абурыўся, знайшоўшы шкалу. Яна, відаць, вялася цэлых чатыры гады пасля майго ад'езду. Я не ведаў, на каго злавацца, але думаў так:

— Кветкі знішчылі, а шкалу захавалі, шкалу, якая паказвала, што ў чатырнаццаць год Ян перагнаў ужо чалавека сярэдняга роста на цэлую галаву.

— Дзе цяпер Ян? Як успрыняў рэволюцыю гэты выпешчаны барчук? Кім ён быў-бы ў жыцці, калі-б не надыйшла рэволюцыя, і дзе ён цяпер, гэты трыццацішасці гадовы панок, які ў дзесяць год уступіў у кадэцкі корпус і пазіраваў мне ў сваёй форме.

Я цярпліва чакаў канца лекцыі. Прыслухоўваўся да таго, што робіцца ў класе. Настаўніца, відаць, адчувала сябе за работай спакойна, упэўнена. Яна тлумачыла вельмі зразумела пры абсалютнай цішыні дзіцячай аудыторыі. На лекцыі гаварылася пра лён. Настаўніца даводзіла дзецям усю важнасць працы па веснавой сяўбе. Урэшце лекцыя закончылася.

Дзверы настаўніцкай адчыніліся і за імі сабралося шмат дзяцей, каб зірнуць на гасця. Адзін аднаго сцішалі. Свавольнікі штурхаліся, але заходзіць у пакой не адважваліся. Я прыняў дзяцей холадна, маўкліва. Мяне пачынала абураць, што настаўніца не паказваецца. Яна-ж ведае, што госць прышоў іменна да яе. Відаць, што я трапіў сюды на апошнюю лекцыю.— Дзеці з палатнянымі ранцамі ў руках высыпалі са школы. Атакавалі настаўніцкую з усіх бакоў. Цікавалі за мной праз адчыненае вакно. Відаць, што і самі дзеці, а больш за ўсіх мой знаёмы Сцёпка, дзівіліся, што я сяджу тут у пакоі ўсё яшчэ адзін. Я не ведаў, што рабіць. Я рашыў пакінуць школу. Уласна кажучы, я-ж не прышоў да яе з цікавасці. Я хачу ведаць, як яна ўключылася ў пасеўную кампанію. Я, урэшце, прадстаўнік агітцягніка ЦК. Гэта партыйная справа. Далажу аб гэтым начальніку цягніка. Ён павінен будзе зрабіць з майго паведамлення адпаведныя вывады.

У гэты момант увайшла настаўніца.

— Выбачайце, таварыш, што я вас прымусіла так доўга чакаць,— працягнула руку. Я адчуў цёплую, разлезлую руку немаладой жанчыны. Яна стаяла перада мной, не кранулася з месца. Мы прыглядаліся адзін да аднаго здзіўленыя, здэтанаваныя.

— Здагадваецеся?—кіўнула яна стрыжанай галавой: пазнаеце мяне? Не, вы мяне не пазналі.

Я не ведаў з чаго пачынаць.

— Вы змяніліся... пастарэлі... Не пазнаць вас,—пачала яна.

— Працуеце ў совецкай школе?

— Я настаўніца і працую ў совецкай школе... Я пакінула вас у настаўніцкай аднаго, каб прывесці ў парадак свой пакой. Вельмі прашу вас зайсці да мяне. Вы маеце выпадак цяпер, пад старасць, яшчэ раз паглядзець, ацаніць сваю першую работу. Я лічу, што гэта самая лепшая з вашых работ. Сапраўдны спадарожнік таленту— гэта юнацтва... Чаго-ж вы так разгублены? Пастарэла... Нядзіўна. Прамчала дваццаць пяць год.

„О, витязь, то была Наина!"

Яна яшчэ не згубіла апошніх слядоў прывабнасці. Пастарэлі твар, рукі, але жвавасць, выхілястасць, грацыёзную рухавасць яна яшчэ захавала.

— Колькі вам гадоў?—спытаўся я.

Яна засмяялася і паказала здаровы, поўны рот белых зубоў. Я зайздросціў ёй. Я адчуў, што апынуўся ў вялікім няшчасці. Я не асмеліўся працягваць свой допыт, а запытанняў было шмат. Асабліва мяне цікавіў першы перыод, калі яна была ў маім атэльe. Куды яны зніклі? Што сталася з яе мужам, жандарскім афіцэрам? Дзе яна знаходзілася ўвесь гэты час? Ці вядома тут, хто яна? Калі вядома,—добра. А магчыма, не? А можа яна жыве пад фальшывым імем? А можа яна тут адыгрывае ролю прытоенага ворага? Яе адкрытасць, шчырасць абяззброілі мяне. Вечарам вярнуся ў агітцягнік. Я павінен аб усім гэтым пагаварыць са сваім брыгадзірам—Рэлiным. Да позняй ночы начальнік цягніка будзе разглядаць справаздачы за дзень, будзе намячаць мерапрыемствы на заўтра, на паслязаўтра... А я? Як мне трымацца? Далажыць каротка—тут у школе працуе жонка жандарскага палкоўніка. Гэтага мала. А можа я не павінен рабіць гэтага? А можа тут трэба дзейнічаць больш асцярожна. Зноў-ткі, расказаць як я з ёй пазнаёміўся, таксама дрэнна. Увесь агітцягнік складаецца з моладзі—не зразумеюць мяне. Могуць вытлумачыць усю гэту справу зусім не так, як мне хацелася-б.

— Мы адных гадоў,—усміхалася яна... Я не агледзелася, як прамчалася дваццаць з нечым гадоў... Вы яшчэ аглядаеце мяне, усё яшчэ не можаце апамятавацца!.. Вы ўжо, напэўна, заўважылі сівыя валасы ў маёй галаве... ёсць, ёсць... А ўсё-ткі—не адчуваю старасці... Ведаеце, у іх... у бальшэвікоў, у некаторых адносінах лепей, як на тым баку... Няма часу старэць... Няма часу палохацца старасці... Мне здаецца, толькі перасычанасць, гультайства вядуць да старасці... А тут гэта немагчыма...

— Вы з сям'ёй?—запытаўся я.

— Няўжо-ж гэта так важна?—адказала яна мне, а я, ужо стары чалавек, пачырванеў ад сораму.

— О, вы яшчэ таксама малады... Вы яшчэ здольны чырванець.. Вас цікавяць мае сямейныя абставіны, але навошта гэткія хістанні... Пытайцеся проста і ясна... Што з вашым мужам... Гэткая цікавасць законна і зразумела.

Яе партрэт не вісеў на сцяне. Яна дастала яго з вялікага сялянскага куфра, які стаяў у яе пакоі. Падаючы мне партрэт маёй работы, яна дадала:

— Вось як вы працавалі даўней. Не падобна да вашых апошніх карцін.

Я запытаўся:

— Вы бачылі мае апошнія работы?

— Так, я глядзела вашы апошнія работы.

— На выстаўцы?

— Так, на выстаўцы... Мушу вам сказаць, што я ўвесь час цікавілася вамі. Ведаю, напрыклад, што вы толькі нядаўна павярнуліся тварам да жыцця... Сюды ідуць...

І забрала ў мяне партрэт.

У пакой зайшоў чалавек гадоў трыццаці. Без шапкі. З гладка зачэсанай галавой. Простыя картовыя штаны былі яму цесныя, кароткія. Так што вушкі храмовых камашаў вытыркалі з абшлагоў. Ад яго пахла адэкалонам. На даволі тлустым, чыста выгаленым падбародку чырванеўся свежы глыбокі парэз брытвы. Ён, відаць, не думаў сустрэць тут чужога чалавека. Яму стала няёмка.

— Знаёмцеся,—сказала яна:—таварыш Сінічкін, дзелавод калгаса... Тут у вёсцы, заходзячы, не стукаюцца ў дзверы.

— Стукаюцца ў дзверы толькі тады, калі яны на засоўцы... Ха-ха-ха, тут маса арганізаваная: трымай дзверы запёртымі і пускай да сябе толькі таго, каго хочаш,—дадаў Сінічкін.

Ён дастаў з кішэні бляшаны пудэлак, адарваў кавалак газеціны, якая ляжала на століку, і давай вярцець папяроску.

— Можа хочаце закурыць? Спрабуйце... Самасейка... А папера—добрушская... Вы, таварыш мастак, не партыйны... Бачыце, парэз на мордзе?.. Гэта першы выпадак з таго часу, як я галюся. Сяджу ў праўленні, галюся—ажно ўкідваецца ваш брыгадзір... Як яго—Мелкін, ці Рэлкін...

— Рэлін,—падказаў я.

— ... І выступае з прамовай: у час працы галіцца?!. А палуднаваць магу я? А ў лазню схадзіць можна? А калі напалена лазня—забаронена папарыцца? Так абыходзяцца з вясковай інтэлігенцыяй. Гэткімі манеўрамі вы хочаце, таварышы, прыцягнуць вясковую інтэлігенцыю да пасеўнай кампаніі? А можа прачытаць вашаму брыгадзіру пару лекцый аб аграмінімуме? Магу прачытаць... Сягоння добрая пагода, але зірніце, што гаворыць нам барометр... Насоўваюцца дажджы, снягі... Паслухайце, што кажуць старыя хлебаробы... Безумоўна, трэба сеяць лён... Але шэсцьдзесят тры га на Падброддзе! За адзін год высмактаць зямлю—гэта гаспадарнасць?.. Думаеце—не пайду да начальніка агітцягніка?

З парэзу Сінічкіна пачалі бруіцца маленькія кропелькі крыві. Сінічкін сцёр іх вялікім пальцам правай рукі. Настаўніца паставіла на стол збанок малака, масла, хлеб у талерцы, дастала з куфра дзве бялюткія салфеткі, склала іх трыкутнічкам і звярнулася да мяне:

— Перакусім.

Сінічкін працягнуў руку, узяў нажом кавалак масла і пачаў паволі мазаць на хлеб.

— Чаму не ясцё, таварыш мастак?—сказаў Сінічкін.—Можаце перадаць свайму брыгадзіру, што вы, як камандзіровачны, маеце права атрымліваць норму малака і порцыю масла.

Я быў галодны. Але тут есці не хацеў. Я наогуль адчуваў сябе нялоўка. Мая старая знаёмая не прамовіла ні слова. Гэта было ненатуральна. З прыходам Сінічкіна яна страціла ўсю мужнасць і ваяўнічасць. Нельга было заўважыць, каб яна была вельмі задаволена тым, што тут, у яе пакоі, трымае сябе так інтымна гэты малады, здаровы мужчына. Я сядзеў крыху разгублены. Чакай,—думаў я,—чаго я сюды прышоў. Я пайшоў да настаўніцы даведацца, як школа ўключылася ў пасеўную кампанію. Але цяпер уся гэта справа здавалася мне такой чужой, лішняй. Ва мне ўзбудзіўся кавалак майго жыцця. Зноў не ведаю, каго ўяўляе сабой гэта жанчына. Даўней я лічыў, што яна дала мне напрамак, першы штуршок у прорву. Цяпер я сустрэў яе ў другі раз—і зноў не магу разгадаць яе. Свой партрэт яна схавала ад гэтага нахабнага, абмежаванага чалавека, і ў гэты самы час лёгка было заўважыць, што паміж настаўніцай і Сінічкіным ёсць нешта інтымна-асабістае. Так, настаўніца яшчэ такая жанчына, якая можа прывабіць да сябе, зацікавіць.

Я пакінуў іх адных. Выходзячы са школы, я пачуў незнаёмы выкрык:

— Таварыш, таварыш!

Я спыніўся, чакаў, пакуль яна падыйдзе. Не пайшоў ёй насустрач. Яна спяшалася, амаль бегла. У белай вязанай хустцы, накінутай на плечы, кароткай сукенцы, шпарка рухаючыся,—яна здавалася мне яшчэ маладой, грацыёзнай.

Яна зусім блізка падыйшла да мяне. Сказала:

— Хачу з вамі пабачыцца. Разумею ваша становішча... Вось што... Агітцягнік дае заўтра кіносеанс. Я там буду. Падыйдзіце да мяне. Добра? Будзьце ласкавы, пакажыце мне, як у вас атрымаўся Сінічкін. Яна згубілася. Спыталася:

— Чаму вы яго намалявалі такім агідным?

І паволі пайшла да хаты. Сінічкін стаяў ля вакна з туалетным люстэрачкам у руках і расціраў сваю парэзаную морду.

Я быў галодны, прыбіты. Няўжо сапраўды пахаладала, ці гэта мне толькі холадна? Не, збіраюцца хмары з паўночна-заходняга боку. Аказваецца, барометр Сінічкіна дакладна і правільна прадказвае атмасферныя змены.

Агітцягнік затрымаецца тут яшчэ каля трох дзён. А мне? Чакаць, пакуль выслухаю сваіх старых знаёмых, ці проста адкрыта пагутарыць з Рэліным? Каго ўяўляе сабой Сінічкін? Хто ён? Хто ведае яго? Як глядзіць на яго кіраўніцтва?

Я пайшоў шукаць Рэліна.

*29-га красавіка*

Што мы разумеем у мастацтве пад закончанай работай? Я над гэтым пытаннем ніколі не задумваўся. Толькі цяпер я шукаю адказу на гэткія пытанні.

Во замаляваны ў маім блокноце Сінічкін. Я меў на гэта даволі часу. Ці патрэбна было-б яшчэ працаваць над ім? Здаецца, не. Самае. характэрнае ў ім—гэта тупасць, абмежаванасць, адсталасць.

Пытаюся ў самога сябе—што сказаў-бы Сінічкін наконт свайго партрэта? Быў-бы задаволены. А можа не? А можа ён не такі прасцяк, як мне здаецца. Цікавая з'ява: да агітцягніка я ніколі не задумваўся над гэткімі пытаннямі, якія цяпер займаюць у мяне такое вялікае месца. Што я патрабаваў ад сваіх партрэтаў? Галоўнае—чыстату работы. Падабенства. Правільную танацыю фарб. А цяпер, калі малюю Сінічкіна, я стаўлю сабе патрабаванне—перадаць пачуццё, якое ён выклікае ў савецкага чалавека.

На небе пачалі збірацца хмары. І я пайшоў „да хаты". Я прышоў у агітцягнік адзіным і першым. Мне стала вельмі непрыемна, што я першым прышоў сюды. Больш за трыццаць чалавек знаходзяць сабе работу ў брыгадах, а я з работы ўцёк. Але канкрэтна—якую работу я павінен сягоння выканаць. Пустапасам кручуся па вагонах. Не хачу спаткацца з дакторкай. Яна-ж, безумоўна, запытаецца, чаго я сюды прышоў.

Раптам з вагона-рэдакцыі выскаквае захаплёны рэдактар, малады хлапец, разгарачаны і вельмі ўзрадаваны. Ён сустракае мяне з выкрыкам:

— Першы нумар гатоў! Гатоў! Вы прышлі па газеты?

— Так, так, я прышоў па газеты.

— І вам, напэўна, не цяжка будзе гэты пакунак перадаць у Падброддзе, а гэты пакуначак—у Пузікі, за паўтары кілометры ад Падброддзя.

— Не,—адказваю,—безумоўна, не будзе цяжка.

Заглядваю ў газетку. Яна пячэ, смаліць.

— „Падбродскія гультаі, сімулянты",—чытаю. Падбароддзе займае ў газеце галоўнае месца. Ага, Сінічкін таксама тут... „Барометр Сінічкіна". Валакуся з двума пачкамі газет—для Падброддзя і для Пузікаў. Пузікі—знаёмая назва. Быў я калі ў Пузіках ці не? Так, прыпамінаю,

пан палохаўся гэтай вёскі. Я калісьці забрыў туды, з гэтай прычыны ў пана падняўся цэлы гармідар—праветрывалі мяне, чысцілі, рабілі дэзінфекцыю. Нейкая пошасць была там, цяжкая, на дзяцей.

Праглядаю газетку. Яна складаецца з двох старонак, фармату звычайнага аркуша паперы. Але матэрыялу ў ёй багата. Маленькія нататкі, і ў кожнай—імёны, імёны, імёны.

Паволі падыходжу да Пузікаў. Чую за сабою спешныя крокі, мяне наганяе дакторка. Яна трымае ў руцэ бутэрброды. Прапануе мне—ядзім абодва.

— Вы здаровы?—пытаецца яна:—так, вы зусім добра выглядаеце... Калі вам цяжка, дайце газеты для Пузікаў... Хоць, прызнацца, мне якраз хацелася-б, каб вы пабылі са мной да вечара ў Пузіках.

— А газеты для Падброддзя?

— Перашлем праз каго-небудзь.

У Пузікі мая дакторка ідзе арганізоўваць яслі. Яна ўжо дакладна ведае, колькі дзяцей маецца ў Пузіках. Яна трымае ў руцэ спіс матак, у якіх ёсць дзеці ясельнага ўзроста.

Па дарозе маладая савецкая дакторка апавядае, што яе бацькі былі беднымі местачкоўцамі, яна сама гадавалася на пыльнай вуліцы, на брудным падворку ля бацькавай кузні.

— А навука вам лёгка давалася?

— Вучыцца мне было вельмі лёгка, і ведаеце чаму? Я атрымала ў сямігодцы добрую падрыхтоўку... Уявеце сабе—у ВНУ на апошніх курсах я адчувала сябе вельмі спакойна, і ўсё дзякуючы добрай падрыхтоўцы.

Калгасныя драбіны праехалі трактам. Малады калгаснік, усеўшыся ў саломе, супыніў коняй:

— З агітцягніка? Да нас?—спытаўся ён.

— Не, мы ідзем у Пузікі... Адкуль едзеш?—запыталася дакторка.

— Са станцыі... Прыбыў селекцыйны лён... Вы, бачу, трымаеце газеты. Не для нас?

Ён забраў падбродскія газеты. Выцяг адну. Заглянуў і засмяяўся:

— Сінічкін... ха-ха-ха... добра, добра.

— А што ў цябе ў пакунку?—спыталася дакторка:—газеты можа?

— Так, вязу пошту.

Мы атрымалі апошнія газеты. На першай старонцы былі надрукаваны тэлеграмы з агітцягніка.

— Вось гэта тэмпы, таварыш, во тэмпы... Таварышок, таварышок... І вы ў газету папалі!—звярнулася да мяне дакторка.

У мяне скаланулася сэрца. Я добра перахварэў гісторыю з выстаўкай. Газет, як агню, баюся. Яшчэ да сённяшняга дню я з прыкрасцю чытаю артыкулы, якія змешваюць чалавека з балотам. Шукаю сябе ў газеце і не знаходжу, пакуль дакторка не пачынае чытаць:

— Гаворачы пра насценгазеты, нельга прамінуць работу мастакоў, і ў першую чаргу работу вядомага мастака, таварыша Мезіка.

Я падумаў:

— Ці не перасаліў ты, таварыш Рэлін?

Дакторка спынілася, зірнула ўдаль. Яна ўзрадавалася і прапанавала мне:

— Таварыш Мезік, хадзем полем. Нам пашанцавала—мы там знойдзем усіх пузікаўскіх жанчын.

За кілометр ад нас, направа ад шляху, на ўзгорку рухалася даволі вялікая група людзей. Здалёку цяжка было пазнаць, хто там і што яны робяць. Але дакторка адразу здагадалася.

— Бачыце, хто там працуе? Бачыце бурты?.. Калгасніцы бульбу перабіраюць... Мы іх там усіх знойдзем.

Мы звярнулі направа. Поле было яшчэ вільготнае, гліністае. Ногі гразлі ў вязкай, ліпучай глебе. Але ўсё-ткі мая дакторка пусцілася на авантуру. Яна зняла камашы, панчохі і басаніж пайшла да буртоў...

— Вы прастынеце,—усур'ёз занепакоіўся я.

Дзіўна і дзіка было глядзець, як дакторка месіць сваімі белымі нагамі грузкую, гліністую глебу. Я валачыўся ўслед. Шнуркі ад камашаў развязаліся. Можа я павінен быў прарабіць дзівацтва дакторкі, але я не магу сабе дазволіць гэткай раскошы—у канцы красавіка прагульвацца басаніж па полі. Я шукаў вытаптаную сцежку, мяжу, дарэмна круціўся направа, налева—поле праз усю шырыню было заворана. Відаць, увосень... Я адчуў смак пагулянкі ў раннюю вясну па зябу. Я прышоў да бульбы спацелы, камашаў—не пазнаць. Ад прыліпшай гліны.

А дакторка? Яна адчувала сябе, як гаспадыня, не пераставала задаваць пытанняў, адказваць на іх.

— Мёрзлая бульба! шмат мёрзлай... Што? халодная зіма? Не зіма! Тут быў аграном?

— А вы не аграном?

З прыходам гэтай дзяўчыны работа пайшла рупней. Вельмі спрытна набіралі бульбу, насыпалі ў плеценыя кошыкі, высыпалі наверх. З усім за кароткі час вырас конус перабранай сухой бульбы.

— А фурманкі дзе?—крыкнула дакторка.

— Зараз пад'едуць.

З другога боку, шляхам, набліжаўся коннік. Калгасніцы першыя заўважылі яго. Маладзейшыя ўсміхаліся. Старэйшыя ажывіліся. Хустачкі падвязвалі, рукавом шаранулі па носе. Я здалёк пазнаў Сінічкіна: Ён паганяў каня. Ён, мабыць, мерыўся супыніць каня наскаку. Гэта яму ўдалося. Конь цяжка засопся.

— Як працуем, кабеткі?—крыкнуў ён і заўважыў нас—мяне і дакторку. Я, седзячы, выціраў камашы.

— Таварыш мастак, я вас не пазнаў... А хто гэта таварышка? Таксама з агітцягніка?

— А вы, таварыш, хто такі?—запыталася дакторка.

— Дзелавод і часовы загадчык гаспадаркай.

— Вельмі многа перамёрзлай бульбы.

— Гэта боская справа.

— Гаспадарчая справа.

— Барометр вінаваты.

— Ах, гэта ў вас барометр?

— Безумоўна—маю... Барометр паказвае на дождж... Дзеля гэтага я прыскакаў сюды.—Штурхануць перабіральніц трэба.

— Навошта штурхаць, калі перабіральніцы робяць двайную работу. Можа і тут барометр вінаваты?

— Двайную работу?—вынуў Сінічкін ногі са страмён.

— Спачатку сыплюць бульбу на дол, а затым з долу на вазы. Вось вам двайная работа.

— А нагрэць бульбу трэба?

— Награваць бульбу? Вы жартуеце з мяне?

Кабеты кінулі працаваць. Я быў задаволены тым, што Сінічкін не знаходзіў адказу, што яго звычайны, здаровы гумар здрадзіў яму.

— Чаму так доўга не едуць фурманкі? Дзе яны запрапасціліся?—злаваўся Сінічкін.

Здалёку да буртоў ледзь валоклася фурманка ўлегцы. Дакторка

аглядала Сінічкіна гнеўна, зняважліва. Гэтак, мабыць, аглядае медыцынскі следчы крымінальнага праступніка. Яна ўсё больш і больш вырастае ў маіх вачах. Якая спецыялістка разбірацца ў характарах! Яна спакойна, дзелавіта прапанавала:

— Або менш перабіральніц, або больш фурманак...

Дзяўчаты моўчкі ўсміхаліся. Старэйшыя здзіўлена аглядалі прыезджую дзяўчыну—во, як бярэ на цыгундар бравага кавалера!

Але Сінічкіну здавалася, што ён зноў выйграе зараз бабскую аўдыторыю. Ён сказаў:

— Бачыце, кабетачкі-кветачкі, як б'юць нашых, вясковых. Прызнайцеся самі, між двума тузінамі калгасніц не знайшлося ніводнай разумніцы, якая здагадалася-б на гэта... Во што значыць горад!.. Дзярэўня! Дзеравеншчына! Калі ў вас пачне варыць галава? Вы гаворыце залатую праўдачку, таварышка, дальбог, праўда... Калгасніцы, яна мае рацыю!..

І шпарка ўскочыў на каня, усеўся ў сядло.

— Я прышлю яшчэ фурманак... Можа маеце ахвоту праехацца са мною конна?.. На полі гразка.

Незвычайную зацікаўленасць выклікала ў калгасніц прапанова Сінічкіна.

— Дайце руку,—казаў Сінічкін. Я бачу,—вы не з пужлівых.

І працягнуў дакторцы правую руку, трымаючы паводдзе ў левай, нізка прыгнуўшыся.

Дакторка ўззлавалася, Яе абурыла нахабнасць гэтага разбалаванага мужчыны.

— Не,—адказала яна падкрэслена спакойна,—злазь з каня, раней сяду я.

Сінічкін адразу саскочыў з каня. Калгасніцы з нецярплівасцю сачылі, чым гэта скончыцца, Сінічкін стрымліваў маладога коніка за аброць.

Дакторка ўставіла нагу ў стрэмя, нязграбна ўселася ў сядло. Перашкаджала сукенка. Рухі былі вымушаныя. Поза крыху смешная і небяспечная для жанчыны, якая раней не рыхтавалася да коннай язды.

Яна прымасцілася. Твар пачырванеў, напружыўся. Сінічкін застаўся стаяць у замяшанні. Ён шукаў адпаведнага для сябе месца. Сесці да яе на каленкі, за сядлом—спераду, ззаду... Яго выгляд быў камічны. Седзячы на кані, дакторка звярнулася да калгасніц:

— Ведаеце, чаго я прышла да вас, таварышкі? Я—доктар... Перадайце ўсім пузікаўскім жанчынам, што сёння пасля работы адбудзецца сход... Таксама буду прымаць хворых жанчын і дзяцей... Прыходзьце ўсе... Будзем яслі адкрываць.

А да мяне:

— Дайце сюды газеты.

І атрымала іх.

— А вы, таварыш Сінічкін, бярыце першы нумар нашай газеты. Чытайце самі, і раздайце перабіральніцам,—ім усёроўна няма чаго рабіць.

Пацягнула паводдзе і накіравала туды, адкуль прыбыла фурманка па бульбу.

Калгасніцы праводзілі яе гучным рогатам, бадзёрымі выкрыкамі. Пажылая кабета падышла зусім блізка да Сінічкіна і сказала:

— Чытай нам, Сінічкін... Што скажаш на гарадскую дзяўчыну? Атрымаў па лапах, га?

Сінічкін адразу ўгледзеў сябе ў газеце. Ён стаяў раздражнены. У

сваіх храмовых камашах, на вушках якіх трымаліся абшлагі кароткіх пакамечаных штаноў,—ён выглядаў даволі мізерна.

Перабіральніцы зазірнулі ў газеты. Твары напружыліся. Адна гучна зарагатала.

— Сінічкін!—крыкнула яна.

Я, стоячы збоку, замаляваў—калгасніцы чытаюць газеты.

Заходзячае ярка-чырвонае сонца паказалася за падбродскім лесам, хвіліну затрымалася на вершалінах дрэў і схавалася ў хмарах, якія аблажылі далеч гарызонту. Заходня-паўночны вецер імпетна разганяў абмярэжаныя ружовымі палосамі шэрыя хмары. Зрабілася холадна. Ідучы ў Пузікі, я параўняўся з пузікаўскім стадам, якое тут пасвілася на блізкай пожні. Стада, худое, шпарка ішло з пашы. Пастух, скурчаны ў сваёй сярмязе, плёўся ззаду. Я моцна стаміўся. Занудзіўся па сваім гарадскім пакоі.

Уваходзячы ў Пузікі, я сустрэў сялянку „з поўным". Яна несла два поўных дрыўляных вядры вады, Я запытаўся ў яе, ці ведае яна, што сёння жаночы сход. Яна зняла каромысла з плеч, спынілася:

— Ведаем.

— А ты будзеш на сходзе?

— Абавязкова прыду... Я ўжо запісалася... Вы шукаеце дакторку—вось яна.

Здалёк я не пазнаў дакторкі. Яна апранула авечы кажушок. Як хутка яна прыстасоўваецца.—падумаў я. Вось яна босая ходзіць, а вось яна ў кажуху. Дакторка ішла мне насустрач з пакункам у руках.

— Вось як я пазнаёмілася з Пузікамі,—сказала яна. Пра агітцягнік гутарыць ужо ўся вёска. Закінуты куток Пузікі, але ўсё-ткі калгасніцы чакаюць ясляй. А колькі падобных куткоў у нас яшчэ ёсць... Конь Сінічкіна спатрэбіўся—выправіла чалавека з агітцягніка, каб прыслалі кіно і мастацкую брыгаду. Аўдыторыяй мы забяспечаны, усе прыдуць. Вось вам удзячны матэрыял для свайго пэндзля.

— Мне прыдзецца нанова пісаць вас, таварыш Койль... Маляваць вас па-ранейшаму—проста наіўна. Вас добра паказаць у руху, паколькі гэта наогул нам, мастакам, магчыма падаваць чалавека ў дынаміцы. Падумаць толькі я столькі жанчын маляваў! І якіх і навошта?

— Але ў агітцягніку вы займаеце гэткае пачэснае месца,—узяла мяне пад руку дакторка.—Пра вас ужо пішуць у газетах... Ведаеце, што я вам скажу—я галодная, як дзесяць ваўкоў... Давайце ўпарадкуем гэта... Ну, што скажаце пра гэтага ёлапа... як яго, Сінічкіна... Вы калі-небудзь ездзілі конна?..

— А вы?

— Я? А колькі разоў я памагала каваць коняй бацьку?

— Каваць?—зірнуў я здзіўлена на дакторку.

— Падковы падбіваў бацька, а я трымала нагу... Бачыце? Ідуць. На сход збіраюцца...

Сход ладзілі ў папоўскай хаце. Гэта адзіная хата ў Пузіках, якая падобна да гарадскога будынку—чатыры вакны з вуліцы, даволі светлыя, з шасцю шыбамі ў кожным вакне. Поп даўно ўцёк з Пузікаў, але пакоі пуставалі. Толькі ў адным хтосьці жыў.

— Хто тут жыве? здзівілася Койль.

Зайшоўшы ў пакоі, мы ўбачылі двох маладых, дужых людзей, мужа і жонку. Ён, поўны, плячысты, аброслы спыніўся каля стала з загостраным сталёвым клінком у руцэ, кроіць з баханкі кавалкі хлеба і нясе іх у рот разам з нажом. Яна распальвае на прыпечку—але навошта ёй агонь—не зразумела. Упакоі не ўгледзіце ні гаршкоў і нічога такога,

у чым можна было-б варыць. Яна павярнулася—на нас зірнуў малады светлы твар стройнай жанчыны. Муж не прыкмячае нас, пазірае ў вакно. Яна чакае, пакуль хто-небудзь загаворыць.

— Хто вы такія?—запыталася дакторка ў мужчыны.

Ён не адказваў, запіхаючы ў рот разам з нажом кавалак хлеба.

— Даўно тут жывяце?—перапыталася дакторка.

Ен кладзе другі кавалак у рот, маўчыць.

— Вы тутэйшыя ці не?—уззлавалася дакторка.

— Нетутэйшыя,—прабурчэў мужчына, не глянуўшы у наш бок.

— Адказвайце, калі пытаюцца: хто дазволіў вам пасяліцца тут?

— Заўхоз.

— Сінічкін?

— Заўхоз.

— Яго прозвішча—Сінічкін?

— Ён... наш... сваяк,—дадала жанчына.

— Вы адкуль?

— Выкінулі... з калгасу.

— З якога?

Ён не адказвае, зноў рэжа лустачкі хлеба, запіхае ў рот.

— Прапаную вам кінуць жарты,—кажа дакторка,—я не прышла гасцяваць сюды. Я—доктар... Адчыняем тут яслі... Мы выселілі дармаеда-папа не дзеля таго, каб другога пасадзіць... Адчыняем тут яслі для дзяцей калгаснікаў.

Жанчына павярнула галаву да нас. Магло здавацца, што яе не тычацца тлумачэнні дакторкі, што яна тут пабочны чалавек, які гатуе вячэру на палыхаючым прыпечку. Неспадзявана яна звярнулася да дакторкі:

— Можа і нашых дзяцей у яслі возьмеце?

— Вашых дзяцей?—А дзе яны?

Муж маўчаў. Ён трымаў загостраны клінок і думаў—адкроіць яшчэ лустачку хлеба ці не. Жонка чакала, пакуль загаворыць муж.

— Дзе вашы дзеці?—не супакойвалася дакторка.

— Адказвай, ну гавары!—звярнуўся ён да жонкі:—можаш расказаць.

— І без дазволу раскажу... Дзеці—у бабуні, а мы тут пакутуем. Хвіліну маўчала і дадала:—Уступіў у калгас—працуй і не бунтуй!

— Маўчы, калі нічога не кумекаеш. Мяне выключылі з калгасу—панура адказаў мужчына і ўпяршыню паказаў свой твар.

— Выкінулі,—паўтарыў ён.

— За што?

— За што? За нічога.

— Усё-ж такі!

— Што я сказаў? Я сказаў—нам лён не патрэбен. Такая зямля... Век не ўрадзіла і не ўродзіць... Хай соўгасы гэтым займаюцца. Яны дзяржаўныя. Мы і без ільну абыйдземся... Во што я сказаў.

— Божа-ж мой!—залямантавала жонка, падыйшла да дакторкі, схапіла яе за руку:—Не слухайце яго. Хай нас прымуць у Пузікаўскі калгас, а дзяцей—у яслі.

Хоць злосна, але ўсё-такі ён адказаў, з якога раёну Сінічкін яго выпісаў і з якога калгасу яго выкінулі. Койль занатавала штосьці ў блок-нот, і мы моўчкі выйшлі.

Я ўспомніў першую лекцыю гэтай энергічнай дзяўчыны. Цяпер яна прыгадзілася мне. Калі-б я ўгледзеў гэткі малюнак на некалькі месяцаў раней, я зусім інакш успрыняў бы яго. Цяпер я пабачыў разбураную сялянскую сям'ю. Хто разбурыў яе? Хто давёў яе да гэтага?

Цяпер для мяне ясна, што гэтая здаровая маладая пара злосна кінула работу, катэгарычна адмовілася ад новых форм працы, і гэткіх, як яны, ёсць багата. Гэты аброслы, брудны і тупы чалавек быў жахлівы ў сваёй упартай абыякавасці.

У папоўскую хату зайшлі мы з другога параднага ходу. Сюды ўжо сыходзіліся жанчыны. Каля дзвярэй тоўпілася калгасная моладзь. Яслі, відаць, мала цікавілі яе. Тут проста было весела—чакалі кіно, канцэрту.

Я зайздросціў сваёй дакторцы. Куды-б яна ні з'явілася—усюды пакідае след. Усюды яна, як свая, як гаспадыня. Думаю, што яна перарастае Рэліна.

На дварэ насувалася ноч. На сходзе было бітма-набіта народу. Адзін аднаго не бачылі. Спачатку жанчыны маўчалі. Затым пачуліся абрыўкі-сказы. Затым пачаліся гутаркі—дзелавітыя, спакойныя.

— Яслі адкрыюць гэтымі днямі—чуўся жаночы голас.

— Трэба гароды садзіць, бульбу. Неўзабаве і праполка пачнецца.

— А зэдлікі, а столікі?

— І малако з калгасу.

— Яечка...

— Кавалак масліца, мяса адпусціць калгас.

— І папоўскую хату пабяліць, у першую чаргу.

— Бяліць умею я, буду бяліць!—пачулася збоку. Усе шукалі ў напалову асветленай хаце жанчыну, якая кінула гэты сказ. Ён быў пявучы, сакавіты. Я пазнаў жонку вылючанага з калгасу. Я ўгледзеў яе, пераадзетую ў свежую, чыстую сукенку.

— Мы ўжо самі як-небудзь,—адказаў хтосьці.

— Сядзяць на нашым карку трэці месяц.

Паслалі людзей прынесці лямпы. Яны вярнуліся разам з Рэліным, кіно-апаратарам, мастацкай брыгадай.

Мне стала прытульней сярод гэтых людзей, з якімі зжыўся за апошнія дні. Я стараўся прыдушыць у сабе гнятучае пачуццё чалавека, на сумленні якога лягло штосьці цяжкае.

Пасярод пакою павесілі лямпу пад плоскай бляхай. Яшчэ дзве лямпы паказаліся на стале, вакол якога сядзелі пузікаўскія жанчыны. Твар дакторкі пасвятлеў, пасвяжэў: Яна нешта тлумачыла маладой сялянцы. Тая напружаная прыслухоўвалася. Затым яна ўстала і абвясціла:

— Жанчыны! Пузікаўцы! Першы раз сюды прышлі спевакі, артысты і кіно будзе...—і, захлынуўшыся, узмахнула рукамі над сталом і непрывычна-ўрачыста запляскала. Увесь сход загудзеў, асабліва моладзь. Апладыравалі гучна, па-гарадскому.

— А цяпер,—сказала яна,—дадзім слова...

Яна прыслухалася да дакторкі. Тая падсказала:

— Рэліну,—і зноў ускінула рукі для воплескаў.

Мяне асабіста ў гэты момант вельмі цікавіла рэлінскае выступленне, тут у Пузіках. Рэлін праштурхаўся ў прэзідыум, заняў месца між старшынёй і дакторкай.

Рэлін за дзень стаміўся. Прамову пачаў ціха, як перарваную гутарку:

— ...Я сустрэў сёння вашых калгасніц, якія перабіралі бульбу. Некаторыя з іх сядзяць тут каля мяне... Яны не дадуць мне схлусіць... Калі яны вышлі на работу—запытаўся я ў іх... Вы палуднавалі ўжо?.. Адказваюць—мы ідзем толькі на работу. Але полудзень ужо гатовы? У каго гатовы, у каго—не.

— Патрэбна адчыняць яслі—безумоўна. Але неабходна таксама глядзець, як гадуюцца вашы свінні..

— ...Вось я ведаю, і вам напэўна таксама вядомы, наступны выпадак: у адным калгасе кармілі кабана... Добрага парсюка выкармілі выхадзілі. Але кармілі так, што ён прыставаць пачаў. Чалавек, які даглядаў за ім, гаворыць, што кабан перастаў есці. У карыце застаецца. Назаўтра падліваюць да рэштkаў крыху свежае яды. Паслязаўтра зноў падліваюць, пакуль з карыта палілося. Тут ужо канец. Кабан больш не прымае. Пара калоць. І вышаў увесь калгас аддаць апошні гонар кабану. Вось будзе сала ў калгасе! Пасталі калгаснікі, наўкола і бачаць... І што думаеце ўгледзелі калгаснікі?—Кабан ляжыць спруцянелы. Значыць, трэба даведацца, калі ён здох... Спрактыкаваныя калгаснікі абмацалі яго, абнюхалі і вырашылі—падла ляжыць чатыры дні... чатыры дні—і кабан выпрастаў ногі, і брыгада чатыры дні ўзапар прыносіла яду і не патурбавалася глянуць, што робіцца з іх гадунцом.

— ...Згарэла мясная фабрыка... Таварышы, абяром тут сярод нас адданых брыгадзіраў... Таварышы, бачыце, што здараецца ў дрэнным калгасе.

*30 красавіка*

Варочаючыся з Пузікаў, я сумысля адстаў ад сваіх таварышоў, пакінуў іх адных. Кажу пра Рэліна і дакторку. Мне здавалася, што яны маюць пра нешта гаварыць, і мая прысутнасць сціскае іх.

— Чаго адстаеце, таварыш?—гукнула мне дакторка здалёк. Вецер ясна данёс да мяне яе словы. У яе голасе хутчэй адчувалася тактычнасць, чым трывога. Неўзабаве я пачуў, нібы яны засмяяліся. Я пакрыўдзіўся. Адчуў сябе нікчэмным, прыніжаным. Я думаў так: вось варочаюцца шчаслівыя людзі з работы. Кожны з іх нагрузіўся за дзень як пчала, што варочаецца са сваім бярэмем у вулей. Жыццё для іх насычана. Жыццё— іхняя, для іх, з імі.

Яны аддаліліся ад мяне. Не даходзілі нават іхныя галасы. Так, яны маюць права на жыццё. На інтымнасць. Пасля гэткага плённага працоўнага дня. Я падлічыў, што яны за дзень многа, вельмі многа зрабілі.

А я? Вельмі мала. Амаль нічога. Апрача таго, мяне праследуе, як цень, маё мінулае. Зноў—гісторыя з настаўніцай. Пацяшаю сябе словам „настаўніца". Кажу сам сабе—баюся самога сябе назваць рэчы сваімі імёнамі.

Чаму я адразу не паставіў пытання ва ўсёй гастрыні? Я не павінен быў адступіцца ад яе, пакуль не даведаўся, кім яна з'яўляецца сягоння.

З пашматаных хмарак імчалі мне насустрач халодныя зоры. Ноч была вільготная, халодная і, пранізлівы вецер яшчэ больш адчуваўся таму, што я быў стомлены, спацелы.

Я збіўся з дарогі. Занепакоіўся. У далечы палыхаў касцёр. Я стаў набліжацца да яго і, падышоўшы зусім блізка, угледзеў нашы вагоны. Я абрадваўся.

Брыгады агітцягніка вярнуліся з працы позна ўночы. Натоўп быў галодны—дык гатавалі свежую вячэру. Гаршкі варыліся на агні, а прыбыўшыя людзі згрудзіліся ля кастра, адганялі рукамі дым, што лез у вочы, падбіралі трэскі, кідалі навокал гаршкоў. Я сагрэўся, адпачыў ля кастра. У вагонах было няпрытульна, вільготна, халодна і цесна.

— Вячэру, вячэру,— крычалі з вуліцы галасы.

Натоўп рассеўся ў вагоне-клубе на лавах, уселіся вакол сталоў так цесна, шток ожны высунуў рукі і трымаў або выпрастаныя на сталах, або ўспёртыя лакцямі.

З нагатаванай яды пахла смалой і дымам. Ад гэтага тут, у агітцягніку, апетыт яшчэ больш разгуляўся. Апошнім на кухню прышоў начальнік—ён на-хаду ўзяў талерку стравы.

— Ну, вось, свежая вячэра... Пасля вячэры не разыходзіцца... Вытворчая нарада... Бягучая нарада... А дванаццатай, самае большае—а першай усе павінны спаць.

Са справаздачаю выступілі трое брыгадзіраў; напрацаваным за дзень, разагрэтым пасля вячэры—захацелася спаць. Але справаздача першай арыгады ўжо расчухала ўвесь калектыў. Кожны з нас зразумеў, што вёска да сяўбы не падрыхтавалася, што тут не выконваюць пасеўных планаў.

— Праца ў брыгадах не арганізавана. Адзін не ведае—што робіць другі,—апавядалі брыгадзіры.

— Коні стаяць галодныя, у брудных хлявах. Брыгадзіры спяць. Жанчыны зусім не ўдзельнічаюць у калгаснай працы. Палі засяваюцца няўгноенымі.

— Вы самі на сябе наганяеце страх,—крыкнуў начальнік, гэта мы ведаем без вашых дакладаў. Мы і прыехалі сюды наладзіць працу... Канкрэтна, чаго вы дасягнулі за дзень? Ёсць пералом у працы?

Для мяне, а можа і не для мяне аднаго, былі нечаканымі нападкі начальніка на нашу брыгаду.

— Адных вынікаў мала—для нас важны метады у працы. Няўжо брыгада Рэліна ўпэўнена ў тым, што праробленая праца выклікае радасць і энтузіязм у саміх калгаснікаў? Мы у гэтым сумняваемся. Рэлін выявіў пэўную актыўнасць, але актыўнасць вынікае з камандвання, з падгону. Гэта самае агіднае ў нашай працы... Каго, назавіце мне канкрэтна, каго пакідае агітцягнік пасля нашага ад'езду?.. Назавіце мне актывістаў, дайце мне іх адрас... Абслугоўваць хворых... Вельмі добра, дакторка, але для гэтага табе не хопіць усіх дваццаці чатырох гадзін... Арганізоўваць інтэлігенцыю, медпункты, яслі... Дзіцячыя пляцоўкі... Гэта не наша работа.

Мне шкада было Рэліна, дакторку, хоць яны ні крышачку не знізіліся ў маіх вачах.

А начальнік?

Я не мог зразумець, адкуль ён усё гэта ведае. Мне пачынала ўжо здавацца, што ён сам залішне ўвайшоў у ролю штабіста, які знаходзіцца на далёкай адлегласці ад пазіцый. Я не стратэг, але гэткія паводзіны ўсё-ткі не ў маім гусце. Мне падабаецца, што ты ясі стоячы, што пераймаеш талерку яды на-хаду, але мне не падабаецца, што ты запёрся ў асобным купэ... Ён-жа тут меў свой габінет... Гэта мне не спадабалася... Ажно—не. Ён ведае, што робіцца ў брыгадах.

— А вы, таварыш мастак, хочаце дадаць што-небудзь да справаздачы вашай брыгады,—звярнуўся ён да мяне асабіста.

— Я хадзіў да настаўніцы,—далажыў я, і некалькі чалавек засмяялася, усміхнуўся таксама і начальнік.

— Вы робіце тут вялікую справу,—дадаў начальнік.

А ў мяне не хапіла смеласці расказаць тут пра нейкую настаўніцу, магчыма гэта справа больш складаная... Не, цяпер не пара.

Паседжанне скончылася каля першай гадзіны. Праз тры гадзіны ўсе павінны выйсці ў калгасы. Выйсці пехатой, не спазніцца на працу. І дзеля гэтага пасля паседжання ўсе паспяшылі спаць.

На двара была густая цемра, золка, але нікому не хацелася ўспамінаць пра гэта. Гутаркі пра дрэнную пагоду пахлі ўжо тут дэмабілізацыйнымі настроямі. Раніцой усё выясніцца.

Усе тут за дзень шмат нахадзіліся і адразу паснулі, а мяне асабіста і сон не браў.

*2 мая.*

Як звычайна, я прачнуўся першым. З вакна бліснула мне такое непрытульнае святло. Мяне прабіралі дрыжыкі. Я азірнуўся, Апрача мяне, у гэтым купэ спіць яшчэ пяць таварышоў, моладзі зразумела. Яны смачна спяць, захутаўшыся з галавой байкавымі коўдрамі. Я ўзняўся, зірнуў у вакно... Густы снег, які яшчэ сыпаў, пабяліў брудны вагзальчык і ён выглядаў цяпер такім самотным, журлівым. Прыгожы белы свет адкрыўся мне праз другое вакно, у напрамку пузікаўскіх палеткаў. На вагзальным даху прарэзліва-злосна каркала варона. Я адразу прыпомніў Сінічкіна. Мне здавалася, што ён ляжыць зараз выцягнуўшыся на сваім ложку і трыумфуе, радуючыся нашаму паражэнню. Я адчуў да гэтага чалавека затоеную варожасць. Будзіць хлапцоў, ці хвілінку пачакаць. Я нацягнуў на сябе вільготную, халодную вопратку. Я вырашыў раней апрануцца, нацерціся снегам і пастукацца да начальніка. Мне захацелася пастукацца якраз да начальніка не дзеля таго, каб ён пераканаўся, што я даволі мабілізаваны, магчыма, больш пільны за іншых у агітцягніку. Я проста хацеў пабачыцца з ім, запытацца, што рабіць, пагутарыць, можа нават пра настаўніцу, яшчэ да таго, як сустрэнуся з ёю.

Я вышаў з вагона, закасаў рукавы, расшпіліў каўнер і давай націрацца снегам. Бадзёрая цяплыня разлілася па ўсім целе. Я нібы вырас у сваіх уласных вачах. Я радаваўся, што іменна я прачнуўся сягоння першым. Я па-юнацку націраў шыю, грудзі, плечы бялюткім снегам пакуль не перамог лёгкія дрыжыкі ў целе.

— Таварыш, што вы робіце?

Я ўгледзеў. каля сябе начальніка. У галошах на босую нагу, сініх галіфэ, у цёмнай кашулі. Грудзі расхрыстаны, шырокія. Твар—не зусім выспаны.

— Я захоплены вамі,—сказаў ён...—Што мы будзем рабіць, таварыш, будзіць на работу ці не... Вось вам!..

Засмяяўся і дадаў:

— Сягоння можна паспаць пазней.

— А калі прачнуцца?

— Будзе яшчэ больш работы... Вы не прастынеце?

— Я добра сябе адчуваю.

— Вельмі задаволены.

На вагзальчыку паказаліся сяляне: з бідонамі, кошыкамі і торбачкамі ў руках. Яны тут чакалі цягніка, ён павінен зараз прыбыць. Гэтыя пасажыры сумысля надзелі цёплыя шапкі, рукавіцы, кажухі. Пазіралі на неба, аглядалі асірацелыя вагоны і сыпалі вясёлымі жартамі.

Хлопцам усё-ж такі не спалася. Абыякава вылезлі з пасцеляй, пахмурыя, маўклівыя, як людзі, якія нечакана папаліся да ворага ў палон. Праспалі ў цесных вагонах. Мінулі станцыю, буфет, гарбату. Здавалася, што чыгуначнікі, якія з самага пачатку не асабліва гасцінна прынялі неспадзяваны гармідар агітцягніка, таксама цішком хіхікалі—трэба сказаць, што ў гэту раніцу агітцягнік выглядаў даволі маркотна і камічна.

З Падброддзя на санках прыехаў Сінічкін. Ён праімчаў каля нашага цягніка. Ад палазоў, на лёгкім снягу засталіся шэрыя, вадой насычаныя, палосы. Сінічкін заліхвацкі нацягнуў лейцы, конь імчаўся наперад, але сані рухаліся даволі цяжка. Сінічкін нават не глянуў у наш бок, зусім ігнаруючы агітцягнік, які стаяў на апошнім рэзервным шляху, паралельна падбродскаму тракту, набраклы, з пашматанымі ветрам плакатамі. Мне здавалася, што Сінічкін дэманстратыўна паказаўся тут на зімовым выездзе. Я такі не зразумеў, чаго ён так рана прыпёрся на вагзал.

Вяскоўцы, чакаўшыя тут цягніка, які, відаць, спазніўся, вельмі дружна сустрэлі Сінічкіна.

— Каб да снегу добры марозік,—гладзіў нейкі селянін у зімовай шапцы-вушанцы Сінічкінага каня, з якога валіла пара.

— Барометр на гэта паказвае,—адказаў Сінічкін.

Ён вылез з санак, фарсіста падцягнуў боты, ляснуў па халявах, з адной халявы выцягнуў партабак, пачаў скручваць папяроску і ўсё так салідна і сур'ёзна, не ашчасліўшы цягніка ніводным позіркам.

Я вышаў да Сінічкіна толькі пасля таго, як Рэлін да яго падышоў. Сінічкін закурыў.

— Я вам гаварыў, што трэба слухацца старых хлебаробаў... Добра яшчэ, што селекцыйны лён спазніўся ў дарозе. Каб лён прыбыў упару, мы-б выляцелі ў трубу... Цяпер будуць стаяць дажджыстыя халодныя дні... Борометр...

Рэлін маўчаў. Я зразумеў, што брыгадзір абураны тым, што загналі каня, што з яго пара валіць. Але Рэлін, пасля ўчарайшага пачастунку, атрыманага ім ад начальніка, праз сілу стрымліваўся ад сварлівага тону. Здаецца не памыляюся.

— На нараду! Усе на нараду ў клуб-вагон!—пачулі мы з агітцягніка.

Кожны з нас адчуваў сябе лішнім тут у вагоне, чакаючы начальніка і кіраўніцтва, якое замкнулася ў яго габінеце. Прыезджыя гарадскія людзі нудна разглядалі аблезлыя агратабелі, пераліствалі агракніжкі, зазіралі ў вокны і пафіласофску аглядалі белы свет. Тут у вагоне сядзелі ў большасці беспартыйныя мастакі, пісьменнікі, кампазітары, якія, выязджаючы з агітцягнікам, разлічвалі, галоўным чынам, на вясну. Снег высыпаў нечакана.

Кучаравы малады скульптар, хлапец, які прэтэндуе на вечнасць і арыгінальнасць, сказануў:

— Сёння нас дарэмна з пасцеляў паднялі.—Да гэткай пагоды акурат запасаваны спальны вагон.

— Выспацца можна дома,—адказаў я.

— Зусім натуральна, вам не спіцца, а я—малады.

— Каб да маладосці кропелька розуму і таленту.

— І маладая дзяўчына,—дадаў скульптар.

Ён дасягнуў свайго. Выклікаў вясёлы смех. Гарманіст узяўся за гармонь. Фракцыя, вышаўшы, знайшла ўсіх рагочучымі.

— Вось гэта мне падабаецца,—сказаў начальнік: а я ўжо думаў, што хлопцы насы апусцілі.

— Нашы мастакі не спяць у шапку—дык весела,—далажыў фатограф і дробненька захіхікаў: ён кажа—маладую дзяўчыну...

Начальнік, пазіраючы ў вакно, чакаў, пакуль вясёлая кампанія супакоіцца. Я тады адчуў да яго асаблівую сімпатыю. Радасць на іх напала! Праўду кажучы, не так ужо весела.

— Дык вось, таварышы, кіраўніцтва агітцягніка адзначае ў працы рад недахопаў, Я зраблю гэта коратка,—пачаў начальнік,—я перако-

наны, што як партыйныя, гэтак і беспартыйныя разумеюць гэта вельмі добра... Мы за некалькі дзён прарабілі вялікую працу... Але мы забыліся; ведаеце, на каго?—на аднаасобніка. Гэту работу мы ўскладаем на рад таварышоў. Далей мабілізаваць мясцовыя рэсурсы для калгаснага транспарта. Далей праводзіць працу сярод жанчын... Ітак, бачыце калі ў нас выключна сёння работа на полі, дык з нас хопіць і падрыхтоўчай працы.

— Гэта было зразумела і пераканаўча.

Удзельнікі агітцягніка ўсе, як адзін, выйшлі з вагонаў з плакатамі, пакункамі, газетамі і літаратурай пад пахай. Для чыгуначнікаў і чакаўшых пасажыраў гэта дэманстрацыя была нечаканай. На мясцовых людзей зрабілі добры ўплыў гэткая бадзёрасць і ўпэўненасць у сваіх сілах.

— Вы і сёння думаеце сеяць?—запытаўся чыгуначнік.

— А другой работы, апрача сяўбы, на вёсцы няма? Дзе вы, таварыш, выраслі?

Гэтак адказаў скептык маленькай пакінутай станцыі, мой супрацоўнік, малады скульптар. Я астаўся задаволены гэткім адказам. Ён заўважыў гэта. Урэшце мы абодва займаемся адной і той самай працай. Ён малады—хай дурэе часамі. Хто яго ведае—можа я няпраў. Кім я быў у яго гадах?

— Куды вас накіравалі?—запытаўся ён.

— У Пузікі,—адказаў я неахвотна.

— Там балота па калені—сказаў ён мне.

— Дык мне будзе мокра.

— Зразумела.

— Дык няма чаго пытацца.

У Пузікі я пайшоў адзін. Я тут добра ведаў дарогу і дзеля гэтага накіраваўся направа, каб лесам выйсці да Пузікаў з другога боку. Так бліжэй.

Пачынала праясняцца. Ногі часцей і часцей хлюпалі па гразі, лужынах. Я спыніўся—а можа вярнуцца, пайсці шляхам. Але простай дарогай да Пузікаў—як рукой падаць. Я скакаў з купіны на купіну, з куста на куст. Такім чынам я няўпэўнена дабраўся да ляска і стаў. Пад разбураным мастом люстравалася даволі шырокая, быстрая рэчка. З вады тырчэлі вострыя камені і склізкія калоды. Я не адважыўся ступаць па іх. Вярнуцца, назад—таксама немагчыма. Я адчуў сябе такім дробным, мізерным. Альбо туды, альбо сюды—вырашыў я. Адламаў сук з блізкага дрэва, паклаў на ваду. Сук на момант затрымала і завіхрыла плынню.

— Лезь у ваду,—угаварваў я сам сябе. Але ногі не слухаліся.— Сем-восем крокаў і ты на другім беразе.—падбадзёрваў я сам сябе, але ніякія доказы не памагалі, больш таго, ногі пачалі вязнуць. Выцягваю адну—глыбей вязне другая. На маіх вачах снег губляе вартасць.

Аж раптам збоку вылез чалавек з вязанкай дроў на спіне. Яго не абыходзіла, што ногі вязнуць у затопленым доле. Я пазнаў яго. Ён падышоў бліжэй да рэчкі. Ён прыбліжаўся да мяне так спакойна, упэўнена, нібы разводдзя тут ніколі не было.

— Што? Лёгка жыць на свеце? Баішся набраць вады у калошы? Ха-ха-ха!

Я моцна збянтэжыўся. Я пазнаў маўчальніка, якога мы сустрэлі ў папоўскай хаце. Ён быў адзеты ў паношаным, чырвонаармейскім шынялі. Яго твар выглядаў больш вострым і злосным, як там у хаце калі ён крамсаў лустачкі хлеба. Ён скінуў вязанку дроў і намерыўся закурыць.

— Ну, альбо туды альбо сюды,—нагла зарагатаў ён, ашчарэпіў мяне рукамі, нібы ў дужкі браўся.

Я ўсімі сіламі ірваўся ад яго, але дарэмна: як жалезнымі абручамі ён сціснуў мяне.

— Чаго трапечашся? Я перанясу цябе... Ха-ха-ха... Толькі не выганяйце мяне з хаты... Добра?..

— Пусці!—упіўся я пазурамі ў яго твар.

— А кусаешся... Я гэткіх як ты нібы клапоў душыў.

Я вырваўся. Мы абодва стаялі па калені ў вадзе.

Я адчуў холад у нагах. Хапаўся рукамі за ваду, нібы хацеў ратавацца з прорвы. Я шпарка выскачыў з рэчкі і пайшоў у Пузікі, не абарочваючыся, прамоклы, насычаны вадою.

Я цяжка валачыў ногі, якія былі, нібы свінцом налітыя. З крысаў паліто сцякала вада. Я ўжо не выбіраў сухіх мясцін, ішоў дзе папала.

Я нікога не сустрэў па дарозе і гэта мяне вельмі радавала.

Я дабраўся да Сцёпкі, да хаты свайго Сцёпкі. Мяне тут сустрэлі са спачуваннем і шкадаваннем.

— Божа мой... Распраніцеся... Можа на печку палезеце... Каб у гэткія пагоды ганялі старога чалавека,—сустрэла мяне Сцёпкіна маці.

— Не балбачы, падай яму валёнкі,—умяшаўся гаспадар. Ён сядзеў на ляжанцы, звесіўшы босыя ногі і чытаў газету. Ён запытаўся:

— Што кажа ваш аграном—лён не загіне пад снегам?.. А бульба? Чаму-ж гэта вы адны?

— Мне трэба тут перагаварыць з аднаасобнікамі,—адказаў я.— Я прасіў-бы склікаць іх.

— Аднаасобнікаў?—уззлаваўся Цімох,—прасіцца ў іх?

— Не прасіцца—растлумачыць.

Сцёпка надзеў цяжкія бацькавы боты, у якіх я першы раз сустрэў яго, і пойшоў склікаць аднаасобнікаў.

А я сам? Які ўплыў зрабіла на мяне здарэнне на рэчцы? Зусім магчыма, што я адбуду драбніцай, можа гэта не пашкодзіць майму здароўю... Пакуль што добра. Затое я прыняў халодны душ і ўпершыню сутыкнуўся з ворагам. Не страшна, нават карысна.

Горш тое, што я не ведаю, што рабіць са сходам. Як падыйсці да сялян-аднаасобнікаў? Я ўпершыню павінен выступіць перад сялянскай масай. Я маю канкрэтнае заданне—правесці пасеўныя планы ў пузікаўскіх аднаасобнікаў. Вось калі дае сябе адчуваць мая палітычная адсталасць. Сяджу каля гаспадара на печы і перагортваю прамову Сталіна ад дзевятнаццатага лютага. Якія зразумелыя простыя думкі... Але як мне пабудаваць свае слова? Ёсць! Знайшоў! Выступлю ў ролі аднаасобніка, толькі тады яны зразумеюць мяне. Прыдзецца пагутарыць па-сяброўску. Растлумачу ім, што я сам ведаю смак абасобленасці, замкнутасці на сваёй уласнай палосцы. Скажу ім, што індывідуалісты існуюць не толькі на вёсцы, але таксама ў горадзе, што сярод нас, мастакоў, таксама ёсць аднаасобнікі. Я праілюструю сваім уласным мінулым, сваёй роляй як мастака да апошняга часу, не гаворачы ўжо пра той перыяд, калі я як яны, працаваў на пузікаўскага пана. Безумоўна, гэта будзе цікава.

Прыходзяць першыя сяляне. Мяне запальвае тое, што ў хату заходзяць усё новыя людзі—сяляне і сялянкі ў світках, кажушках, што ў хаце гусцее махорачны дым, што вокны моцна запацелі, што астыўшыя кроплі коцяцца ўніз па брудных шыбах.

Забываюся, што я мастак. Мяне не цягне да свайго альбома, алоўка, хоць тут, з печы добра замалёўваць постаці жанчын, якія прышлі сюды, пакінуўшы мужчын у хаце... Які багаты чалавечы матэрыял!..

Не, я цяпер падбіраю выразы, вобразы і параўнанні для свайго выступлення.

Метад аказаўся вельмі правільным. Першы сказ: „Я і вы—мы ўсе аднаасобнікі“ ўжо зацікавіў сход. Хто яго ведае, магчыма, што я маю пэўныя агітатарскія здольнасці...

У іншы час я не мог-бы апамятацца ад нечаканасці,—а тут яшчэ больш увайшоў у азарт... Уявіце сабе, я цытую сталінскую прамову на першым усесаюзным з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў. Раптам расчыняюцца дзверы і ўявіце сабе—паказваюцца Рэлін, дакторка, а за імі сам начальнік. Што мне застаецца рабіць? Прыходзіцца ўступіць сваё месца партыйцам... Але я таксама маю амбіцыю. Працягваю, канчаю сваю прамову.

Я ўпэўнены, што сам начальнік адчувае сябе няёмка. Ці не перасаліла кіраўніцтва агітцягніка, вылучыўшы мяне вясковым агітатарам. Але трымаюся ўпэўнена, хаця, зразумела, адчуваю сябе, як чалавек, які ўпершыню апынуўся на каньках. Не падаеш, але катацца таксама не можаш. З вялікай цяжкасцю падтрымліваеш роўнавагу свайго цела... А ў прамове кажу пра тое, што з першага мая пузікаўскія аднаасобнікі абавязкова павінны ўзараць і абсеяць палеткі.

Сход напружыўся, пачыналі наступаць з месца. Шумліва, пагрозна. Жаночыя, мужчынскія галасы крычалі.

— Што мы маем ад калгаса? Кароў нашых пасвіць не даюць?

— Калгас лупіць з нас скуру.

— Сінічкін мучыць—не лепшы за падбродскага пана.

— Вось вы засыпаліся з ільном, пад снегам змерзне лён. А калі мы вас не паслухаліся—хто выгадаў?

— Застаўся лён пад снегам.

— А бульба не згніе ў вадзе?

— Рабіце свае справы, гарадскія, не лезьце ў вёску.

— Падганяйце калгаснікаў,—мы, аднаасобнікі, абыдземся без вас.

Я даў усім накрычацца. Чакаў. Якраз цяпер я мог з поспехам прыстасаваць свой метад, метад аднаасобніка, індывідуала.

Рэлін, дакторка і начальнік стаялі ў дзвярах і з вялікай цікавасцю сачылі за тым, як я выблутаюся з гэтага цяжкага становішча.

Начальнік ступіў некалькі крокаў наперад, як-бы не верыў у мае сілы. Але хутка ён супакоіўся, падбадзёрыў мяне, падміргнуўшы, што ўсё добра.

— Вядзіце, вядзіце сход!—Толькі тады я пачаў.

— Вы баіцеся, каб лён пад снегам не прастудзіўся (смех) і гэта ўжо добра—вы самі смяецеся—няма чаго баяцца. Лён селекцыйны, ранні і не баіцца холаду. Вось я сам часцяком прастуджваўся, баяўся прастуды і ўсё-ткі мне сённяшні снег не зашкодзіў, хоць я прышоў сюды прамоклы. Усё-ткі я не растаў. Высушыўся на Цімохавай печы... Дык і лён ваш цэлым застанецца... Цяпер пра бульбу... Вашы дзяды зусім не хацелі саджаць бульбы... Яны бульбяныя бунты чынілі... Яны думалі, што во-во атруцяцца бульбай... Як таварыш Сталін кажа—трэба спрабаваць пабудаваць новае жыццё... Мы, вы і я павінны рыхтавацца ў калгас... А тое, што вы скардзіцеся на Сінічкіна, калі Сінічкін перашкаджае працаваць, мы можам забраць яго да сябе—у горад, магчыма, паразумнее...

Што яшчэ вымагаць ад сябе... Мая прамова, перапісаная, выходзіць больш гладкай, але змест той самы. Сход я правёў і бессумненна не праваліўся. Да работы пузікаўскія аднаасобнікі прыступяць. Дык што-ж вымагаць ад сябе, каб я гаварыў лепш за начальніка, які выступіў пасля мяне...

*4-га мая*

Два дні прайшло, пакуль агітцягнік скінуў з сябе зімовае і апрануўся ў летняе. Сёння ўранні быў вялікі попыт на абутковую пасту, шчоткі для вопраткі і абутак. Кажушкі, ватовыя паліто, вышываныя коўдры, сяннікі і падушачкі праветрываюцца на сонцы. У вагонах адбываецца генеральная чыстка. Вокны і дзверы расчынены насцеж, падлога, пляцоўкі, крэслы, зэдлікі абмываюцца, шаруюцца і палошчуцца поўнымі вёдрамі гарачай вады. Вагоны хутка высыхаюць. На чысцюткіх сталах і зэдліках паказваюцца мухі. Мыць падлогу прышлі сюды пузікаўскія дзяўчаты, дужыя, маладыя, вясёлыя, якія моўчкі шаруюць падлогу і раптам зарагочуць, прыдушваючы смех унутры сябе. Дзяўчат забаўляе наш гарманіст, які круціцца каля іх, і скульптар, які аднаўляе плакаты і лозунгі, зусім знішчаныя за апошнія дажджлівыя дні.

Колькі сонца, прастору, хоць ты схадзі, выкупайся ў той самай рэчцы, якая гэтак палохала цябе два дні таму назад.

Я не прастудзіўся. Я здаровы і адчуваю сёння вясну глыбока, балюча. Я сказаў-бы, што гэтак я ўспрымаю вясну ўпершыню. Проста ўспомніць не магу сваю гарадскую кватэру, падворак, чалавека ў янотавай футры, малочніцу і прадаўшчыцу хлеба. Як далёка я адышоўся ад іх? Зусім не маю ахвоты выязджаць адгэтуль.

Кіно-аператар „увекавечвае“ агітцягнік. Вось ён наводзіць свой апарат на мяне, на майго калегу-юнака, на пузікаўскіх дзяўчат, якія спынілі работу і стаяць ля вагонных вакон.

— Дзяўчаткі, даражэнькія,—зварочваецца да іх кіно-аператар,—чаму не ўступаеце ў калгас?

Гэта іх не разбірае. Дзяўчаты з месца не кратаюцца. Але апера тару неабходна паказаць іх у руху. Тады ён дадае:

— Як мы можам у вас закахацца, калі вы аднаасобніцы?

Гэта памагае. Аператар хапаецца за ручку апарата.

— Прыходзьце да нас увечары—тут будзе кіно, пасаджу вас каля сябе,—падтрымлівае гутарку скульптар.

— Знойдзем і без цябе,—адказвае дзяўчына. Астатнія смяюцца, а кіно-аператор спрытна круціць ручку апарата.

— Ты мяне выратаваў, таварышок,—кажа аператар да скульптара.

— Што скажаш на пузікаўскіх дзяўчат?

— Каб тут не працавала хціваяя рука класавага ворага, дык усе Пузікі даўно ўжо былі-б у калгасе.

У Падброддзі, Пузіках, ва ўсіх навакольных вёсках з учарашняга дню ўжо гутараць, што сёння агітцягнік ладзіць кіно. Дык рана падняліся на работу. Працавалася вельмі ахвотна.—Цяпло і сонца, насценныя газеты, чырвоная дошка, пахвальныя граматы і ўвечары кіно.—Сядзяць тут на станцыі святочныя. Усцяж пяці вагонаў, якія складаюць наш агітцягнік, шпацыруюць туды-сюды парачкі з Падброддзя, Пузікаў, цяпер ужо нашыя знаёмыя. Калгасныя хлопцы ў ботах з галошамі, дзяўчаты—у боціках на высокіх корках і крамных панчохах, якія аблягаюць ногі вышэй кален, у сукенках—кароткіх і шырокіх, асабліва знізу. Фалды няўстойлівыя і разыходзяцца, як дзіцячыя папяровыя цацкі-гармонікі.

І Ярмошка прышоў сюды. Ён здружыўся з нашым гарманістам. Яны ўжо маюць даволі вялікую аўдыторыю, якая пастала жывым амфітэатрам. Дзеці пасярод кола, за імі дарослыя, зацікаўленыя як дзеці. Старэйшых, апрача Ярмошкі, амаль што няма.

Кіно-працаўнікі агітцягніка завіхаюцца. Пераносяць экран на вуліцу,

але гэта нікога не абыходзіць. Падзухвальваюць Ярмошку, каб ён што-кольвек заспяваў.

Той аднекваецца, адмаўляецца.

— Дайце яму гармонік, дайце!

Ярмошку далі гармонь. Ён па-людску не ўмее нават трымаць яе. Гэта выклікае смех. Ярмошка бянтэжыцца. Хрыплавата заспявае.

Грай, Ярмошка, грай, Ярмошка,
Скачы, браце, пад гормошку—
Дык да тэрміну сго га
Лёну высее калгас.

Абодва, адзетыя ў летнім—Рэлін з дакторкай стаяць у самым асяродку. Яна трымае сваю руку на яго плячы. Яны падбадзёрваюць Ярмошку, песцяць і бадзёраць адзін аднаго. Цікава, калі яна перабярэцца да Рэліна, тады буду мець яе за суседку. Ярмошка працягвае.

Гэй, кабеткі! Гэй дзяўчаты!
Запрашайце толькі ў хату
Малайцоў, што сеюць лён,—
Кулакоў ганяйце вон!

Аўдыторыя расце. Кіно-аператар смуткуе па Юпітэры, па тысячы светлых лямпачак.

— Як гэта я праваронію Ярмошку,—не магу сабе падараваць.

Змрокі. Пакідаю канцэрт. А ліпучае паветра хмеліць. Кусаюцца камары, але яны не абураюць мяне.

Іду лесам і чую здалёк упэўненыя гулкія крокі. А можа гэта Сінічкін? Настрой псуецца...

А тут—насустрач мне гучыць мужчынскі выкрык:

— Хто ідзе?

Пазнаю свайго начальніка. Ён смяецца. Ён здзіўлены, што сустрэў мяне тут аднаго,

— Бачыце,—і паказвае мне рэвальвер. Ён дзівіцца, што я гуляю тут гэтак бяспечна.

Хвіліну памаўчаў, запытаўся:

— Вы, здаецца, хацелі расказаць штосьці пра падбродскую настаўніцу?

Каданаў сказаў гэта вельмі роўнадушна. Выходзіла, што ён мне ласку зробіць, калі выслухае мяне.

І сапраўды, што можа гэткі чалавек, як я, дадаць да характарыстыкі мясцовай інтэлігенцыі пасля таго, як гэткія характарыстыкі былі ўжо, мабыць, пададзены важнейшымі людзьмі—Рэліным і Койль. Для мяне гэта было нечаканым, асабліва пасля майго ўдалага сходу з аднаасобнікамі. Я спачатку блытаўся, і гісторыя з маёй старой знаёмай атрымалася зусім шэрай, будзённай. Начальнік прысеў на сходцы вагона і, слухаючы мяне, часта пазяхаў і чакаў, каб я ўжо закончыў.

— У маім сшытку гэта справа запісана ясней і цікавей,—апраўдваўся я...

— І гэта ўсё? Больш нічога не ведаеце пра настаўніцу?—устаючы запытаўся ён.

Мне стала непрыемна ад гэтай роўнадушнасці, з якой начальнік успрыняў кавалак майго жыцця... Я адказаў, што не ведаю... Адкуль я магу ведаць?.. А калі яна вытрымае слова і прыдзе, я пра ўсё даведаюся.

— Сумняваюся. Бадай, што яна ўжо болей не прыдзе сюды,—праказаў начальнік,—зойдзем да мяне ў купэ наконт гэтай самай справы.

Я ў яго тут першы раз. Каданаў зашчапіў дзверы. Вышла, нібы я сюды запрошаны на зачыненае паседжанне. Калі хочаце, дык мяне гэта нават падбадзёрыла.

— Вас цікавіць, каго ўяўляе сабою ваша даўнейшая знаёмая?— зірнуў Каданаў у адзін са сваіх сшыткаў, якія ляжалі на століку... Нам усё вядома,—дадаў ён.

Я моцна замяшаўся, збянтэжыўся: аказваецца, што Каданаў, седзячы тут у вагоне, куды больш за мяне ведае пра маю знаёмую, хоць я ўжо некалькі дзён б'юся над гэтай справай. Паколькі я ведаў яе, весткі пра настаўніцу супадалі з яе характарыстыкай. Дзе дастаў начальнік гэтыя весткі? З майго боку было-б нетактычна распытвацца, хто перадаў яму матэрыял пра падбродскую настаўніцу.

Начальнік разуў боты і расцягнуўся на мяккай лаве.

— Што скажаце, таварыш Мезік?—запытаўся ён ветліва.

— Я здзіўлены,—адказаў я, і дадаў:—Я вяду тут дзеннік і хацеў-бы занатаваць весткі пра настаўніцу, паколькі настаўніца ўяўляе сабою пэўную цікавасць для кожнага савецкага чалавека!—гэтак, ва ўсякім выпадку, мне здаецца.

Каданаў хвіліну падумаў і дазволіў мне занатаваць у блокнот усё, што я даведаўся пра яе:

1. Яе імя і прозвішча—Антаніна Яўневіч, 43 гады. Яе бацька бедны казначэйскі служачы. Паводле свайго выгляду і палітычнай сутнасці ён вельмі падобны да таго беднага чыноўніка, якога Чэхаў апісвае ў сваёй навеле „Смерць чыноўніка“.

2. Скончыла сярэднюю школу і спецыялізавалася на настаўніцу малявання.

3. Беспартыйная. У 1913 г. спачувала эсерам. Як член партыі, якая актыўна змагалася супроць савецкай улады, яна варожа адносілася да кампартыі і саветаў.

4. У першыя гады НЭП'а яна верыла, што савецкая ўлада сама сабою аджыве, што ў Расіі па-крысе рэстаўрыруецца капіталістычны лад.

5. Была замужам толькі адзін раз. Яе муж, раней гвардзейскі афіцэр, а пасля жандарскі афіцэр, на другім годзе сваёй апошняй службы быў забіты куляй, не паспеўшы выйсці ў (пададзеную) адстаўку, якой яна ад яго вымагала.

6. Да гэтага часу варожа адносіцца да суцэльнай калектывізацыі.

7. Так, да яе часта заязджалі людзі, між імі таксама былі і мастакі, якія моцна крытыкавалі мерапрыемствы ўлады адносна вёскі.

8. Нацдэмы ў яе асобе, як кіраўніцы навучальнай установы, мелі пэўны апорны пункт для сваіх мэт.

— Пра Сінічкіна вы на сходзе далі вельмі трапную фармуліроўку. Яго напэўна камандыруюць у горад,—сказаў начальнік. Ведаеце, заўтра мы адгэтуль выязджаем... Усё-ж такі мы выязджаем з вынікамі... Пойдзем глядзець кіно.

На двары нас спыніў наш кіно-аператар.

— Хочаце пабачыць,—сказаў ён:—вось як вёска глядзіць кіно... Хадзем, я пастаўлю вас з боку экрана, тварам да масы.

На экране паказвалася маскоўскае святкаванне.

Людскія постаці, час-ад-часу асветленыя экраннымі праменнямі, не маглі ўстаяць на адным месцы, не маглі стрымаць сваёй радасці, захаплення і часта выкрыквалі:

— Вось, вось!

— Ідуць... Далей, далей...

— А коні! А коннікі!

— Глядзі! Глядзі!

Я шукаў сярод гэтай людской масы знаёмыя твары. Не адмаўляю. Я хацеў тут спаткаць сваю старую знаёмую. Я хацеў яшчэ раз выслухаць яе—але яна не прышла. Сінічкіна таксама не было тут.

Вось я пазнаў свайго Сцёпку. Ён тут стаяў між бацькам і маткай. Тут калгасная сям'я паказалася мне зусім у іншым святле! У іншым святле паказваецца мне цяпер усё навакольнае.

Якаў Саламонавіч, трэба жыць! Хочацца жыць! І можа яшчэ не позна!

*6-га мая.*

Учора агітцягнік пакінуў глухую чыгуначную станцыю, праразаючы калгасныя палеткі Пузікаў і Падброддзя. У гэты светлы дзень засявалі бульбу, і наша моладзь пасылала з вагонаў калгаснаму натоўпу дружныя прывітанні.

Маладыя дзяўчаты спыняліся і, пастаяўшы крыху, засмучоныя, прапускалі агітцягнік і зноў прыпадалі да палеткаў, старанна мераючы ўзараныя барозны.

*(Канец)*

З яўрэйскае мовы пераклаў
Ізраіль Плаўнік.

АРКАДЗЬ КУЛЯШОЎ

## ТАВАРЫШУ, ЯКІ ПЕРАМОГ СМЕРЦЬ

Пытаўся ты ў дарог зямлі,
У рэк, зірнуўшы ўніз:
— Як выратавацца?..—калі
Твой парашут павіс
І чатырохматорны птах
Нёс на хвасце сваім,
Праз хмары, праз дажджы, праз жах,
Яго, з жыццём тваім.
Зірні: усе твае сябры,
Вятрам наперакор,
Ляцяць даўно ўжо на зямлю
У подых дрэў, вазёр.
Там сёння свята. Аташэ
Суседніх нам дзяржаў—
Ці бачыш? сочаць за табой
Адтуль з высокіх траў.
Ты ведаеш: пад рокат труб
Чужых, чакае „госць",
Каб гэтую зямлю, каб дуб
Твая прабіла косць.
І каб дзяўчыне не знайсці
Пасля ў імхах сухіх,
Ні на бяросце, ні ў трысці,
Ні ў дне вачэй тваіх.
Каб на зямлі не адшукаць
Ні рук тваіх, ні ног,
І каб, як трэба, пахаваць
Ніхто цябе не змог.

Ненавісць матак і сяброў
У нашай спіць крыві,
Яна выростае, каб зноў
Нам загадаць: жыві!
Жыві, каб ворага ў свой час
Працяў смяротны ток,
Убачыўшы ў табе твой клас,
Каб ён, бяссільны, змоўк!

Далёка там, дзе цені хмар,
Дзе ўсцяж стаяць пасты,
Дзявочы, сумны бачу твар—

Яе кахаеш ты.
Яшчэ на плошчы бачу я,
Сакратара ЦК,
У барацьбе за хлеб, чыя
Цябе вяла рука!
У іх, крыві адзіны бой
Ĭ сэрцаў паварот
Адзін, калі ўгары рукой
Хапаеш, б'еш ты ў борт.
Па чыстых росах, па вадзе
К табе, вышэй дубоў,
Хай падымаецца, ідзе
Ĭ дойдзе іх любоў!

Над пушчаю і над вадой
Машына робіць круг,
Яе вядзе начальнік твой
Ĭ твой старэйшы друг.
(Маленства. Лес. Галіны дрэў
У восеньскай расе.
Ты чуеш маці сумны спеў—
Яна грыбы нясе,
Ёй перабег дарогу ліс)...
Не! То вятры гудуць,
То сон... Табе з кабіны ўніз
Вяроўку падаюць.
Яна з шурпатых траў, з крапіў,
Ёй можна змерыць вір,
Яе ў калгасе брату звіў
На памяць брыгадзір.
Глухім імхом не парасцеш
На ясенях старых
Ĭ не загінеш, не памрэш
Ты між сяброў сваіх!
Ĭ ўжо спакойна ўніз глядзіш
На выгібы дарог,
На прадзедаў курган, на крыж,
Бо смерць ты перамог!

Менск, ворасень 1934 г.

АЛЕКСАНДР МІРОНАЎ

(Чэлюскінец).

# БЕЛЫ ЖАХ

## 1

Абмыты дажджамі і выпешчаны праменнямі палярных сонечных дзён, сыры ад сівых туманаў чукоцкай восені, ляжыць у блакітных прасторах Ціхага акіяна востраў Аракамчачэн.

Аддзелены ад Чукоткі нешырокім пралівам, адзінока і пустынна плешчацца ён пясчанымі, галечнымі берагамі ў сцюдзёнай вадзе, рубяжом разлёгся паміж залівамі Мечыгмен і Чаплін.

Увесну востраў рана скідае ледзяныя пакровы: лёд адыходзіць на поўнач, а з мора на галечны бераг клыкастаю чорнай лавінай узвальваюцца маржы:

— ідуць палка раўці ў белыя ночы,

— горача, цяжка кахаць,

— глядзець на вясенняе сонца.

З году ў год, на працягу дзесяцігоддзяў, прыходзяць тысячы маржоў на лежбішчы, кахаюцца і на смерць б'юцца за самак, гадуюць маладых і дзіўных дзяцей—маржат, вучаць іх жыць. А потым лавінай зноў кідаюцца ў мора і знікаюць—да новай вясны.

І зноў пусцее востраў.

Ціха.

Толькі чайкі санліва вандруюць па пяску і гальцы, ды абрыўкі вяліка-акіянскіх тайфунаў валавянымі наваламі хваль б'юць у бераг, разрываючы ўрачыстую цішыню: над Аракамчачэнам навісае белы жах.

Ніхто не жыве на востраве, апроч маржоў. Людзі не селяцца тут, баючыся пустэчы, адзіноты і таямнічых духаў, пра якіх гаворыць шаман Экар. Духі выклікаюць жах і забараняюць чапаць свяшчэнных маржоў.

Шырокімі, бязмежнымі з'яўляюцца словы шамана ў краіне блакітных прастораў. Яго ведаюць усюды: і ў сваім стойбішчы—затоцы Мечыгмен, ведаюць у заліве Лаўрэнція, Уэлена і Чаплін. З усіх стойбішч прыязджаюць людзі у Мечыгмен да вялікага з вялікіх шамана—за дапамогай, за парадай. Экар усё можа: напусціць хворасць, наклікаць смерць, голад, мор на сабак і аленяў; можа загаварыць звера, і ён ні на якую прынаду не пойдзе ў жалезы і пасткі, можа наклікаць туман, вецер, пургу,—ён усё можа!

Страшным, таямнічым і магутным з'яўляецца шаман.

Чукчы яго баяцца, ліслівяць перад ім, прыносячы ў ахвяру падуладным Экару духам лепшую скурку пясца, лепшае мяса здабычы, лепшыя маржовыя клыкі. А тыя, хто не можа задобрыць духаў ахвярай, дагаджаюць шаману работай:

— нарту наладзяць,

— байдару паправяць,

— скуру апрацуюць...

Экар забараніў людзям біць маржоў на востраве Аракамчачэн, у пурговую ноч сасніўшы вялікага духа палявання. Тады, у гэту ноч, дух увайшоў у яромгу шамана ў выглядзе сівога маржа і, глуха рыкаючы, загадаў яму перадаць людзям сваю волю:

— Не біць звера на востраве.

І людзі не білі.

Аракамчачэн стаў востравам Белага Жаху—лежбішчам маржовым і след чалавека не пляміў яго пяшчаных берагоў.

Пазней дух палявання зноў прышоў у ярангу. Ён глуха рычэў, бліскаў ікламі, шчэрыў востры перламутр зубоў. Тады Экар з жонкай Рультэнэ, двума сынамі і чатырма дочкамі, выконваючы волю вялікага духа, пераплыў на байдарках бірузовы праліў, прашалясцеў па гальцы берага і разбіў сваю ярангу на востраве, каб

— ахоўваць маржовыя лежбішчы,
— валодаць востравам, маржамі,
— і людзьмі.

Мінаў год за годам.

Гады адзначаліся новымі маржовымі лежбішчамі ды ростам шаманавай магутнасці. Глыбокія маршчыны вялікіх таямніц зрэзалі Экараў твар, але яго высокая фігура не горбілася ад цяжкай работы і клопатаў.

Дзеці шамана раслі, набракалі сілай, маладым задорам, жаданнем жыць, але жыцця не было: адзінокія на адчужаным востраве, яны адзначалі гады асцярожным (каб звер крыві не бачыў, бо інакш назаўсёды знікне ў моры!) паляваннем на маржоў, ды аднастайнай тугой і журботай па людзях.

Так праходзілі тыдні, месяцы, гады... А гады складаліся з гадамі і расла слава і магутнасць шаманавага рода Экара.

Старэла жонка шамана Рультэнэ.

— Розныя бываюць гады. Год на год не падобен, як не падобна пара шчанят ад адной сукі. І як шчаняты бываюць белыя, чорныя, і проста так сабе—розныя, так і гады бываюць белыя, багатыя промыслам, і чорныя, калі голад навісае над ярангамі чорным туманам; бываюць і так сабе гады—з сярэдняй здабычай. Але ўсе гады з'яўляюцца аднолькава шчодрымі да вострава Белага Жаху, і кожны год ядранымі веснавымі днямі кідаў на гальку свяшчэннай зямлі тысячныя лавіны маржоў. У белыя гады людзі неслі шаману дары і Экар камлаў*) за ўдачу у промысле; у чорныя гады шаман камлаў, звяртаючыся да духаў з малітвай аб багатай здабычы. А калі здабычы не было, ён пазычаў людзям маржовае мяса, закабаляючы гэтым чукчаў. У белыя і так сабе гады людзі неслі шаману даўгі і дары на залік будучых камланняў, часта адбіраючы апошні кавалак у сваіх галодных дзяцей.

І гады,—чорныя гады,—дабаўлялі да ўлады шамана Экара—улады Белага Жаху—яшчэ больш магутнае ўладарства: уладарства голада, робячы шамана гаспадаром многіх міль Краіны Блакітных Прастораў і тысяч несвядомых людзей.

## 2

Ээк**)—гліняная і неглыбокая пасудзіна, напоўненая тлушчам і ў ім па краі ланцужок імха. Тлушчавік асвятляе чарнату ярангі. Слабымі прамнямі ён ліжа твары людзей, пауценямі запаўзае ў куткі чукоцкай

*) Камлаць—маліцца.
**) Ээк—тлушчавік.

хаты. Каля тлушчавіка ў круг сядзяць на скурах людзі: іх чэцвера— смуглых, глыбока задуменных.

Чукчы маўчаць.

П'юць гарбату з блюдцаў: густы і чорны, быццам і ў гарбату— у гарачую ваду—нападалі кусочкі ярангавай цемры.

А побач, за скураной сцяной полага, за ярангай рагоча і плача пурга. Нема, без слоў, спявае.

Аб чым?..

...Быццам перакладаючы песню пургі на словы, гаспадар яранг— вузкалобы са смалянымі валасамі, чукча спявае:

— Вось мы сядзім і п'ём гарбату
А на дворы пурга, о-о-ой, пурга-а!
Вецер і снег, снег і вецер,
І холадна ў пургу на дворы.

Спявак павольна хістаецца ў такт песні, задуменна гледзячы ў агонь тлушчавіка.

Духі вышлі ў тундру,—
Сярдзітыя духі, злыя
На нас беднякоў—чукчаў...

Словы песні—імправізацыі ліюцца мімаволі, як думкі, і матыў песні сумна плача, як пурга.

Вось мы сядзім: я—Рэнт,
І сыны мае Паркок і Омкай,
І брат мой Рэнтыргін.
А сын Паркок
Хадзіў глядзець капканы
І не прынёс здабычы...

Голас спевака дрыжыць, песня-жальба плача тугой непагоды.

Няма здабычы ў капканах Рэнта,
А здабыча была і знікла:
Яе забралі чужыя людзі,
І людзі пайшлі,
Пакінуўшы на снегу след.
А след вёў на бераг мора—
На востраў Аракамчачэн...

Спявак заціх, палахліва аглядзеў цемру ярангі, прыслухаўся да выцця пургі і зноў заспяваў, уторачы ёй глуха і насцярожана:

А хто жыве на востраве?
Там жыве наш вялікі шаман
І дзеці шамана ўзялі пясцоў.
Ой, што буду рабіць я—Рэнт
У чорны галодны год?
О-о-о, о-о-о-й!
А сын мой Паркок
Лаяў след шаманавых дзяцей
І вось прышла пурга—
Яе паклікаў шаман...
Пурга заб'е Рэнта,
Жонку і малых дзяцей...

Рэнт змоўк, схіліўшы галаву на грудзі. У полагу ўсе маўчалі, скаваныя жахам. Толькі ў кутку, быццам пацвярджаючы словы песні, заплакала напалоханае захутанае ў скуры дзіця.

За сцяной-скурай пурга спявала сваю песню, вохкаючы і стогнучы
— Паркок, навошта ты лаяў след? Навошта пляваў на яго?

— А чаму шаман забраў нашых пясцоў, бацька? Ён украў у чукчы здабычу!

— Маўчы! шаман пачуе!

— К—ко...

Цішыня полага голасам маткі адказала.

— Пачуе—смерць прышле...

Змоўклі.

На плечы наваліўся жах.

— Паркок,—сказаў бацька.—Ты занясеш шаману пыпэ*), прасі яго камлаць за ўдачу.

— Апошні пыпэ, бацька?

— Дык што, калі апошні? Так трэба...

Ніхто больш не гаворыць.

Толькі плача перапалоханае малое дзіця.

Раніцой пурга адыйшла, нарадзіўшы пазёмку. Сіняе неба скінула хмары, і снег засінеў, як неба.

Востраў бялеў, вычышчаны і пагладжаны пазёмкай. Пазёмка скакала па мяккаму снегавому пуху і яранга шамана бліжэй прысунулася да праліва.

...Чорная кропка слізгала па аснежаным ільду праліва: бліжэй і бліжэй, за крокам крок.

Крокі-секундамі.

Падышла да ярангі. Лыжы-снегаступы засталіся на снезе. Чалавек увайшоў у ярангу.

— Хто?—запытаў цяжкі голас.

— Я-я,—адказаў чалавек.

— Чаго прышоў?—зноў запытаў Экар, пачакальна гледзячы на госця.

— Вось пыпэ,—і Паркок палажыў на скураную падлогу ношу.— Бацька просіць камлаць за ўдачу ў промысле.

— Што, няма промысла?

— Няма. Дрэнны промысел.

— Вамі незадаволены духі. Рэнт—прагны, ён баіцца прынесці дастойную ахвяру. Духі не даюць удачы, патрэбна добрая ахвяра.

— А што даць? няма ахвяры!—Паркок выпрастаўся, дапытліва углядаючыся ў празрыстыя зрэнкі шамана.—Нас дзесяць і яшчэ два, усе ядуць, а толькі тры здабываюць. Промысел дрэнны, увесну прыдзе голад...

Паркок змоўк. Маладосць, боль за галодныя енкі дзяцей у кепскай яранзе бацькі, душылі, рваліся з грудзей. Стрымліваў страх перад шаманам, Белы Жах, але злосць расла, перасільвала жах. Перамагла.

Адважыўся:

— Экар, камлай—даведайся, хто украў,—ён голасна падкрэсліў ганебнае слова,—з нашых капканаў трох пясцоў?

Погляд шамана быў востры і суровы, а голас глухі і насцярожаны:

— Пясцы пайшлі на ахвяру духу палявання. Ідзі. Я буду камлаць...

Паркок быстрэй пазёмкі бег цераз праліў. На плечы насядаў страх перад пакараннем за дзёрскі выклік Беламу Жаху, але з кожным крокам гэты страх клоччамі спадаў з плячэй і на мацярыковым беразе зусім знік. Засталася толькі злосць.

— Маўчаць буду. Чакаць буду. Калі шаман нашле бяду, значыць валодае духамі. Калі-ж не—пайду ў совет, няхай памогуць.

Прывёўшы хлопца, Экар падняў цяжкую пыпэ.

---

*) Пыпэ—суцэльная нерпавая скура, напоўненая тлушчам.

— Рультэнэ!—паклікаў ён.

У полаг увайшла жонка.

— Вось, сын Рэнта прынёс пыпэ. Прасіць камлаць за ўдачу ў промысле.

— А што ён гаварыў пра пясцоў? Я чула...

— Э!—шаман зморшчыў твар.—З капканаў Рэнта забралі трох цясцоў.

— Хто узяў? духі?

— Я сказаў—духі. Яны часта бяруць здабычу з чужых капканаў. Людзі нездаволены...

— Не духі—мы бяром, бацька!—адазваўся з кутка вялікі і скуласты, увесь у бацьку сын шамана.—Мы ўзялі пясцоў.

— Духі ўзялі пясцоў праз нас, яны...

— І прынеслі пясцоў у нашу ярангу? І скуры знялі? І сушаць іх праз нас? Не, бацька! Мы ўкралі пясцоў, Паркок ведае гэта!

— Змоўкні!—Экар грозна павярнуўся да сына.—Не табе думаць аб духах!

Сын моўчкі выйшаў з полага ў халодную пустэчу ярангі.

Бяда не прышла: Паркок чакаў яе дзень і яшчэ дзень, а потым пайшоў аглядаць капканы і пасткі. Крокі яго чотка хрусцелі ў марознай імгле, гулка разрываючы спрадвечную цішыню Белага Маўчання. Празрыстая сінь ахутвала неба і зямлю, і ў небе мігцелі халодныя зоры ды ярка палымнеў месяц.

Мароз пашчыпваў твар чалавека, іскрыўся на голай шыі. Дыханне вырывалася струменем пары, шэранню асядаючы на футры кухлянкі і чорных жорсткіх валасах.

У першым капкане тузаўся звярок. Ён адчайна рваўся, шабуршэў снегам і шчэрыў на чалавека востры рад зубоў. Але чалавек быў бязлітасны, як голад, і ён ударыў пясца смерцю. Той заціх палахлівай здабычай.

Другі і трэці капканы былі пустыя, прынада ляжала некранутай, і паляўнічы прайшоў далей. У чацвёртым капкане было таксама пуста і сківіцы яго пакрыліся шэранню. Але яны сціскалі белую нагу пясца, хоць яго самога і не было. Толькі на снягу чарнелі плямы крыві: здабыча чалавечай хітрасці зрабілася здабычай звярынага голада, і пясец знайшоў свой апошні прытулак у гарачым нутры сваіх родзічаў.

Была здабыча яшчэ і яшчэ... і вяртаючыся ў ярангу, Паркок голасна спяваў вясёлую песню пра ўдачу, кідаючы насмешлівы выклік таму страшнаму, што жыве на востраве Аракамчачэн. Па спіне чалавека, спацелай ад бегу і радасці, навыперадкі імчаліся мурашкі марозу і страха, але чалавек маладой упартасцю перамагаў Белы жах, парушаючы цішыню блакітных раўнін.

...Ноч і зоры, снег і месяц, белая імга слухалі песню чалавека, бязгучнай сімфоніяй уторачы яму і зліваючыся ў магутны гімн...

...Дзедавыя законы халоднай краіны старыя, як само жыццё. І стрыжань законаў—стрыжань жыцця—гэта ўлада з роду ў род, з пакалення ў пакаленне—улада шамана. На ёй апіраюцца няпісаныя родавыя законы, бо ўлада шамана—гэта і ёсць Белы Жах. Парушыш законы продкаў, закранеш таямніцы Белага Жаха—і пакаранне дзёрскага будзе суровым і бязлітасным...

Паркок гэта ведаў.

Пасля памятнай марознай ночы, калі ён прынёс ў ярангу чатыры каўлакі пушыстай здабычы і канец песні—прайшло шмат такіх самых начэй. І многія ночы давалі паляўнічаму добрую здабычу: многія, апроч адной. Гэтая ноч, напоўненая сполахамі палярных ззянняў,

была падобна на другія такія-ж ночы і Паркок крочыў у ёй адзінока і прызвычаена, правяраючы жалезы, пасткі. Але тады ён быў не адзін: плямы чужых снегаступаў ланцужком цягнуліся ад пасткі да пасткі, і пасткі расказалі паляўнічаму, што тут быў чужы, прагны чалавек.

Раптам Паркока ахапіла злосць, насела на яго раз'юшаным мядзведзем—страшнай сударгай сціснула горла. Белым ценем ён імчаўся па свежаму снегу, выглядваючы двуногую здабычу. Ён ведаў: злодзей не мог далёка адыйсці, снег па краях яго слядоў не паспеў запасці, і таму след быў свежым. І лёгкім ценем, як птушыны пух, наляцеў ён на чалавека, які схіліўся над зашчэмленым у сталь звярком, і біў доўга, раз'юшана.

Потым забраў у злодзея здабычу, глянуў на паспешнае бегства яго і, цяжка дыхаючы, пайшоў.

А той, двуногі, хістаючыся пабрыў да берага мора, да праліва, плямячы снег згусткамі скрываўленай спіны і праклінаючы паляўнічага і пясцоў, бацьку і шамана, і сваё юнае жыццё, такое старое ў велічы страха.

У яранзе Рэнт і старая маці хвалілі ўдачу сына, гладзілі і лашчылі пушыстую здабычу і праслаўлялі сілу вялікага Экара, які паслаў звера ў капканы.

— Паркок,—сказаў тады бацька.—Занясі шаману пясца.

— Уйна!—груба адсек сын. Ён сядзеў у змроку полага халодны, без усякага запалу, слухаючы і чакаючы бяды—пакарання за найвялікшы грэх.

Але бяда зноў не прышла. Паркок чакаў дзень—тры—дзесяць. Невядома чаму шаман маўчаў. Беглі ўсё новыя дні—і Паркок зразумеў: шаман не мае сілы, шаман баіцца і таму маўчыць.

Пясец ішоў у жалезы і пасткі. Чорны год адыходзіў у небыт, крочыла халодным ззяннем начэй і промыслам зіма. Людзі неслі ў ахвяру духам лепшыя скуры пясцоў.

...Пра бяссілле і страх шамана ведаў адзін Паркок, але адзін— гэта адзін. А адзін не мае сілы. Ён немы перад гранітам законаў продкаў. Тады адзін рашыў ісці да многіх: за парадай і дапамогай у барацьбе.

3

Вялікая драўляная яранга Мечыглінскага нацсовета была засмужана табачным дымам. Людзі блішчэлі тугімі ў святле лампы тварамі, курылі і перакідваліся кароткімі словамі. Твары людзей былі рознымі, але аднолькава абыякавымі.

Каля стала палымнела рыжая галава комсамольца Баўма. Ён пісаў, нахіліўшыся над паперай, і сударгава вадзіў алоўкам, папяросным дымам адгараджваючыся ад рокату гамонкі. Часамі, спыняючы работу, ён пытаўся, гледзячы ў непраніклую глыбіню чужых вачэй. І атрымліваў адказ: кароткі, як стрэл, і як стрэл, паўнаважны.

У яранзе 14 маладых. Комсамольцы, ячэйка.

— Ну, рашайце, таварышы, што рабіць з шаманам? Выселіць з вострава?—бровы Баўма рыжымі чарвякамі ўспаўзлі на лоб.

— К-ко,—адказваюць.—Не можна.

— Э?—Баўм чакае адказа.

— Карэм!—устаючы, адказаў адзін.—Не можна высяляць. Ведаеш, што будзе? Бяда. Людзі скажуць—совецкая улада супроць чукчаў, вораг чукчаў, калі чапае шамана. Не так трэба...

— А як-жа інакш? Скажы, э?—голас Баўма рэзкі і быстры.

— Я ведаю—не можна высяляць. А трэба так: ён-жа ўладае цэлым востравам...

Сход маўчыць, думаючы над невырашымым пытаннем.

— Я думаю так. - Баўм адыходзіць на крок ад стала.—Трэба, каб чукчы самі папрасілі нас выселіць шамана. Вось як. Я яшчэ мала ведаю Чукотку, бо новы тут, але думаю, што я правільна кажу. Э? Як думаеш ты, Камэт? Скажы?

Устала дзяўчына. Стройная і хударлявая, з правільнымі рысамі метыскі. Тры гады вучобы на маскоўскім рабфаку зрабілі з яе перадавога байца культуры ў любімай краіне.

— Ты праўду кажаш, Баўм,—яна задорна ўстрасянула россыпам гарачых валасоў.—Вось, сабраць-бы больш фактаў пра шамана, дзе пясцоў забраў, а камлаў без удачы, дзе проста пясцоў украў з капкана, дзе хворага не вылечыў. Расказаць, растлумачыць бацькам: калі паверацъ, самі будуць патрабаваць выгнаць Экара.

— А ці-ж здолеем?—маршчыны задорнай усмешкі рассыпаліся па твару рыжагаловага.

— А то-ж не?—Камэт усміхнулася гулліва, зганяючы з твару чужую для яе маску абыякавасці.—Мы-ж комсамольцы?!

— Ну...

— Ты не нукай. Кажы-так ці не?

— Ну, так.

— Мы можам працаваць?

— Так, можам.

— Нам вераць бацькі?

— Ну, вераць, так, так. Не цягні!

— Мы ведаем бацькоў? Ведаем. А калі ведаем—значыць і здолеем. Асцярожна, памаленьку, але здолеем!

— А бадай што ты, дзяўчына, і права!—Баўм хлопнуў яе па плячы. Але...

— Якое зноў „але"?

— Але часу мала ў нас. Бо... ён не скончыў—дзверы лёгка адскочылі ў бок. У пакой ступіў, у клубах пары, калматы ад марознай шэрані, чалавек.

Увайшоў і стаў.

— Хто?—асцярожна запытаўся Баўм.

— Я...

— Ну? Гавары!—у кароткім адказе прышоўшага ён пазнаў голас Паркока і быў здзіўлен... Хлапец заходзіў у совет вельмі рэдка, толькі па важных справах. Ён быў бедны, як гусь у часе вясенняга ліняння, але спрытны і горды ў сваёй беднасці. Спробы ўцягнуць яго ў работу, у комсамол сустракалі ўпорнае адмаўленне. Паркок адгаварваўся вялікай сям'ёй бацькі і мноствам работы.

А тут раптам прыйшоў.

Чаго?

— Гавары, э?—Баўм падышоў да хлапца.

— Здалова,—па-руску прывітаўся той, падаючы руку.—Справа ёсць...

— Гавары, тут усе свае.

Паркок па чарзе абмацаў поглядам кожнага і заспакоена ўздыхнуў.

— Шаман Экар!—выпаліў ён. І пасыпаў словамі: пра шамана, пыпу, голад, пясцоў, зладзейства і бойку з шаманавым сынам. І яшчэ пра сваю барацьбу з духамі—з Белым Жахам—і пра сваю перамогу над імі.

— За шамана ўсе, а—я-адзін. Адзін-жа, заўсёды адзін і ў аднаго мала сілы. Старыя і жанчыны за шамана, што-ж я магу зрабіць. Што?

...Вось так Паркок зрабіўся комсамольцам. Ні бацька, ні матка, ніхто не ведаў гэтага: у совеце, у ячэйцы рашылі маўчаць, каб палегчыць работу. Ненавісць абяздоленых да багатых у Паркока сабралася даволіі, збіраліся факты, запісаныя моцна—на ўсё жыццё!—у маладой памяці.

Дні пераваліліі ў другі год. Зіма працярэблівала дарогу к Поўначы. У ярангах, у пургу людзі гаварылі пра шамана, а маладыя слухалі, паддаквалі, кідаючы ў размову сухія, але гарачыя словы. Збіралі факты і факты няслі Паркоку, хаваючы іх, як рэдкую скуру блакітнага пясца.

... Промысел зноў упаў, людзі зноў няслі шмат ранейшай здабычы шаману. І шаман калмаў. Але капканы заставаліся пустымі. Паркок і сам насіў падарункі ў ярангу на востраў Аракамчачэн, пакорліва сядзеў у змроку, скоса паглядаючы на шаманавага сына, якога ён збіў у зімнюю ноч.

Шаман камлаў—маліў у духаў удачы... Але ўдачы не было і ў сіневе начэй Паркок голасна спяваў пра бяссілле шамана, смяяўся над спрадвечным Белым Жахам, смяяўся над духамі, рагатаў, і месяц, зеленеючы ад страха, палахліва хаваўся ад чалавека ў чорным хаосе хмар.

...І аднойчы здарылася так: сядзелі ўсёй сям'ёй—Рэнт, Паркок, Омкай і чорнавокая дзетвара. Пілі гарбату. Жонка варыла мяса.

— Больш не дам шаману пясцоў,—хмурачыся, сказаў бацька.

— Дык ён-жа духаў няшчасця пашле на нашу ярангу,—гіранічна заўважыў Паркок.

— А чаму дрэнна камлае? Чаму няма промысла? Не дам!

— А вясной галадаць?—нясмела запытаўся Омкай.

Рэнт задумаўся, памаўчаў. Горка ўздыхнуў і сказаў:

— Вясной пойдзем да Экара, хай дае мяса.

— Чаму Экар можа біць маржоў? Чаму гэтага не могуць другія?—рэзка запытаўся Паркок.

— Экар—вялікі шаман, ён можа...

— А маржы святыя?

— Так гаворыць шаман...

— А нам ён дык мяса дае ў пазыку—не святое-ж мяса?

— К-ко—не ведаю...

— А калі мяса не святое, то не святыя-ж і маржы, а?—голас Омкай узмацнеў. І бацька не спыніў дзёрзкага, як некалі, Паркока, баючыся духаў. Ён цяжка і задуменна маўчаў. Тады Паркок загаварыў ціха і ў голасе дрыжэў сум.

— А на востраве шмат маржоў. Хопіць і нам, і эскімосам, і людзям іншых стойбішч.

— Экар не пусціць нас на востраў. Яму добра, ён сыты,—дакончыў за брата Омкай.

— Выселіць-бы злодзея і ашуканца з вострава!—злуючы, крыкнуў Паркок.

Потым усе змоўклі.

Дый што гаварыць, калі сказана праўда, калі і Рэнт, і дзесяткі Рэнтаў думаюць таксама?..

... Экар аглядзеўся позна. У яркім арэоле слава шамана нарадзілася даўно, а з часам вырасла і ўзмацнела самаўпэўненасць, нецярпімасць да перашкод. Схіленне людзей перад ім і страх перад Белым Жахам былі трывалымі, як палярныя ільды і, здавалася, нішто не магло парушыць законаў продкаў.

Але жыццё рашыла інакш.

Людзі Краіны Блакітных Прастораў рабіліся новымі, старыя законы памíралі, растаючы быццам ільды пад праменнямі абноўленага веснавога сонца. А напор маладых быў яшчэ больш упорны, чым сонечныя праменні.

Апамятаўся Экар, калі людзі ўжо адвярнуліся ад свяшчэннай ярангі: не неслі ахвяр духам, не прасілі камлату, не клікалі да хворых. І нават сустракаючыся з шаманам, людзі спяшаліся прайсці міма, схаваўшы вочы ад запытанняў сустрэчнага.

... Адразу за дзвярмі ярангі пад ногі Экару скочыў месяц. Экар пахіснуўся, усёй сілай штурхануў нагой пушысты мякіш і месяц, плачучы пакаціўся ў бок, стаў сабакам. Сабака адбегся, пакрыўджана гаўкнуў і, задраўшы морду, завыў як воўк.

— Тфу!—плюнуў шаман, аблаяўшы сабаку. Па яго скуры забегалі нервовыя мурашкі сполаху, а сабака выў, скардзячыся блакітнаму месяцу, Беламу Маўчанню і цішыні, і выццё яго было тужлівым, сумным: воўчым і сівым, як жыццё. Шаман цыркнуў на сабаку і ён, зноў хрыпла гаўкнуўшы, пабег далей ад чалавека, да другіх сабак. Расплыўчатыя ў блакітнай імгле, яны вішчэлі і качаліся па снезе з вурчэннем і асалодай.

„Сабакі пургу чуюць“, падумаў шаман, паціскаючы плячыма ад марозу, і закрочыў па снегу. Сярод неба вісеў нудны, як сабачае выццё, месяц.

Сунуўшы ногі ў лыжы-снегаступы, Экар пабег цераз праліў. На беразе яго шлях перасеклі сляды лыж і шаман звярнуў у бок. След быў свежы—чалавек прайшоў зусім нядаўна.

„Хто быў?—падумаў Экар. І сам голасна адказаў на сваё запытанне.

— Паляўнічы!

— Што?—побач снег уздыбіўся і зрабіўся чалавекам. У руках паляўнічага іскрыўся пясец.

— Хто ты?—прагна глядзеў шаман.—Паркок?

— Я. Чаго прышоў? Вось ён!—Паркок паказаў шаману пясца. Па яго прышоў? Украсці хацеў? На, вазьмі... злодзей!—голас хлапца гарэў злосцю.

— Не... Не... Навошта?—Экар адхіснуўся.—Не трэба пясца. Так ішоў, у Мечыгмен.

— Не трэба? Не, вазьмі... на! На!—і паляўнічы ўдарыў шамана пясцом па твару.—Мала? Яшчэ дам...

Ухіляючыся ад удараў, шаман павярнуў назад. Плечы драпаў страх. Гэты ашалелы Паркок мог пусціць у спіну маленькую свінцовую смерць.

— І ніхто не будзе ведаць!—падумаў шаман, на бягу азіраючыся. Але Паркок стаяў, шырока расставіўшы ногі, і моўчкі глядзеў услед шаману. Экар пабег яшчэ быстрэй, баючыся яго злавеснай нярухомасці. І раптам у спіну балюча ўдарыў смех, атрутны і грозны. Смех пераможца.

Шаман хацеў вярнуцца, скрышыць ворага, але ногі непаслухмяна імчалі да праліва, і смех гучэў усе больш глуха і глуха, ушчэмлены далечынёй. Па праліву Экар ішоў хістаючыся, праклінаючы і сябе, і сыноў, і жонку, і ноч, і страх перад Паркокам, і людзей ў Мечыгмене, да якіх ён ішоў, каб настрашыць і перамагчы і ад аднаго з якіх ён уцякаў пераможаны.

Вылі, падняўшы к месяцу морду, сабакі, патомкі палярных ваўкоў. І ў іх выцці Экару здаваўся атрутны смех пераможца.

4

Суд пачаўся на досвітку, калі гарызонт яшчэ рэзка падзяляўся на барвяны ўсход і сінявата-чорны захад.

За некалькі дзён да суда чукоцкае „радыё“ разнесла небывалую вестку: паляўнічы перадаваў паляўнічаму, стойбішча — стойбішчу:

— У Чапліне судзяць злодзея і ашуканца Экара!

Вестка расла, шырылася, набухала, імчалася пазёмкай. Пра суд ведалі ўжо і чукчы, і эскімосы, і людзі самых далёкіх стойбішч.

— Ехалі ў Чаплін

— Беглі ў Чаплін—

— Судзіць злодзея!—

З Уэлена і Лаўрэнція, з Мечыгмена і дзесяткаў іншых стойбішч. У дзень суда ў Чапліне сабралася безліч сабачых упражак.

Будынак школы дыміўся парай ад дыхання соцень людзей. Навакол школы тоўпіліся ўсе, хто не паспеў праскочыць у сярэдзіну.

Стол суддзяў быў пакрыт чырвоным сукном. Пыхала лампа, асвятляючы суддзю—комсамольца Баўм, смуглатварую Камэт, суддзяў чукчаў і эскімосаў. Насупроць стала панура сядзелі Экар, Рультэнэ і шаманавы дзеці. Шаман быў спакойным і горды, твар яго дыхаў упэўненасцю і пагардай над натоўпам. Ён ведаў: людзі не адважацца судзіць шамана—над людзьмі моцная ўлада Белага Жаха.

Паседжанне адкрыў Баўм: урачыста, строга, нават забыўшыся пра сваё ўлюбёнае „э“.

Пасля яго гаварыла Камэт, а за ёю, хвалюючыся, пасыпаў словамі Паркок: суха, злосна, фактамі біў ён ў шамнаву гордасць і кожнае слова хлапца было страшным, як смерць.

— Дзеці Экара кралі пясцоў з капканаў і пастак прамыслоўцаў. Экар прымушаў людзей бясплатна працаваць на сябе: яму папраўлялі байдары, нарты, ярангу, рабілі лыжы, пасткі. Ён лячыў хворую Рультэнэцт; казаў—будзе жыва, але яна памерла, а Экар узяў трох пясцоў у яе мужа. Ён абяцаў Рэнтыршну ўдачу ў промысле, узяў пыпэ і двух пясцоў, а ў капкан паляўнічага прышлі толькі пяць пясцоў... Экар абяцаў Ілепелю падаслаць мядзведзя і паляўнічы пайшоў, але мядзведзь яго забіў і дзеці засталіся без бацькі...

Факты сыпаліся, як снег у пургу—часта і калюча білі яны ў шаманаву гордасць. І з кожным новым фактам згінаўся, сціскаўся, старэў шаман і, нарэшце, гордасць яго знікла беззваротна. Твар Экара на вачах людзей пакрываўся сеткай глыбокіх моршчын.

— Мы судзім злодзея і ашуканца,—закончыў абвінаваўчую прамову Паркок.—Няхай самі людзі скажуць, што рабіць з Экарам.

У залі павісла тугая цішыня.

Людзі моўчкі слухалі.

Чакалі.

— Хто хоча гаварыць?—падняўся Баўм.—Хто, э?

Людзі збянтэжана маўчалі.

— Ніхто?—у голасе Баўма неўразуменне.

Маўчанне: цяжкае, ліпкае. На тварах суддзяў замітусілася трывога. Шаман прыўзняў цяжкую галаву, поглядам прабег па бліжэйшых тварах—у вачах яго была пагроза і немы загад:

Маўчаць!..

— Ніхто не хоча гаварыць? Ну!..

— Дай, скажу!—побач з шаманам прыўзняўся сын, таксама Экар.— Я скажу...

— Гавары!—здзіўлена паварушыў брывамі Баўм,—ідзі да стала.

Сын падышоў, абапёрся аб стол. Глянуў на бацьку, на матку, на суддзяў.

— Вось ён біў мяне,—ціха сказаў ён, паказваючы на Паркока.— Злавіў каля свайго капкана і біў. „За што?.. Я краў—ён біў. Так павінен зрабіць кожны. А больш ніхто не біў—толькі Паркок. Чаму? Бацьку баяліся, вось. А я і брат ведалі гэта і кралі здабычу. Бацька гаварыў—духам ідуць пясцы, а сам увесну прадаваў іх у факторыю... Потым людзі прыносілі бацьку ахвяры для духаў—прасілі камлаць. Бацька браў пясцоў, браў пыпэ і нерпавыя скуры, а сам не камлаў. „Навошта камлаць",—гаварыў ён—„няма карысці". Ён лячыў людзей, а калі сам захварэў—баяўся памерці. Ашукваў бацька людзей... У нас на востраве маржы ляжаць, а мы самі мяса прадаем у стойбішчы... Бацька дрэнны чалавек. І я скажу, няма веры майму бацьку, ён злодзей і ашуканец—яго трэба прагнаць з вострава. А мы—дзеці—не хочам з ім жыць і просім дазволіць нам перабрацца ў Мечыгмен, каб там сумленна жыць і працаваць. Мы плюем на сляды злодзея і ашуканца... тфу—і ён плюнуў у бок шамана.—Я скончыў.

Хлапец павольна, у развалку адыйшоў ад стала. Сеў у баку ад бацькі, і дзеці адзін за другім пакінулі шамана.

...Потым гаварылі чукчы і эскімосы, Гаварылі Баўм і Камэт. Усе гаварылі.

— Выселіць шамана з вострава!

Суд скончыўся, калі месяц высока плыў на аксамітным сінім небе і вакол яго затуманіўся на мароз міражны круг святла. Шаман з жонкай ішлі ў ночы, у думках хаваючы сваю прагнасць, ілжывасць, фальшывую веліч, хаваючы Белы Жах.

* * *

Лёд адыходзіў на Поўначы і ночы адыйшлі разам з ільдом. Маржы чорнай, бліскучай лавінай рынуліся на пустынны востраў Аракамчачэн:

— прышлі палка раўці ў белыя ночы,

— цяжка і горача кахаць.

— слухаць вясеннюю цішыню...

І людзі білі маржоў.

Студзень, 1934 г.

**С. ГУСЕЎ**

# ФРАНТАВІК

На агні ціха патрэсквала сухое суччa. Па ўтоптанай з парыжэлымі вярхамі, траве, ля агня валяліся бутэлькі, кавалкі паперы, косткі і акуркі. Тут-жа між хмызнякамі, падагнуўшы ногі і схаваўшы галовы ў каўнеры шынеляў, спалі бандыты. Вакол—лес, балоты...

Абхапіўшы рукамі худыя калені, на скамечаным шынялі, сядзеў былы штабс-капітан, атаман Ляпуноў.

Гледзячы на агонь, ён успамінаў мінулае. Вось у гэтай мясцовасці, недалёка за вялікім лесам, дзе ён зараз з бандытамі, прайшло яго дзяцінства. У вачах паўставаў двухпавярховы каменны дом, утульныя, з вялікімі вокнамі, пакоі... гувернанткі... нянькі...

... Потым гімназія, універсітэт, вайсковая школа.,. а з школы шчогальская форма афіцэра, залатыя пагоны, вайсковыя парады і лоўкія ляпуноўскія зубатычыны, разгулле, рэстараны, кафе... Мінулае, як даўні сон, адкінута назад.

„У Францыі пратрымаліся 72 дні, а тут гэтыя хамы ўжо 3-ці год, дый мацнеюць... Калчака разбілі, Врангеля трэплюць..."

Ляпуноў нервуецца, цямнее ў твары, ад злосці аж калені трасуцца. І тут, галоўнае, яго яшчэ непакоіць чырвонаармейскі атрад. Тры дні таму назад атаман прыняў бой з атрадам, але не выйграў. Толькі страціў людзей, патраціў шмат патронаў, ледзь не згубіў кулямёт. Адступіў далёка ў глуш лесу, а потым з рэшткай банды, зрабіўшы хітры манеўр, перайшоў вось сюды.

Углядаючыся ў абарваных і без таго брудных, каравых сваіх людзей, Ляпуноў злаваўся. „Ды што там за афіцэр?... Гэта не з мужыкоў... Відаць, здраднік які з нашых, перайшоў да гэтых хамаў. Камандуе жменькай людзей, нібы палком. Ну, захаплю—да сценкі. Тады мястэчкі, вёскі ў попелператвару".

А ў гэты час на край узлесся з рэвальверам у руках наблізіўся тоўсты, нізенькі чалавек. Ён крыху пастаяў на ўзлессі, агледзеўся вакол, потым, расхінаючы густы ельнік, пайшоў у забалочаны лес. Пад нагамі незнаёмца чуўся шоргат у балотнай асакі, хлюпанне вады, а часамі і хруст суччa. Пачуўшы гэта зусім блізка, Ляпуноў аж уздрыгнуў, падхапіўся, выхапіў з кабура рэвальвер. Таўхануў спаўшых бліжэй да яго трох бандытаў. З палахлівай спрытнасцю з вінтоўкамі ў руках трое ўсхапіліся.

— Хутчэй! Хтосці ідзе! Затрымайце,—працадзіў праз зубы атаман. Бандыты таропка ляпнулі затворамі і з невялічкай паляны, абкружанай балотным лесам, пайшлі ад агню на шорах.

На ногі ўжо паднята была ўся банда. Яе ланцуг залёг на паляне між хмызняком. За невялікім, густым ельнікам быў наведзен кулямёт зграі. Адышоўшы ад агня ў бок з некалькімі бандытамі, атаман стаяў нерухома, трымаючы са ўзведзеным курком рэвальвер.

— Стой!—пачуўся хрыпаваты голас аднаго з бандытаў, што былі пасланы Ляпуновым наперад.

— Гэта я. З сяла. Да Вовы Аркадзьевіча—піскліява адгукнуўся спужаны голас. Ляпуноў павесялеў і хутка накіраваўся ў ельнік.

Праз нейкі час усе бандыты з невядомым падышлі к вогнішчу. Нізенькі чалавек размахваў рукамі, апавядаў:

— Атрада няма. З мястэчка кудысці выехаў. Узброен ён кулямётам. Чырвонаармейцаў—пятнаццаць. Толькі камандзір, кажуць, нейкі баявы, а то ўсе трусы.

— А патрончыкаў?—хтосці запытаўся з бандытаў.

— Не перабівай. Няхай па парадку—умяшаўся Ляпуноў.

— Пачакай. Ёсць і патрончыкі,—не спыняўся невядомы. Коні-ж ў атрадзе невыезджаныя, сялянскія. У мястэчку вельмі рады прыезду атрада, але, як ён выехаў, зноў палохаюцца. Каб хто хоць стрэліў уначы на вуліцы, панікі ай-ай-ай якой бы было—скончыў чалавек. Потым ён хутка кароткімі рукамі выняў з кішэні шэрага суконнага пінжака некалькі пачак баявых патронаў.

— Вось, Вова Аркадзьевіч, толькі соценьку дасталі. Праз дзень, ну не болей два, айцец Варлам збярэ больш. Ужо два дні, як ён паехаў. На царкву дапамогу просіць. Усё як па масле ідзе...

— Так, гэта добра. А ты, Блохаў, малайчына,—старайся—беручы патроны, ляпнуў па плячы Блохава атаман.

— Цяпер хутчэй даведайся пра месцазнаходжанне атрада і як мага больш дастань патронаў. Потым ужо мы самі зробім, а то, бачыш, у кулямёце адна істужка, дый ў хлопцаў па абойме не хапае,—тлумачыў Ляпуноў Блохаву.

— Не турбуйся. Усё зробім. Нашы не спяць, працуюць—падбадзёрыў Блохаў і, не спяшаючыся развітаўся за руку з Ляпуновым і пайшоў ад вогнішча знаёмай сцежкай.

* * *

Камандзір атрада асобага назначэння па барацьбе з дэзертырствам і бандытызмам Малайцоў пасля першага бою з бандай Ляпунова аб'ехаў з атрадам некалькі вёсак і зноў врнуўся ў мястэчка.

Малайцоў сядзеў на ганку волвыканкома, курыў „сабачую ножку". Маленькімі воблачкамі расплываўся ў паветры шызы махорачны дым. Уздоўж драўлянага плота выканкома стаялі прывязаныя аседланыя коні. Яны маталі галовамі, фыркалі і кованымі капытамі ўтоптвалі сухую зямлю.

Ужо будзе з гадзіну, як камандзірам паслана разведка з трох конных, на чале з узводным Коўзікавым.

„Ці не здарылася чаго з хлопцамі? Што за чорт, паслаў на трыццаць хвілін, а цяпер ужо гадзіна... Скора цямнець пачне",— падумаў Малайцоў і, зацягнуўшыся дымам, пачаў углядацца на шырокі з зялёнымі бярозкамі шлях. Нічога не заўважыўшы, Малайцоў хутка ўстаў, кінуў недакурак і павярнуўся каб увайсці ў памяшканне, і пакуль яшчэ відно, пасланць услед выехаўшым у выведку, коннага Федунова. Але, зірнуўшы ў працілеглы бок, на палявую дорогу, убачыў як да мястэчка, уздымаючы пыл імчыцца коннік. Малайцоў угледзеўся і хутка пазнаў чырвонаармейца Юхвіца, які без шапкі, з вінтоўкаю ў руках з усёй сілы шпорыў свайго каня.

— Чорт вазьмі!—сказаў Малайцоў і, папраўіўшы плечавыя рамні, прытрымліваючы левай рукой казацкую шашку, хутка збег з ганку. Юхвіц асадзіў перад камандзірам разгарачонага каня.

— Таварыш камандзір, на сяло Канцы рушацца пятнаццаць узброеных бандытаў з кулямётам.

— Бандыты з кулямётам?—перапытаў Малайцоў.

— Так, так.

— Праверылі?

— Праверылі, таварыш камандзір. Коўзікаў прасіў, каб праз поўгадзіны быў атрад з кулямётамі—скончыў Юхвіц.

„Так і ёсць, гэта тая банда, што ўцякла з-пад Пералогаўскага лесу"—мільганула ў Малайцова.

Хутка з памяшкання выбягалі з вінтоўкамі чырвонаармейцы.

З двара волвыканкома выехала двухколка з кулямётам, і атрад, закурыўшы пылам местачковую вуліцу, паімчаў галопам.

* * *

Першым да ўзгорка прымчаўся Малайцоў з Юхвіцам. Коўзікаў налічыў бандытаў ужо восемнаццаць чалавек. Ён увесь час сачыў з узгорка, не спускаў з іх воч.

— Банда схавалася ў лагчыне. І цяпер яна бярэ кірунак на соўгас „Курган". Зараз яе атрад выйдзе к пералеску,—тлумачыў Коўзікаў Малайцову, паказваючы рукой у бок пералеска.

У шэрым вячэрнім змроку камандзір убачыў толькі некалькі чалавек бандыцкага ланцуга, які хаваўся ўжо за пералесак.

— Спешыцца!—ціха падаў каманду Малайцоў.

Без сумятні, без шуму, людзі хутка спешыліся. Падрыхтаваліся.

— Бяры сем чалавек і з кулямётам айда ў соўгасны сад. Наводзь, каб не ўпусціць. А я з пяцьма коннымі паімчуся за пералесак. Тром падагнаць за сяло ў лагчыну двухколку і коняй,—спакойна загадваў Малайцоў.

Хутка Коўзікаў з чырвонаармейцамі і кулямётам ланцужком пачалі непрыметна падымацца з лагчыны на ўзгорак да соўгаснага сада. Малайцоў з пяцьма чырвонаармейцамі верхам паімчалі ў абход за пералесак.

Вышэй і вышэй падымаўся месяц. Вакол было ціха. Толькі зрэдку ў баку соўгаса чуўся сабачы брэх...

У густых ліпавых прысадах былога маёнтка Ляпуновых бандыты прыпыніліся.

У пералеску спешыўся з коннікамі і Малайцоў.

Дванаццаць бандытаў на чале з высокім у шынялі накіраваліся ў двор соўгаса, а рэшта засталася з кулямётам.

— Падрыхтавацца!—ціха загадаў Малайцоў сваім коннікам. Коннікі, што былі з Малайцовым, адвязалі шпоры і яшчэ раз аглядзелі зброю. З двара соўгаса пачуўся стрэл. Нехта спачатку ўскрыкнуў, потым заенчыў і сціх. Заляментавалі сабакі. У крайняй хаце зарыпелі дзверы, зазвінела шкло. Пачуліся крыкі...

Малайцоў з коннікамі поўз па канаве між аўсоў на бандыцкі кулямёт. Вопратка прамокла, калені коўзаліся па рознай шаўковай траве.

Захапіць кулямёт было важнейшай задачай. Ціха, як цень, усё бліжэй і бліжэй паўзлі з камандзірам чырвонаармейцы. Кашляні хто з іх—і ўсё прапала.

Пры месячным святле, увайшоўшы ў сад са сваім ланцужком, Коўзікаў бачыў, як бандыты адабралі ў вартаўніка соўгаса вінтоўку і застрэлілі яго. З кватэр соўгаса ўжо ўцякалі дзяўчаты, жанчыны, дзеці, старыя. Паднялася вялікая сумятня, чуліся крыкі, страляніна, сабачы лямант, віск, лаянкі бандытаў.

Коўзікаў залёг з кулямётам у садзе. Ён хутка ў прыймальнік зацягнуў стужку...

Малайцоў наблізіўся зусім да бандыцкага кулямёта. Чырвонаармейцаў у канаве прыкрываў цянёк ад тапавых прысад. У дзесяці кроках коннікі падрыхтаваліся і потым, нібы па камандзе яны, як адзін, кінуліся на зграю з кулямётам. Завязалася барацьба. Залескацеў і кулямёт Козікава... Лоўкім шабельным ударам Малайцоў збіў першы нумар бандыта-кулямётніка. Бандыт схапіўся рукамі за галаву, закрычаў, паваліўся. Юхвіц наскочыў на другога, які нешта ваўтузіўся з каробкамі, поўнымі кулямётных істужак. Бандыт аказаўся дужым. Ён сціснуў Юхвіца за горла, пераваліў яго на плечы і выхапіў было са свайго кабура наган. Але Юхвіц лоўкім хваткам вырваў з рук бандыта рэвольвер і з усяе сілы стукнуў наганам па віску. Бандыт адваліўся, спрабуючы ўстаць, але Юхвіц спусціў курок і дужы бандыт выпрастаўся, потым, сціх. Ля яго грудзей пачынаў чарнець дарожны пясок.

Федуноў і Малыш, схапіўшыся з бандытамі, качаліся па дарозе. Страляючы з нагана па бандыту, які бег у двор соўгаса, коннік Піскуноў пахіснуўся і ўпаў на зямлю. Вырваўшыся з-пад чырвонаармейца Малыша, другі бандыт таксама кінуўся ў двор. Ён на ўсё горла крычаў:

— Чырвоныя, чырвоныя! Кулямёт захапілі!

Коўзікаў то частымі, то адзіночнымі стрэламі з кулямёта разганяў па двары банду, яму дапамагалі то залпы, то асобныя стрэлы чырвонаармейскіх вінтовак. Банда залягала па вуглах будынкаў соўгаса, супраціўлялася. Чацвёра бандытаў параненыя першымі стрэламі Коўзікава, паўзлі к саду. Рэшта перабягала ў процілеглы бок і, адстрэльваючыся, уцякала. Чырвонаармейцы пасылалі ўслед кулі. Крайняя хата, дзе былі зломаны дзверы і пабіты вокны, гарэла.

З дапамогай чырвонаармейцаў рабочыя патушылі пажар,

Банда адбіта... У хату ўнеслі цяжка параненага конніка Піскунова. На двары стаялі два кулямёты. Іх хабаты блішчэлі цёмна-зялёным лакам. Малайцову толькі што забінтавалі параненую шыю. Седзячы за невялічкім сталом, пры газавай вялікай лямпе, ён курыў. Рабочыя запрагалі рэсорную брычку, каб хутчэй накіраваць байца ў больніцу.

Хутка ў хату ўвялі восем чалавек палонных бандытаў, з іх пяць параненых. Па кутках жанчыны зашапталі.

— Гляньце-ка, гляньце! Былога паніча злавілі.

Малайцоў пільна ўглядаўся ў высокага апранутага ў шынель, потым спытаў:

— Здаецца, главар? Так ці што?

Бандыт уздрыгнуў. Яго скуласты, з запалымі шчокамі твар паблянеў.

— Пазнаеш, пане капітане, свайго свінапаса?—працягваў Малайцоў. Ляпуноў заморгаў вачыма, а калі зірнуў на Малайцова, скрыганўў зубамі. Вочы яго, нібы шукаючы нечага, забегалі па вокнах і дзвярах.

Рабочыя гледзячы на Малайцова, хваляваліся. Шмат хто з іх і зараз памятае мінулыя здзекі паніча, былога штабс-капітана Ляпунова.

— Уцячы не прыдзецца. Лепш раскажы, ваша благародзь, як вы здзекваліся над працоўнымі? Колькі рабункаў зрабілі? Кажыце самі, бо інакш усё адно, за вас раскажуць вось гэтыя дурні, што ішлі на цёмную справу, на цёплыя заработкі,—працягваў Малайцоў.

Ляпуноў глядзеў на былога свайго свінапаса і ўспамінаў як не

раз ён „жартаваў“, прымушаючы Малайцова, калі ён быў яшчэ хлопчыкам, за цукерку садзіцца голым задам у крапіву.

— Не хочаце, дык мы вас пытацца не будзем. Уцячы ад мяне вашаму благароддзю ўсёроўна не прыдзецца. Панская натура мне вядома. Вядомы і вашы рабункі. Станьце сюды ў бокі—крыкнуў Малайцоў.

У хаце было ціха. Тыя-ж, што ў сёняшнюю месячную ноч павінны былі быць абрабаваны, згвалтаваны, спалены і забіты, радаваліся перамозе.

— Федуноў і Юхвіц падрыхтуйся! Коўзікаў з пяцьма застаніцеся тут,—распарадзіўся Малайцоў.

Два чырвонаармейцы з вінтоўкамі сталі побач з Ляпуновым. На канцах адточаных штыкоў ад лямпы бліщчэлі маленькія зорачкі.

— Тры разы ты, бандыт, уцякаў з-пад трыбунала, а зараз ужо не ўцячэш. Адвесці яго!—сказаў рашуча Малайцоў.

Малайцоў прыступіў да падрабязнага допыта астатніх бандытаў. Допыт цягнуўся усю ноч да світання.

Арыштаваных—пана Варлаама, Блохава і яшчэ выкрытых чатырох дапамагаўшых бандзе, разам з палоннымі, пяць коннікаў вялі ў павет. Двое паімчаліся арыштоўваць былога жандара Казюлькіна.

Б. КАВАЛЕНКА

# НА ШЛЯХАХ ТВОРЧАЙ ПЕРАБУДОВЫ *)

Паварот да актуальнай праблематыкі социялістычнай рэчаіснасці з'яўляецца характэрным і для ўкраінскай совецкай прозы навейшага перыяда.

Украінскія совецкія пісьменнікі пішуць аб Днепрабудзе („Новыя берагі" Г. Коцюбы, „Турбіны" В. Кузьміча), аб Донбасе („Інтэграл" Івана Лэ), аб будаўніцтве соцыялістычнага горада (Ал. Копылэнко).

Некаторыя пісьменнікі не звязваюць дзеяння сваіх раманаў з пэўным геаграфічным пунктам, але выкарыстоўваюць матэрыял, сабраны на канкрэтных заводах (І. Кірылэнка „Перашыхтоўка", А. Шыян, „Магістраль").

Соцыялістычная індустрыялізацыя настолькі захапіла украінскіх празаікаў, што на некаторы час на другое месца адступіла тэма калектывізацыі і класавай барацьбы на вёсцы, дарэчы, вельмі папулярная ў украінскай літаратуры. Да апошняга часу калгасная тэматыка была прадстаўлена амаль адзіным буйным творам-раманам І. Кірылэнка „Аванпосты" і толькі ў 1934 г. з'явіліся кнігі Г. Коцюбы („Ураджайнасць" і К. Гардзіенка („Зерні").

Совецкая украінская проза навейшага перыяда не абмяжоўваецца толькі тэматыкай соцыялістычнага будаўніцтва, хоць гэта тэматыка мае велізарнае значэнне для творчай перабудовы пісьменнікаў.

А. Голоўко працуе над стварэннем разгорнутай соцыяльнай эпапеі, якая павінна паказаць гісторыю рэволюцыі на Украіне, пачынаючы з 1905 года (раман „Маці"). П. Панч піша аб грамадзянскай вайне ў Данбасе, развенчваючы анархіствуючыя элементы і проціпастаўляючы ім тыпы пролетарскіх рэволюцыянераў („Права на смерць"), І. Мікітэнка паказвае працоўную комуну з былых беспрытульных. („Раніца").

Шырокі „размах" творчых планаў украінскіх празаікаў прыводзіць некаторых з іх да залішняй паспешнасці, да пагоні за колькаснымі паказальнікамі за кошт якасці.

Любімым жанрам рада празаікаў стаў многатомны раман, які ахапляе велізарны перыяд часу. Апошняя частка рамана В. Кузьміча „Турбіны" павінна быць прысвечана па плану аўтара падзеям 2424 года (праз пяцьсот год пасля смерці Леніна).

Некаторыя тоўстыя раманы былі напісаны ў 2-3 месяцы, што зразумела, не магла не адбіцца на іх якасці. Цікавы і соцыяльнакаштоўны матэрыял афармляўся неахайна і ўяўляў з сябе дрэнна апрацаваную сыравіну, а пісьменнікі давалі прадукцыю ніжэй сваіх творчых магчымасцей.

*) Канец. Пачатак гл. № у 10 „Полымя рэволюцыі".

Зараз-жа за першымі кнігамі анансіраваных многатомных раманаў далёка не заўсёды з'яўляліся другія, часцей-жа за ўсё аўтар браўся за новую тэму і калі вяртаўся да старой, дык праз некалькі гадоў, калі ён на многа вырас у сэнсе свайго ідэйна-мастацкага ўзроўня, які быў для яго характэрным, калі ён пачынаў свой раман пісаць.

У такіх выпадках ад першай часткі рамана, з усімі сваімі слабымі бакамі у значнай ступені залежала развіццё сітуацыі і характараў другой часткі, і ў рэзультаце аўтар ведаючы недахопы свайго твора, усё-ж „па інерцыі" іх працягваў, імкнучыся як-небудзь звесці канцы з канцамі. Іменна такі лёс выпаў на долю „Раман Міжгор'я" Івана Лэ.

„Першая кніга „Рамана Міжгор'я" (напісаная ў 1928 г.—Б. К.) звязвае мяне стылістычна настолькі, што я не маю магчымасці у другой кнізе (выйшла ў 1934 г.— Б. К.) гэтага рамана вырвацца з таго прымітывізма, які з'яўляецца характэрным для першай кніжкі.

Агульныя недахопы першай кніжкі даўлеюць і над другой. Але я імкнуўся ўсімі сіламі максімальна палепшыць другую кнігу, а з ёй і першую" (Іван Лэ: „Аб вытворчых памылках", Украінская „Літ. газета" за май 1934 г.).

Барацьба за якасць з'яўляецца першачарговаю задачай совецкай літаратуры і ўмовай яе сапраўднай творчай перабудовы.

Трэба пакончыць з практыкай выпуска „скараспелай прадукцыі" (некаторыя аўтары ухітрыліся ледзь не кожныя поўгода выпускаць па вялікаму раману, прычым адзін на індустрыяльную тэму, а другі— на калгасную), бо толькі на аснове паглыбленай работы над матэрыялам можна дабіцца перамагання схематызма, характэрнага для навейшай украінскай прозы.

Схематызм у паказе рэволюцыйнай рэчаіснасці не толькі зніжае мастацкую якасць прозы, але і затушоўвае індывідуальныя творчыя магчымасці пісьменнікаў, параджае своеасаблівую абязлічку, пры якой адзін вытворчы раман вельмі нагадвае другі і абодвы яны не робяцца ад гэтага цікавейшымі.

Калі падыходзіць да сучаснай украінскай совецкай прозы з пункту погляда яе мастацкага ўзроўня, дык безумоўна на адно з першых месц трэба паставіць раман А. Голоўко „Маці".

Раман „Маці" Голоўко насісаў пасля даволі доўгага маўчання, якое вымераецца прыблізна 7-8 гадамі. Як відаць, гэты перыяд не быў для А. Голоўко нейкім крызісным становішчам, а быў выкарыстаны ім для накаплення новых творчых сіл. „Маці" А. Голоўко— гэта далейшае развіццё жанра социяльнай аповесці, над якім А. Голоўко працаваў і раней („Бур'ян" і інш.)

Раман прысвечан рэволюцыі 1905 г. і гадам рэакцыі.

Рэволюцыю 1905 года да Голоўко паказаў ва ўкраінскай літаратуры буйны радыкальны пісьменнік Коцюбінскі ў аповесці „Фата Моргана", якая таксама прысвечана рэволюцыйнаму сялянскаму паўстанню.

Аповесць Коцюбінскага па сутнасці бесперспектыўная, хоць аўтар і спачувае паўстаўшаму сялянству. Коцюбінскі выяўляе рэволюцыйную ненавісць сялян да памешчыкаў, дае яркія зарысоўкі паўстання, але паражэнне рэволюцыі паводле Кацюбінскага фатальна загадзе вызначана немінуча. Ён ставіць кропку на разгроме рэволюцыі. Недзе ідуць казакі, заўтра яны будуць у вёсцы. Кулакі распраўляюцца з мясцовымі рэволюцыянерамі. На гэтым аповесць канчаецца.

У А. Голоўко другі падыход да тэмы 1905 г. у вёсцы. Ён разглядае рэволюцыю 1905 г., як пралог, і не баіцца паказаць з усімі рэ-

волюцыйнымі дэталямі расправу над паўстаўшым сялянствам. Але разам з тым А. Голоўко умее даць адчуць перспектывы будучай рэволюцыі. Мы бачым за яе часовым паражэннем рост новых сіл, якія ізноў кансалідуюцца і падрыхтоўваюць далейшае развіцце рэволюцыйнай барацьбы.

Гэта вельмі характэрнае адрозненне Галоўко ад Кацюбінскага трэба адзначыць, як асаблівасць творчасці новага соцыялістычнага тыпу.

У Кацюбінскага слаба паказан пролетарыят. У яго фігуруюць батракі, паасобныя рабочыя, але яны не з'яўляюцца асновай аповесці. У Голоўко мы заўважаем прыметную акцэнтоўку на ролі пролетарыята і ў рэволюцыі.

Нарэшце, Голоўко бярэ цікавую, маючую вялікае значэнне ў прыватнасці для Украіны, праблему фармавання буржуазнага нацыяналізма ў той перыяд, калі ўтварыліся і развіваліся партыі ўкраінскіх эсэраў і эсдэкаў, калі „Выспявалі“ іх лідэры тыпа Віннічэнко і Пятлюры. А. Голоўко у сваім рамане паказвае такога прадстаўніка ўкраінскага буржуазнага нацыяналізма ў вобразе мастака Савы Дорошэнко. Тут ёсць магчымасць дадаткова выкрыць нацыяналістычнае разуменне мастацтва.

У рамане А. Голоўко паказаны нацыяналістычныя інтэлігенцкія гнёзды, якія выхоўвалі дзеячоў украінскай эсэраўшчыны, соцыял-дэмакратыі, што абаранялі ад чырвонай гвардыі ў 1918 годзе подступы да Кіева.

Зарысоўкі класавай барацьбы, класавыя тыпы вытрыманы ў А. Голоўко ў рэалістычным плане, у плане спецыяльнай сатыры супроць нацыяналізма, і становяць сабою далейшае развіццё рэалістычных установак і тэндэнцый творчасці Голоўко.

Аднак, у рамане „Маці“, асабліва ў першай яго частцы, адчуваецца налёт нацыяналістычнай сімволікі, эстэтцтва, уплыва вобразнасці дробнабуржуазнай літаратуры. Гэтыя элементы па сваёй прыродзе з'яўляюцца чужымі для творчасці Голоўко. Яны гучаць дысанансам у рамане „Маці“, парушаюць яго стылевую цэльнасць, зніжаюць арыгінальнасць рамана, аднаўляюць агульна-вядомыя схемы і стылістычныя асаблівасці дробна-буржуазнага рамантызма. Возьмем такі асноўны момант, як сюжэт рамана.

Цэнтральны вобраз рамана—вобраз маці і яе трох сыноў, якія апынуліся ў розных класавых лагерах: Арцём зрабіўся рабочым, Астап—селянінам, прывязаным да сваёй гаспадаркі, да прыватнай уласнасці, Юрка трапіў у нацыяналістычнае абкружэнне і, выходзячы з яго настрояў, ён мае ўсё даныя, каб аформіцца ў якасці буржуазнага нацыяналіста.

Аўтар так фармулюе ідэалагічную дыферэнцыяцыю ў сям'і маці, канфлікт светапогляда яе трох сыноў: „Юрка пра сваю „неньку Украіну“, пра нацыянальнае вызваленне, пра кіруючую ролю інтэлігенцыі ў гэтай вызваленчай барацьбе. Арцём—пра рэволюцыю. Такую, як у пятым годзе, толькі яшчэ большую, пра рабочы клас. Астап—„проста пра зямлю“. Вобраз маці і сыноў, якія сталі ворагамі ў працэсе развіцця класавай барацьбы, далёка не новы ў украінскай літаратуры. Ён цесна звязан з нацыяналістычнай сімволікай (маці—Украіна, яе сыны, якія змагаюцца—дзеці адзінага народа).

Не гаворачы ўжо аб спецыфічным характары гэтага вобраза, які атрымаў даволі поўнае значэнне нацыяналістычнага сімвала, ён не ўкладаецца ў рамкі рэалістычнага рамана, супярэчыць соцыяльнай тыповасці паказа класавай дыферэнцыяцыі ў асяроддзі ўкраінскага сялянства.

А. Голоўко не толькі спрабуе выкарыстаць гэтую ідэалагічна-памылковую сюжэтную схему, але і падпадае пад уплыў нацыяналістычнай сімволікі і рамантыкі ў трактоўцы сваіх персанажаў, у асабліваоці вобраза маці.

„Выпрастала спіну і выраўнялася ў высокім жыце маладая і поўнагрудая. Рукавом махнула па ўспацелым ілбе, серп у руцэ бліснуў на сонцы яркім бляскам і згас у каласках.

А другой далонню закрыла вочы ад сонца і стаяла так нерухома—вачмі удалеч—маці.

Недалёка ад самых сівых курганоў, уздоўж Вялікага шляху—там на небасхіле—плылі жоўтыя хвалі з ціхім шумам і біліся аб яе грудзі і пырскалі коласам у твар, сэрца аблівалі палынным духам.

Гэта—з курганоў, з Вялікага шляху такі пах моцнага палыну. Сівыя даўно густа зараслі чабаром і палыном. І як толькі павее вецер з поўдня ад курганоў, пах палыну заўсёды сцелецца па стэпу, а ў сэрцы плача сум".

Так, на высокай лірычнай ноце, шырока і размашыста пачынае сваё апавяданне А. Голоўко, дэманструючы высокую культуру шматграннага, узбагачанага складанымі мастацкімі асацыяцыямі вобраза. Разам з тым рамантыка А. Голоўко безумоўна звязана з нацыяналістычнай эстэтыкай і не выпадкова, працягваючы апавяданне ўжо ад імя мастака-нацыяналіста Савы Дарашэнка, аўтар нібы зліваее ўспрыняцце вобраза маці і украінскага пейзажа мастаком са сваім уласным.

Гэты-ж вобраз украінскай жанчыны на фоне стaрадаўняга украінскага стэпу Дарашэнко лёгка выкарыстаў, як сюжэт для сваёй нацыяналістычнай карціны. „Яна нібы такая-ж, у стэпу, далёка-далёка сівыя курганы, а яна ідзе, наперад працягнула рукі і... сляпая".

Такой вышла Катра ў паказе Дорошэнко. Слепата нададзена ёй у якасці сімвалічнага абагульнення. „Гэта не ты, Катра! Гэта будзе такая карціна, пад назвай „Украіна".

Аўтар правільна зрабіў-бы, калі-б у парадку ўсебаковага выкрыцця буржуазнага нацыяналізма, разгарнуў комплекс нацыяналістычнай рамантыкі для таго, каб раскрыць класавую аснову гэтай рамантыкі, якая з'яўляецца сродкам прыкрыцця эксплаататарскай сутнасці буржуазнага ладу, зброяй абдурвання працоўных мас, лозунгамі агульнанацыянальнай еднасці з эксплаататарамі.

Некаторыя намёкі гавораць аб магчымасці развіцця рамана ў гэтым напрамку.

З непрыкрытай ненавісцю адносіцца да панскай культуры муж Катры, каваль Юхім, упарты хоць і стыхійны пратэстант супроць капіталістычнага ладу.

У другой палавіне рамана А. Голоўко яскрава паказвае, як нацыяналістычнае мастацтва (казацкая рамантыка ў жывапісі, у песні), апутвае сына Катры Юрку, як ён, акамянелы ад захаплення, з гарачымі вачыма слухае казацкую мелодыю, выкананую на піяніна сантыментальнай паненкай з „нацыянальна-свядомай" сям'і графскага кіраўнічага.

Сама маці пачынае адчуваць варожую працоўнаму сялянству сутнасць той абстаноўкі, куды трапіў яе сын.

Пры ўсіх рэалістычных папраўках, якія ўносіць Голоўко ў вобраз маці, дух нацыяналістычнай сімволікі застаецца да апошніх старонак.

А. Голоўко правільна ўзяў курс на выкарыстанне багацця народнай мовы і вобразнасці, дасягнуў ў гэтым напрамку, як відаць з прыведзеных прыкладаў, высокай дасканаласці, але ён не змог вылучыць з гэтага багацця народнага фольклора дэмакратычныя і рэвалюцый-

ныя элементы, не змог проціпаставіць іх эстэтыцы буржуазнага нацыяналізма, якая таксама выкарыстоўвае пэўную частку фольклора ў інтарэсах прапаганды сваіх ідэй.

У гэтым вялікая прынцыповая і творчая памылка А. Голоўко, якая зніжае і мастацкі ўзровень рамана.

Характэрнай рысай вобразнасці А. Голоўко, апрача яе лірычнага размаха, з'яўляецца мастацкая прастата і яркасць рысунка.

У гэтых адносінах паасобныя эпізоды рамана, асабліва пейзажы, па сваёй выяўленчай сіле вельмі нагадваюць лепшыя кадры А. Довжэнко, які блізка падыходзіць да Голоўко па характару сваёй творчасці. „Захвалявалася вуліца. А са стэпу маўклівага ціха, спачатку цяжка улавіць вухам, як уздых, пачулася дзявочая песня і пакрысе ўзмацнялася. І раптам на ўзгорак вырваўся цэлы натоўп дзяўчат і песня ўжо на ўсе грудзі—палілася, як вадаспад, у лагчыну, паплыла, зазвінела ў лагчыне паміж дрэвамі".

С. Довжэнка набліжае да А. Голоўко не толькі спалучэнне экспрэсіі пейзажа з лёгкім рамантычным сумам, паказ адзінства прыроды з часткай гэтай-жа рамантызаванай стыхіі чалавекам, але такія рысы, як біялагізм, натуралізм, які з'яўляецца і ў Довжэнка і ў Голоўка абавязковым дапаўненнем рамантызма.

Налёт натуралізма, як і лірычная ідэалізацыя—два бакі адной і той-жа манеры—нацыянал-рамантычнай стылізацыі матэрыяла, які з'яўляецца характэрнай для Довжэнко і для Голоўко.

У А. Голоўко гэтая стылізацыя звязана з лёгкім налётам модэрнізаванага народніцтва, якое праяўляецца ў сантыментальным спачуванні пакутам сялянства і ў асаблівасці, у паэтызацыі старой патрыархальнай вёскі, яе людзей і побыту.

А. Голоўко, праўда, падае рад яркіх вобразаў раскрыцця прыватнаўласніцкай прыроды патрыархальнай вёскі.

Невыпадкова ўслед за паэзіяй сваёй хаты, свайго поля, свайго дабрабыта пададзен цудоўны вобраз маладога яшчэ Астапа, які гаспадарліва вымярае баразну—„ці не пераараў хто"?

Па старонках рамана раскідана не мала эпізодаў, дзе выяўлена спецыяльнае значэнне „кахання да зямлі", як прадпасылкі рэволюцыянізавання шырокіх мас сялянства, як стымула барацьбы супроць памешчыкаў.

Праўда, частка сялян спрабавала атрымаць зямлю шляхам рэформы зверху, іншыя заклікалі да хутчэйшага дзеяння, але і тыя, і другія („згоднік" Муха Іван, бунтар Пракоп Невкіпілы) абрысаваны ў рамане „Маці" сакавітымі рэалістычнымі мазкамі і без сантыментальна-рамантычнай стылізацыі.

„Браты!—расстаўляў ён свае вялікія рукі і камічна размахваў імі ў сябе над галавой—зямля нашай будзе! Нікуды не дзенецца—наша.

Сялянам быў не па душы крык Мухі. Заўсёды, бывала, нават і ўначы, разыходзячыся па хатах, хто-небудзь і крыкне знарок: „Дык як, значыць, Муха?"—А Мусе гэтага і трэба. Згубіў ужо голас за дзень, а саваё давядзе: цёмнай ноччу ўжо і не відаць яго, а толькі голас,—як чайка прагна ўскрыкне. Так і па хатах разыходзіліся з апошнім гукам голаса Мухі ў вушах (а ўжо нібы і не Мухі—таямнічым і прарочым). Так і засыналі з ім у галаве. І таму бачылі ўначы мутныя сны."

„Кузня была напоўнена людзьмі. Як убачылі на парозе Невкіпілага—счарнелага, худога, з тоўстым кастылём у руцэ, так усе і змоўклі адразу, цікавымі поглядамі ахапіўшы яго вялікую ўскалмачаную фігуру. Невкіпілы як-бы знарок перачакаў момант, пакуль яго раз-

гледзелі, а пасля цяжкімі крокамі сышоў з парога ў кузню, і вітаўся глухім, прастуджаным голасам. Стаў пасярод кузні, абапёрся на свой кастыль. Абступілі яго мужчыны. Каваль нават кінуў сваю работу. Падышоў, пацінуў моцна Пракопу руку і пачаў распытваць, куды хадзіў і што выхадзіў. Невкіпілы пачаў расказваць цяжка, як карчы выварочваючы, нязграбныя словы напалову з лаянкай. Хадзіў вось уласнымі вачыма паглядзець, што яно і да чаго яно. За гэтыя некалькі дзён можа сотні вёрст прахадзіў па вёсках. Эх, чорт іх мацеры, народ! Сядзяць, як блохі ў складках, толькі зады тырчаць. Адзін на аднаго паглядаюць, цісунцца, чакаюць, каб хто-небудзь благаславіў.

— Пачынаць трэба!—як кол у зямлю ўбіў Пракоп. І замаўчаў, цяжкім поглядам акідваючы каваля".

Так сцісла і выразна ў двух вобразах сялянскіх правадыроў выявіў А. Голоўко дзве тактыкі сялянскага руху 1905 года—тактыку палахлівага чакання, якое пры першай-жа няўдачы пératвараецца ў паніку, у капітуляцыю перад ворагам, у здрадніцтва ў адносінах да працягваючых барацьбу таварышоў і тактыку стыхійнага неарганізаванага, але не ведаючага компраміса рэволюцыйнага паўстання. Простае параўнанне вобразаў Івана Мухі і Невкіпілага з характарыстыкамі маці, якія падаваліся вышэй, гаворыць аб тым, што А. Голоўко адкідае ў бок нацыянал-рамантычную стылізацыю і піша чоткім, рэалістычным прыёмам, калі яму трэба перадаць вастрату класавых канфліктаў і сутычак.

У рамане не мала яркіх рэалістычных сцэн, якія паказваюць дыферэнцыяцыю сялянства, падрыхтоўку і нарастанне паўстання, карціны крывавага „усмирения" (прыводзіць іх няма сэнсу, бо трэба было-б прыводзіць вялікія ўрыўкі з рамана). І ўсё-ж нацыянал-рамантычная тэндэнцыя захоўваецца ў А. Голоўко да канца рамана. А. Голоўко не можа вызваліцца ад уплыва нацыяналістычнай мастацкасці, хоць яна і паслабляе соцыяльную сілу твора.

Дынамічны па форме, статычны па сутнасці лірызм затрымлівае развіццё сюжэтных падзей, зніжае напружанасць класавай барацьбы; налёт сантыментальнага народніцтва гучыць непатрэбным дысанансам ў паказе настрояў сялянства пасля падаўлення паўстання, перашкаджае ў поўнай ступені выявіць тое новае ў паказе 1905 года (гатоўнасць працягваць барацьбу і пасля часовага паражэння рэволюцыі), што асабліва ў рамане зніжае паўнату выкрыцця буржуазнага нацыяналізма ў перыяд рэакцыі, хвалі рэнегатства, шкурніцтва, прастытуіраванай вінічэнкаўшчыны, якая прыкрывалася „філасофіяй" „сумленнасці з сабой".

Асабліва выразна нацыянал-рамантычная тэндэнцыя рамана „Маці" звязвае А. Голоўко ў тых выпадках, калі ён спрабуе выявіць твар рабочага класа.

Фігуры характэрных прадстаўнікоў рабочага класа ў А. Голоўко занадта алегарычныя, дэкларацыйныя, асабліва ў канцы рамана, дзе ён хоча паказаць фармаванне новых кадраў пролетарыята, якія працягваюць рэволюцыйную работу.

А. Голоўко правільна рашыў не абмяжоўвацца простым адлюстраваннем актаў і падзей рэволюцыі 1905 года, але і даць філасофскае абагуленне матэрыяла. Аднак гэта абагуленне ён будуе не на аснове вывядзення з матэрыяла самой рэчаіснасці законаў яе гістарычнага развіцця, а шляхам навязвання штучных схем (маці і сыны) або пры дапамозе алегарычнай сімволікі.

Такі метад мастацкага абагулення помсціць аўтару за сябе, прыво-

дзіць да палавінчатасці стылятвора, да ідэалагічнай невыразнасці ў трактоўцы некаторых тыпаў і да няяснасці далейшай лініі іх развіцця (тып Юркі).

Раман І. Мікітэнка „Раніца", як мы ўжо гаварылі, прысвячон праблеме перавыхавання беспрытульных.

Аб беспрытульніках І. Мікітэнка пісаў яшчэ ў кнізе „Уркаганы", але ў ёй ён абмежаваўся галоўным чынам зарысоўкамі побыту...

У рамане „Раніца" праблема беспрытульнасці і яе ліквідацыі пастаўлена ў шырокім соцыяльным плане.

Аўтар пачынае з часоў грамадзянскай вайны, выяўляючы ўмовы ўзнікнення дзіцячай беспрытульнасці.

Ён рысуе папярэднюю гісторыю комуны, барацьбу чырвоных партызан супроць белагвардзейшчыны і петлюраўскага бандытызма, контрэволюцыйную ролю манастыра, які потым быў перададзен пад працоўную комуну беспрытульных, паказвае працэс арганізацыі комуны і цяжкасці яе работы, сілу старых звычак, якія затрымліваюць перавыхаванне падросткаў, правільныя і няправільныя метады выхаваўчай работы.

На гэтым соцыяльным фоне больш поўна раскрываюцца тыпы беспрытульных і ў асаблівасці цэнтральнага героя рамана—Марка Левады.

Мы даведваемся, што бацька Левады рабочы, рэволюцыянер, быў выдадзен правакатарам і закатаваны дзенікінскай контрразведкай, а яго сям'я, у тым ліку і Марк Левада гэтым самым была кінута на галодную смерць. Пасля няўдалых пошукаў бацькі Марк робіцца беспрытульным і трапляе ў таварыства крымінальных злачынцаў. І. Мікітэнка выяўляе соцыяльную прыроду здрадніцкага света, паказвае метады эксплаатацыі малых праванарушыцеляў „каінамі"—арганізатарамі зладзействаў.

Вельмі каларытнымі з'яўляюцца фігуры бліжэйшых таварышаў Левады.

„Мар'я Іванаўна—быў на дзіва непаваротлівы і гультаяваты хлопец. Здаравяк, з белым, як смятана, чубам, з шырокім тварам і цяжкім задам, гэты гультай меў протад'яканаўскі бас і кволую душу. Ён любіў і сабак, і кацянят, і ўсякіх жывых істот, за выключэннем людзей, якіх ён ненавідзеў. Да іхных густаў і звычак, пагоні за лёгкім і зманлівым шчасцем, зайздрасці і подласці адных, нікчэмных і агідных істот, як і нястомнай вялікай работы другіх—да ўсяго гэтага ён адносіўся з аднолькавай ненавісцю і ўсе проблемы жыцця вырашаў вывучанай і цёмнай, як бяздонне, лаянкай. Грамадства ён падзяліў на штымпа, жлоба і беднага урку, аб якім любіў слухаць есенінскія песні і падцягваць глухім фальшывым басам".

Не абмяжоўваючыся жанравымі зарысоўкамі (як адмоўную рысу трэба адзначыць злоўжыванне „блатной мовай"), І. Мікітэнка паказвае наогул соцыяльную небяспечнасць беспрытульнасці, асабліва ў сувязі зператварэннем падросткаў ў дарослых злачынцаў, яе паразітычную прыроду, ненавісць да працы і арганізаваных форм сужыцця.

Не мала ў рамане „Раніца" і яркіх эпізодаў, узятых ужо з жыцця працоўнай комуны, эпізодаў, дзе паказана барацьба старога і новага ў псіхалогіі маладых праванарушыцеляў.

У адзін момант добрае памяшканне ператвараецца ў кучу смецця (так беспрытульнікі пратэстуюць супроць парадкаў, устаноўленых „лягавымі"), у комуне гуляюць у карты, п'янка, успыхвае панажоўшчына, здараюцца і крымінальныя злачынствы.

Аднак, у выніку ўмелага падыхода да недысцыплінаванай і неарганізаванай масы беспрытульнікаў, удаецца паступова прывіць ім новае разуменне рэчаіснасці.

На паказе канфлікта старога і новага ў свядомасці беспрытульнікаў і пабудаваны лепшыя эпізоды рамана, напрыклад, сцэна сустрэчы комунараў з упаўнаважаным АДПУ Радловым.

— Павітаўшыся з начальнікам комуны, Радлоў і яго спадарожнікі падышлі да комунараў.

— Добры дзень, таварышы комунары—сказаў Радлоў, падносячы руку да брыля.

Хлапцам такія адносіны спадабаліся. Хто-ні-хто з іх усміхнуўся, іншыя саромліва пераглядваліся. Некалькі галасоў адказалі, збіваючыся:

— Добры дзень!

— Наша вам шанаванне!

— З прыездам!

Высокі госць дакрануўся да брыля:

— Вітаю вас з адкрыццём працоўнай комуны.

Тут ужо хлопцы не ведалі, што рабіць. Чэлканаў іх вучыў, як адказваць на прывітанне, але тады яны мала яго слухалі, а зараз самім было неяк дзіўна. Некаторыя адказалі па-свойму.

— Ды нічога.

— Памаленьку.

— Толькі шамоўка неаднолькавая—басам працягнуў Мар'я Іванаўна".

І ўсё-ж, не гледзячы на рад цікавых зарысовак, там, дзе трэба паказаць моманты з жыцця комуны, у прыватнасці выявіць яе актыў, І. Мікітэнка часамі пераходзіць да публіцыстычнай схемы, жаданае прымае за сапраўднае.

Пераход ад вобразнага паказа да маралізатарскіх сентэнцый, ад прынцыпа мастацкай прастаты да меладраматычнасці уласцівы і для першай часткі рамана, дзе паказана барацьба чырвоных партызан з белагвардзейскай „бастыляй боскай мацеры".

Побач з мастацкімі рэалістычнымі зарысоўкамі кулацтва (петлюраўскі бандыт—бацька Ражэнка і іншыя) у рамане сустракаюцца элементы схематызма, ідэалізацыі чырвоных партызан, падкрэсліванне „дэманічных" рысаў белагвардзейшчыны.

— „Апосталы-Мураўёвы? Рылеевы? Дэкабрысты? Народнікі? Дэмакраты? Большэвікі? А імператар Нікалай першы? Александр першы?.. Александр другі.. Александр трэці... Нікалай другі... Пабеданосцаў... Расія? Мы іх будзем вешаць апосталаў большэвізма! Чуеце, атаман? Вешаць на ветраках пад гукі бронзавых кандэлябраў і рэнесанса. А? Чаму вы маўчыце?!"

Гэтая ўзнятая тырада дзенікінскага афіцэра Бугрова, які выратоўваецца уцёкамі ад партызан, робіць даволі штучнае ўражанне.

Элементы меладраматычнага псіхалагізма (містычная абстаноўка манастыра) з і другога боку падкрэсленага натуралізма сведчаць аб тым, што І. Мікітэнка не выпрацаваў яшчэ цэльнага крытэрыя мастацкасці, хоць у адносінах да работы над літаратурнай формай, умення цікава і каларытна апавядаць, ён ідзе наперадзе за многіх іншых украінскіх празаікаў.

У сваіх творах аднаўленчага і пачатку рэканструкцыйнага перыяда П. Панч выявіў сябе як майстар, які працуе над стварэннем соцыяльных характараў.

Знешняя абстаноўка, сюжэтныя падзеі для Панча толькі фон, на якім разгортваецца характарыстыка героя, яго перажыванняў ідэйнай эвалюцыі.

П. Панч звяртае асаблівую ўвагу на праяўленні раздвоенасці і хістанняў ў псіхалогіі герояў з дробнай буржуазіі, або з адсталых элементаў сялянства. З вялікім майстэрствам у яго пададзен вобраз Мухі Макара, які грае аб'ектыўную ролю падкулачніка („Муха Макар“, „Памылка Мухі Макара“), які ў рашучы момант класавай барацьбы выступае супроць калектывізацыі, але потым робіцца ледзь перадавым актывістам-калгаснікам. (У гэтай новай для яго ролі Муха паказан больш слаба). Студэнт Успенскі, кандыдат партыі блытаецца паміж белымі і чырвонымі і выходзячы са шкурніцкіх меркаванняў (баязлівасць рэпрэсій з боку белых) далучаецца да комуністычнага атрада, але пасля таго. як ў адным з баёў белыя разграмілі комунараў і Успенскі разам з рэшткамі атрада трапляе ў палон, ён саромліва просіць у белага палкоўніка вызвалення, выклікаючы агіду ў байцоў.

У рамане „Права на смерць“ П. Панч хацеў даць вобраз старога шахцёра Гардзея Байды і яго сыноў: Кліма і Ілька, паказаць, як кожны з герояў прышоў да пролетарскай рэволюцыі.

Калі Клім Байда, найбольш схематычны персанаж рамана, паказан як закончаны тып кадравага большэвіка, дык яго бацька Гардзей Байда і малодшы брат Ілька праходзяць доўгі шлях хістанняў і блуканняў, цяжкіх памылак, раней чым стаць на рэволюцыйныя пазіцыі.

І калі Гардзей Байда пасля неўдалых пошукаў праўды ў белых усё-ж ператвараецца ў баявога камандзіра атрада партызан-чырвонагвардзейцаў, дык злачынствы перад пролетарыятам яго сына Ілька такія вялікія, што ён можа іх выкупіць толькі смерцю за рэволюцыю (адсюль назва рамана „Права на смерць“). Асноўны ідэалагічны і мастацкі недахоп рамана заключаецца ў тым, што шлях Гардзея Байды з'яўляецца нехарактэрным нават для самых адсталых слаёў пролетарыята, а тым больш для шахцёраў-кадравікоў, да якіх належыць Байда. Пачаць хоць-бы з таго, што Гардзей Байда спачувальна адносіцца да нямецкай акупацыі, спадзяючыся, што немцы установяць цвёрды парадак (трэба да таго-ж улічыць, што родны сын Байды, Клім, ідзе з большэвікамі).

Пад уражаннем здзекаў над рабочым (як быццам для Байды маглі быць нечаканымі такія адносіны да іх іхных гаспадароў) ён далучаецца да большэвікоў, становіцца на чале партызанскага атрада, удзельнічае ў наступленні на немцаў, каб праз кароткі час падпасці пад танную дэмагогію петлюраўцаў і паступіць добраахвотнікам ў петлюраўскую армію (з якой Байда хутка ізноў, і на гэты раз назаўсёды, перашоў да большэвікоў).

Таксама непераканаўчымі і нехарактэрнымі для рабочай моладзі з'яўляюцца прыгоды сына Байды—Ілька. Ілька звязваецца з падазронымі „анархістамі“, пасля ўступае ў атрад бацькі. За дробную пакражу (цукеркі з кааперацыі) яго расстрэльваюць свае-ж партызаны. Застаўшыся выпадкова жывым, Ілька трапляе пад чужым прозвішчам да белых (іначай—заб'юць, як партызана), потым пасля доўгіх хістанняў бяжыць з сакрэтнымі весткамі да чырвоных і каля самай заставы перадавога атрада Чырвонай арміі атрымлівае смяротную рану.

У рамане П. Панча паказаны не толькі хістанні старога і маладога Байды, але і рабочай масы ў цэлым, якія пераходзяць ад вялікага гераізма да панічнага страху і наадварот.

„На начальніка варты *) ва ўпор глядзелі сотні пар вачэй. У іх ужо не было і следу таго страху, які ўчора так агідна выяўляўся, калі яны заўважылі казацкую папаху.“

*) Назва паліцыі гетмана Скарападскага.

Старую схему дробнабуржуазнага героя, раздвоенага паміж рэвалюцыяй і контррэвалюцыяй, П. Панч дапасаваў да зусім не адпавядаючага гэтай схеме матэрыялу. Гэта і пацягнула за сабою ідэйна-мастацкія зрывы рамана.

Узяўшы за мэту паказаць тыпы Данецкіх пролетарыяў (тэма сама па сабе вельмі актуальная), П. Панч не ўлічыў, што якасна новы матэрыял патрабуе і новых мастацкіх прыёмаў. Вось чаму ў адрозненне ад апавядання „Ойча наш“ матывіроўка соцыяльных паводзін і псіхалагічных перажыванняў герояў рамана „Права на смерць“ вельмі не пераканальная, бо ў сапраўднасці не можа быць такіх калізій, якія Панч навязвае сваім персанажам. Недахопы характарыстыкі персанажаў рамана дапаўняюцца схематызмам мовы: „перад ім быў не сын, а каменная сцяна“,“ „ён быў падобен да волата“—такі нескладаны арсенал вобразаў, якім Панч хоча перадаць большэвіцкую сутнасць сваіх персанажаў. Няведанне спецыфікі матэрыяла, аб якім Панч піша, адбілася і на паказе партызанскага руху чырвонагвардзейцаў Донбаса.

У рамане шмат батальных сцэн, апісанняў ваенных аперацый (П. Панч наогул добры баталіст), але слаба выяўлены характэрныя рысы псіхалогіі байцоў—рабочых.

Вопыт рамана „Права на смерць“ яшчэ раз падкрэслівае складанасць праблемы асваення рабочага матэрыяла для пісьменнікаў, якія не былі шчыльна звязаны з рабочым асяроддзем.

З усіх твораў, якія прысвячоны соцыялістычнай перабудове вёскі, найбольшай папулярнасцю карыстаецца раман І. Кірылэнка „Аванпосты“, у якім аўтар перадае вопыт хлебанарыхтовак і барацьбы супроць кулацкага сабатажа. У рамане паказаны асноўныя характэрныя метады партыйнай работы у вёсцы: выкрыццё кулацкіх падпявал, якія заселі ў совецкім апараце, арганізацыя актыва для правядзення хлебанарыхтовак, здольнасць расшыфраваць рознастайныя формы падрыўнай работы кулацтва (незаконныя паломы, спекуляцыя хлебам, узятыя з практыкі метады захоўвання і псавання збожжа).

У асноўным правільна, хоць і неразгорнута, паказаны тыпы кулацтва, заўважаны характэрныя рысы прабуджэння рэволюцыйнай свядомасці ў былога партызана Моторы, які падпаў пад уплыў кулацкіх „кумоў“, але дзякуючы ўмелай тактыцы ўпаўнаважанага па хлебанарыхтоўках Марка Обушнага стаў адданым совецкай уладзе актывістам.

У рамане сустракаюцца трапна заўважаныя псіхалагічныя дэталі, але дае сябе адчуваць і публіцыстычная схема, неахайнасць у характарыстыцы персанажаў, асабліва дадатных, недастатковы ўзровень культуры мастацкага слова. У тых выпадках, калі. І Кірылэнка хоча падаць той ці іншы персанаж чытачу, ён вельмі часта дае голы пералік яго знешніх стандартных адзнак, а мастацкія эпітэты падмяняе сухімі азначэннямі.

„Абодва комунары, высокі сівавусы і малады, ёмкі з русым чубам, глядзелі ў цёмны завулак за вакном“. „Ціхенькі, працавіты большэвік“ (старшыня калгаса Сухач), „хітры і практычны рахункавод“ і г. д. Падкрэсленая публіцыстычнасць, схематызм уласцівы аўтару „Аванпостаў“ не толькі ў тых выпадках, калі ён апісвае знешні выгляд сваіх персанажаў, але і калі паказвае іншыя перажыванні.

І. Кірылэнка імкнецца паказаць сваіх дадатных герояў вытрыманымі на ўсе сто процантаў. Яго героі выказваюцца так асцярожна, дакладна, нібы яны выступаюць пад стэнаграму, якую можна потым супроць іх выкарыстаць.

Нават кахаюць яны не інačaй, як з азіраннем на чарговыя задачы грамадскай работы і з дакладным улікам ,соцыяльных паказальнікаў свайго партнёра.

„А ён-жа, Павал Матора, гарыць каханнем да Варвары, кахае гэту былую батрачку, сірату, а цяпер ударніцу ў калгасе і комсамолку. Ён хацеў, каб у такія ночы, калі на небе няма ніводнай зоркі, а навокал нікога няма, каб у такія ночы Варвара гаварыла толькі аб ім, аб іх каханні, блізкім вяселлі, агульнай барацьбе".

Вяртаючыся з такога сантыментальна паказанага „спаткання" („не, яна мой слаўны, добры таварыш") Павал ледзь не паддаецца спакусе далучыцца да кампаніі парабкоў, каб у песні выліць свае пачуцці, але ў апошні момант ён думае выкарыстаць „вуліцу" у інтарэсах класавай барацьбы.

„Пяшчотна, доўга развіталіся каля варварынскіх варот, і Павал напоўнены бадзёрасцю і буйнай радасцю, накіраваўся туды, дзе заціхалі апошнія акорды песні парабкоў. Яму хацелася пець з усімі, пець на ўсе грудзі, як яшчэ не пеў ніколі. Але калі далучыўся да кампаніі, працвяразіўся і рашыў некаторых са сваіх хлапцоў-ударнікаў прыцягнуць заўтра на актыў".

Так спакойна вырашылася небяспечная для комсамольскай рэпутацыі калізія. Уважлівая рука аўтара выратавала свайго героя ад „грэхападзення". Але калі лірычныя сцэны рамана будуюцца схематычна, дык эпізоды, дзе гэтыя-ж героі выступаюць ў ролі ўдзельнікаў класавай барацьбы паказаны яшчэ больш „строга".

Схематычным з'яўляецца вобраз кіраўніка хлебанарыхтовак, упаўнаважанага ад цэнтра Марка Обушнага.

„У наступленне трэба пераходзіць, таварышы. Дабіць ворага канчаткова. Зараз-жа трэба прасіць дапамогі з раёна, калгасную масу падняць на кулака. Нас жменька, а яны звярэюць з кожным днём. Калі ўжо дайшло да млыноў, чакаць больш—злачынства".

„У такім выпадку я застаюся тут, зразумела, калі райпартком не пярэчыць?—упэўнена сказаў Обушны, а калі будзеш склікаць бюро, паведамляй і мяне. Прыеду".

„Я разумею,—задумліва адказаў Обушны. Ён ужо намячаў план дзеянняў.—Гані кулака ў дзверы, ён лезе ў шчыліну. Гэта правільна. Але я за іх вазьмуся" і г. д.

„Лірычныя" перажыванні герояў, аб якіх мы ужо гаварылі, а таксама шматлікія лірычныя сентэнцыі ад аўтара павінны паводле замысла І. Кірылэнка ажыўляць крыху сухаватую і схематычную мову рамана і яго падзеі.

Гэтую-ж функцыю выконваюць і элементы юмару. Мы ўжо не гаворым пра „каларытныя" анекдоты аб сабаку партызана Моторы Керзоне, які бяжыць у каапераныю па гарэлку для свайго гаспадара.

Юмарыстычнае ўражанне павінны рабіць персанажы са старых камедый (накшталт вартаўніка сельсовета Карнея Іванавіча, схема „прастака", стылізацыя пад народныя прыказкі („Ну і звёў бог пару, Паўла ды Варвару"), „дабротныя" дасціпнасці, калі сын звяртаецца да маці з просьбай падлічыць, колькі вёдзер малака ён у яе „высмактаў" і абяцае кампенсаваць яе, заплаціўшы за малако па цвёрдых цэнах— увесь гэты этнаграфічны асартымент кладзе свой адбітак на стыль апавядання аўтара, нават у тых выпадках, калі І. Кірылэнка паказвае дадатных герояў—перадавых партызанаў.

„Дык ты, брат, вось які—з непяшчотным здзіўленнем сказаў сівавусы:—Вершыкі чытаеш? Можа чаго добрага, і прыдумаў сам?

— Не. Чуў неяк на вечары аднаго паэта. Забылася. А тут, бачыш, снег за вакном, ну і прыгадаў.

— Усё хлопцам ходзіш?—пасля невялікага маўчання апытаў Марка стары.

— Так, баця.

— А час бу ўжо...

— Усё неяк не прыходзіцца, ды і спяшаць няма куды. Паспееш з козамі на торг“.

Ад натуралістычнай мовы герояў рамана недалёка адышоў і сам аўтар (у сувязі з гэтым і „лірызм“ І. Кірылэнка трэба разглядаць, як арганічнае дапаўненне да „мастацкага прымітывізма“ юмарыстычных эпізодаў).

Элементы прымітывізма даюць сябе адчуваць і ў агульнай мастацкай структуры рамана, у яго кампазіцыі, пачынаючы з планавання эпізодаў і падтэкстовак да іх. („дзяржава крыху „перахаўкнула“, „Крупко глядзіць у бок“) і канчаючы метадам увязкі „асабістага“ і „грамадскага“ па традыцыйнай схеме „каханне“ і „абавязак“, пададзены з адпаведнай стылізацыяй.

Барацьба за якасць з'яўляецца неадлучнай для І Кірылэнка ад задачы перамагання элементаў прымітыўнага натуралізма. Гэтая задача з'яўляецца вельмі актуальнай не толькі для І. Кірылэнка, але і для другіх пісьменнікаў, напрыклад для Івана Лэ, які ў рамане „Інтэграл“ (вышаў у 1932 г.) наступным чынам паказвае спецыфіку металургічнай вытворчасці:

„Кукушка, чыркаючы коламі па злучэнню рэек, пацягнула два чаны, залепленыя шлакам як дзяжа ў неахайнай гаспадыні цестам“.

У рамане „Інтэграл“ таксама немала схематызма і літаратуршчыны. Аўтар паставіў сабе за мэту „працягнуць“ „Молох“ Купрына і паказаць герояў „Молоха“ ва ўмовах савецкай рэчаіснасці. Андрэй Ільіч Баброў робіцца ў Івана Лэ сумленным спецыялістам, прэміяваным за работы таемнічага „Інтэграла“, пры якім склад шахты дае максімальны вытворчы эфект. У працэсе вырашэння гэтай навуковай праблемы Баброў даходзіць да разумення, што інтэграл—яны: завод—іх, у процілегласць свайму сябру Андрэя, які робіцца шкоднікам.

Не гаворачы ўжо аб штучнасці і ўмоўнасці пабудовы рамана па прынцыпу развіцця вобразаў другога пісьменніка, да таго-ж зусім чужога Івану Лэ па класавай прыродзе і характару творчасці, Іван Лэ, як і рад другіх празаікаў, якія працуюць над індустрыяльнай тэматыкай (гэта адносіцца і да „Перашыхтоўкі“ І. Кірылэнка) надта злоўжывае тэхніцызмам і схематычнымі характарыстыкамі персанажаў.

„Электразваршчыца Таня Чэрэўкова у комсамоле толькі трэці месяц (інакш яна не магла-б потым падпасці пад уплыў і стаць ахвярай маральна-разлажыўшыхся суб'ектаў—Б. К.) захапілася энергічным няўтомным Даніленкам, спадабалася ёй яго барацьба на заводзе“.

Наогул паказ асабістых перажыванняў, асабліва любоўных Івану Лэ не ўдаецца,—перашкаджае яму „мастацкі прымітыў“ бытаапісацельскай манеры, якая пераходзіць ў некаторых месцах у грубы натуралізм.

„Пашка цяпер агародніцтвам займалася на такіх, як Аферын, і глядзець не хацела, бо-ж на самай жа справе яе муж і мордай і целам быў на многа лепш усякіх інжынераў“.

Не ўдаецца Івану Лэ паказаць новых людзей, савецкіх актывістаў. Пералічэнне адзнак яшчэ не стварае тыпа, старанна складзеная схема (шкодніцтва, апартунізм кіраўніцтва, перадавыя рабочыя) не напаў-

няецца мастацкім зместам. Часам пісьменнік не захапляецца тэхніцызмам, але ў сваім імкненні даць „чалавека“ пакідае ў баку вытворчасць і паслабляе соцыяльную матывіроўку падзей. Гэтыя недахопы знайшлі сабе месца у новым рамане А. Шыяна „Магістраль“. У падыходзе да сваіх герояў (жыхары рабочых ускраін—саматужнікі, бедната, якая ўцягваецца ў вытворчасці) А. Шыян крыху наследуе Горкаму, асабліва яго ранніым апавяданням.

А. Шыян паказвае, як капіталізм калечыў псіхалогію працоўнага і як ва ўмовах совецкага ладу паднявольны раней чалавек пачынае выпроствацца ва ўвесь рост, адчуваць сябе гаспадаром жыцця, як з прыніжанага ў правах саматужніка ён перарастае ў перадавога пролетарыя, у актыўнага будаўніка соцыялізма.

Такая соцыяльная канва рамана „Магістраль“, на якой аўтар вышывае незвычайна тонкія псіхалагічныя ўзоры.

Аднак, персанажы ўзяты ім больш ў пабытовым, чым у шырокім соцыяльным плане. Надта многа ўвагі аўтар аддае індывідуальным перажываанням герояў—матывам кахання, рэўнасці, частымі апісаннямі п'янства, разгула і раскаяння, псіхалагічнаму самакапанню пакрыўджанай асобы (яскравы ўплыў Дастаеўскага). Калі-ж дробнабуржуазныя па сваёй сутнасці персанажы А. Шыяна трапляюць на вытворчасць, яны губляюць сваю мастацкую выразнасць і ўсё больш робяцца падобнымі да схематычных дадатных герояў рамана.

Да вытворчасці А. Шыян падыходзіць ў першую чаргу з пункту погляда яе выхаваўчага ўздзеяння на персанажаў рамана і ў прыватнасці на адсталых рабочых. Калі-б А. Шыяна так старанна і з такой псіхалагічнай глыбінёй ўзяўся за паказ роста рабочага актыва, асноўных кадраў совецкай вытворчасці—дык атрымаўся-б твор вялікага соцыяльнага і мастацкага значэння.

Пісаць А. Шыян можа. Ён упарта працуе над словам, максімальна адточвае і насычае сказ вобразным зместам. Кожная дэталь характарыстыкі персанажа, кожны штрых пейзажа, усё гэта ў яго прадумана і пастаўлена на сваё месца.

„Непрыкаяным буйным парывам налятае вецер на чахлыя кроны амерыканскага ясеня, на высокія і стройныя чорныя таполі, палошча іх дажджом і голыя галіны, хістаючыся ва ўсе бакі, сячэ начное паветра, і па асенняму сцелецца над глухой вуліцай яго парывісты шэлест.

Ад трамвайнай каляіны заварочвае ў завулак ліцейшчык Каралёў. Яго адзежу мочыць дождж і халодзіць моцнае, шырокаплечае цела. Але Сцяпан Міхайлавіч не спяшаецца. На момант спыняецца ён на мосце, глядзіць уніз, як праплывае паміж паляў чорная вада гнілой рэчкі. Пераліваюцца на паверхні водсветы ліхтароў таварнай станцыі, аздабляюць яе халодную непрыгляднасць. Шуміць дождж.“

А. Шыян сапраўды належыць да катэгорыі культурных маладых пісьменнікаў, якія не спадзяюцца на паэтычнае „нутро“, але ўпарта і сумленна працуюць над аўладаннем літаратурнай тэхнікай.

Тым больш неабходна такой моладзі больш блізка падыйсці да рэальнай сапраўднасці, накапіць жыццёвы вопыт, на аснове якога можна будзе стварыць вялікія мастацкія палотны.

Даволі багаты фактычны матэрыял аб Днепрабудзе сабраў у сваім рамане „Турбіны“ В. Кузміч. Па ўласнаму прызнанню аўтара над першым томам рамана, які надрукаваны ў 1932 г., ён працаваў пяць гадоў. Розныя этапы і дэталі будаўніцтва, тыпы інжынераў, замежных кансультантаў, кваліфікаваных рабочых, сезоннікаў, featured рознастайныя формы праяўлення класавай барацьбы, канфлікт старых метадаў

партработы (вясковая ячэйка Кічкаса да пачатку будаўніцтва налічвала 6 партыйцаў) і новых задач, праблема кіраўніцтва пабудовай, якое здольна падначаліць партыйнаму ўплыву кваліфікаваны інжынерна-тэхнічны персанал—вось асноўныя найбольш цікавыя моманты рамана.

Як і ў папярэднім рамане „Крыллі“ В. Кузміч не абмяжоўваецца паказам падзей і людзей, якія маюць непасрэдныя адносіны да будаўніцтва—ён піша спецыяльны раздзел „Украіністы“, дзе паказвае прадстаўнікоў нацыяналістычнай інтэлігенцыі, яе лідэра Ефрэмава, раскрывае сутнасць ідэалогіі нацыяналістаў. Калі В. Кузмічу патрэбна паказаць партрэт кулацкага атамана Царэнка, аб яго бандыцкіх паходах у гады грамадзянскай вайны, калі кулакі арганізоўвалі цэлыя абозы, напакаваныя таварам і ўзброеным парадкам прабіраліся з імі праз фронты.

У такіх-жа адступленнях В. Кузміч дэтальна знаёміць з біяграфіяй партыйцаў, якія працуюць на будаўніцтве, з іх роляй у перыяд грамадзянскай вайны.

Цікавы фактычны матэрыял рамана, вялікі запас назіранняў пададзен, аднак без патрэбнай мастацкай апрацоўкі.

Дзеянне рамана вельмі расцягнута. Той-жа самы матэрыял можна было-б размясціць больш эканомна, не перагружаючы кожны эпізод псіхалагізмам і залішняй апавядальнасцю.

Ал. Копылэнка і Г. Коцюба, як і П. Панч адносяцца да групы совецкіх пісьменнікаў, якія доўгі час былі звязаны з хвылевісцкай літаратурнай групіроўкай і ў сваіх творах адлюстроўвалі ідэалагічныя і творчыя ўстаноўкі нацыяналістычнай літаратуры.

Таму іхнюю прадукцыю апошніх гадоў трэба разглядаць з пункту погляду ліквідацыі мінулых памылак, пераацэнкі тых пазіцый, якія гэтыя пісьменнікі у свой час абаранялі. Калі А. Копылэнка ад ідэалізацыі апазіцыйных у адносінах да рэволюцыі бунтароў і ад нацыяналістычнага скажэння сутнасці совецкай рэчаіснасці (раман „Вызваленне“) пераходзіць да тэмы соцыялістычнага горада, або Г. Кацюба замест адшуквання ў шэранькім абыватэлі „чалавека“ бярэцца за паказ гераічнай эпапеі Днепрабуда, дык такі паварот трэба распэньваць не толькі з пункту погляду творчага роста пісьменнікаў (аб гэтым таксама трэба гаварыць), але і як доказ іх ідэалагічнай перабудовы.

Ал. Копылэнка у рамане „Нараджаецца горад“ у параўнанні з іншымі ўдала вырашыў праблему ўвязкі характарыстыкі герояў з паказам самай вытворчасці. Даволі разгорнута паказана ў яго і класавая барацьба на будаўніцтве. Нікіта, Паўлюк, Таня, Кааб, Рая Душа, Сашка, Неешмак, рабочыя і тэхнічная моладзь, вылучэнцы, старыя рабочыя (эпізадычныя тыпы), проціластаўляюцца кулацкім элементам сезоннікаў, шкоднікам, якія спрабуюць сарваць будаўніцтва соцыялістычнага горада.

Удалым з'яўляецца вобраз маладога спецыяліста Тані Кааб, якая вытрымала дадатковую да агульных цяжкасцей будаўніцтва барацьбу са сваёй уласнай рэакцыйна-настроенай сям'ей.

„Таня прышла сюды, калі закладалі першыя цагліны першых фундаментаў. Прышла храбра і проста, выслухаўшы з'едлівыя кпіны Ўсевалада (брата Тані—Б. К.), істэрычныя папрокі бацькі і ўздыханне маткі. Толькі Галіна (сястра—Б. К.) спакойна прамармытала нешта аб суме. Яна менш за ўсё клапацілася аб лёсе сваіх блізкіх“.

Канфлікт Тані Кааб з сям'ей аўтар выкарыстаў для таго, каб даць характарыстыку буржуазнай інтэлігенцыі, якая варожа настроена

ў адносінах да совецкай улады і будаўніцтва горада (Ўсевалад. брат Тані, працуе таксама ў кіраўніцтве будаўніцтва і далучаецца да шкоднікаў.)

Буржуазная ітэлігенцыя паказана аднак у рамане даволі схематычна і павярхоўна.

Незадаволены прафесар, яго жонка, якая разважае аб рыначных цэнах, сумуючая сястра Тані, якая „займаецца пошукамі незвычайнага чыстага кахання“—вось уласна асноўнае, што запамінаецца з характарыстыкі акружэння Тані. Надта шаржыраваны таксама тып былога прафесара філосафа Вахраха, які ператвараецца ў напаўвар'ята люмпена.

„Вядома, Вахрах забыў развітацца. Ён устаў і пашоў заканчваючы свой апошні сказ, падмацаваны цытатай з Платона.

Вядома, Вахрах, не забыўся на свой кошык—кошык-жа частка яго вобраза, істоты.

Калі ён стукнуў дзвярыма ў калідоры і накіраваўся да выхада, Ольга Вільгельмаўна сказала:

„Ну, цяпер можна чай піць. Як можа Галіна гаварыць з ім. Не разумею. Ад яго так нясе цыбуляй і пацукамі... Я не магу сесці з ім побач за стол... Вось да чаго давялі філосафа...“

Простае параўнанне ўсё-ж кваліфікаванага прадстаўніка буржуазнай ідэалогіі, якім павінен быць прафесар філасофіі, з любым персанажам „Кліма Самгіна“ паказвае, наколькі спрошчана разумее Ал. Копылэнка задачу выкрыцця светапогляда класава-варожай пролетарыяту інтэлігенцыі. Але нават гэтыя па сутнасці дробна-обывацельскія элементы буржуазнай інтэлігенцыі, паказаныя А. Копылэнка, здаюцца яму надта „складанымі“ і таму асноўная задача Тані Кааб, якая пераходзіць на бок пролетарыята, па думцы аўтара заключаецца ў тым, каб максімальна „апросціцца“ і гэтым самым стаць падобнай на прадстаўнікоў рабочай моладзі.

Гэта „спрашчэнне“, якое пераходзіць у спрашчэнства тыпа, перш за ўсё ідзе па лініі дробна-буржуазнай „ахвярнасці“, свядомага абмежавання сваёй асобы, нівеляцыі яе з нейкім зборным сімвалам, абязлічаным Іванам, які прозвішча не мае („Так і скажыце ад імя рабочага Івана, а прозвішча не патрэбна“).

„Новыя рысы“ псіхалогіі Тані Кааб, якія адрозніваюць яе ад буржуазнага асяроддзя, праяўляюцца перш за ўсё ў форме інтэлігенцкага нігілізма, як у адносінах да асабістага шчасця, так і ў адносінах да „старых“, маральных форм:

„...Я не настолькі дурная, каб займацца сваім сямейным шчасцем. Асабліва ў форме „замужэства“, якая ў нас яшчэ, на жаль, існуе...“—заяўляе аб сабе Таня.

Гэты спознены „бунт“ супроць „буржуазнай“ маралі выражаецца у Тані Кааб і ў такіх наіўных формах, як падкрэсленая грубасць мовы.

Калі трэба, Таня можа асыпаць „класавага ворага“ такой адборнай лаянкай, што нават кулак Рэшотнік, які таксама за словам у кішэнь не палезе, застывае ў акамянеласці і не можа „адарваць вачэй ад чыстага рота Тані... няўжо яе словы?“

Проціпастаўленне новага і старога пададзена ў рамане Ал. Копылэнка надта схематычна, таксама, як і тыпы пролетарскай моладзі.

Гэтая рыса характарызуе і раман Г. Коцюбы „Новыя берагі“, прысвечаны Днепрабуду. Г. Коцюба добрасумленна і нават педантычна паказвае самы працэс будаўніцтва. Кожны новы раздзел пачынаецца ў яго звычайна разгорнутым індустрыяльным пейзажам, а пасля ўжо аўтар пераходзіць да сваіх персанажаў, энтузіястаў будаўніцтва, або наадварот, шкоднікаў і сабатажнікаў. Але прыступаючы да харак-

тарыстыкі псіхалогіі персанажаў, асабліва дадатных, Г. Коцюба часта аперыруе шаблоннымі схемамі (каханне ў розных варыяцыях), а там, дзе трэба выявіць рысы новага чалавека, абмяжоўваецца сухімі пра такольнымі запісамі.

„Раніцой ён ідзе на работу, потым у профбюро, дзе прыходзіцца дзяжурыць, як члену бюро, пазней наведвае барак, да якога яго прымацавалі. Увечары слухае лекцыі на курсах машыністаў, адбывае практыку або наведвае курсы палітграматы. А там паседжанне або вытворчая нарада. Так і праходзяць дні, тыдні, месяцы (гаворыцца аб дадатным героі машынісце Чэмерыцы)". Натуральна, што і перажываюць героі Г. Коцюбы па вызначанаму рагламенту, і свае ідэйныя погляды фармулююць у вельмі дэкларацыйнай форме.

— „Вы жадаеце рэцэптаў?—усміхнулася Флора Германаўна (жанчына-інжынер—Б. К.). Слухайце. Трэба заўсёды глядзець наперад, ніколі не думаць аб смерці, уяўляць, што тое, над чым працуеце, вельмі карысная рэч і ісці з тым класам, якому належыць будучае".

Гэтае мастацка-невыразнае філасофстваванне аўтара і герояў спалучаецца з бескаляровымі метафарамі і эпітэтамі, якія абязлічваюць персанажы і акружаючую іх абстаноўку.

„Шырокая панарама вялічавага суровага і чароўнага сваёй капрызнай прыродай Дняпра адкрывалася адсюль з тэрасы."

„У гэты момант скрыпнулі дзверы барака і хуткімі крокамі да стала падышоў малады, даволі высокі ростам, хударлявы, голены мужчына. Спыніўшыся каля гулякоў, ён дакорліва пакруціў галавою."

Барацьба за якасць мастацкага твора, пачынаючы з пытанняў кампазіцыі, пабудовы вобраза і канчаючы стылістыкай, неабходная ўмова барацьбы за соцыялістычны рэалізм.

Практыка ўкраінскай савецкай прозы навейшага перыяда яскрава паказвае, што безумоўна дадатны для кожнага пісьменніка і для ўсёй літаратуры ў цэлым паварот да соцыялістычнай рэчаіснасці ў рада пісьменнікаў не замацаваны ўпартай работай над уладаннем літаратурным майстэрствам.

А без гэтага немагчым сапраўдны творчы рост савецкай літаратуры і сапраўдная яе перабудова.

Праблема якасці хвалюе творчы актыў украінскай савецкай літаратуры.

На перадз'ездаўскіх творчых дыскусіях пісьменнікі выступаюць з рэзкай самакрытыкай. „Чаму нашыя тэмы такія грандыёзныя, а творы на гэтыя тэмы такія скрупулёзныя? Чаму мы павінны змагацца за сюжэтнасць, якая ў нас так слаба развіта?

Чаму ў нашых п'есах мякіна, замест дакладнай, дзейнай адборнай мовы?

Чаму ў нашых творах голыя схемы, а не жывыя героі соцыялістычнага будаўніцтва, якіх мы бачылі ў жыцці?

Чаму ў СССР расквітае калектыўная радасць, а драматург часам адчувае адзіноту, адарванасць ад жыцця? І як выйсці з гэтага становішча?

З такімі пытаннямі звярнуўся да ўдзельнікаў драматургічнай нарады асноўны дакладчык І. Мікітэнко (Украінская „Літаратурная газета" №16, май 1934 г.).

І. Мікітэнка даў надта песімістычную ацэнку становішча ўкраінскай савецкай драматургіі.

У прыватнасці ён падышоў з „ураўніцельнай меркай" да драматургіі нядаўняга мінулага, паставіўшы на адну дошку, як пройдзены этап, п'есы, якія адыгрывалі ў свой час значную ролю („Дыктатура"

„Справа гонару“) і радавыя, нават малавядомыя, творы, не трапіўшыя на „вялікую“ сцэну.

Але ў прынцыпе ўстаноўка І. Мікітэнка на разгортванне самакрытыкі ў драматургіі правільная. Яна поўнасцю актуальная і ў адносінах да другіх участкаў літаратуры. Украінская драматургія апошніх гадоў высунула двух аўтараў, якія атрымалі прэміі на ўсесаюзным конкурсе 1934 г. (А. Корнійчук „Пагібель эскадры“ і Кочэрга „Гадзіншчык і курыца“).

П'еса А. Карнійчука пабудавана на фактычным гісторыка-рэвалюцыйным матэрыяле—захапленне чырвонымі маракамі Чорнаморскай эскадры у 1918 годзе.

Багаты і глыбока драмачычны матэрыял п'есы дае магчымасць па сапраўднаму разгарнуць рознастайны тыпаж, пабудаваць напружаную і ў той-жа час соцыяльна і псіхалагічна матываваную інтрыгу, спалучыць рэалістычны падыход да матэрыяла з патэтычнай узнятасцю, якая падкрэслівае героіку рэволюцыі.

П'еса А. Корнійчука набліжаецца да жанру соцыяльнай трагедыі: уласнымі рукамі маракі прымушаны знішчыць флот, які ў другіх умовах змог-бы зрабіцца абаронай рэволюцыі. За „захаванне“ эскадры па іроніі лёсу змагаюцца здраднікі рэволюцыі—белагвардзейскае і петлюраўскае пазадзе. Калізія ўскладняецца тым, што існуе вымушаны загад Совецкага ўраду аб звароце флота з Новарасійска ў Севастопаль, дзе яго павінны, згодна брэстскага дагавора, перадаць германскаму камандванню (неафіцыяльна ўрад прапанаваў маракам флот затапіць).

Разабрацца ў гэтай складанай сітуацыі, намацаць правільны хоць на першы погляд, і зусім нечаканы выхад з палажэння, здолела толькі моцнае большэвіцкае кіраўніцтва экскадры, і А. Корнійчук паказвае суровую большэвіцкую дыялектыку ў дзеянні, проціпастаўляючы ўпэўненую ў сабе, узброеную жалезнай логікай тактыку большэвізма, путчысцкай тактыцы „метущегося“ „левака“ мінёра Гойдая, з яго прыгожымі фразамі аб „Пацёмкіне“ і „рэволюцыйнай барацьбе“, хоць-бы за кошт аднаўлення вайны немцаў супроць совецкай улады.

Уменне паказаць не ў маралізатарскіх сентэнцыях, а ў дзеянні, на канкрэтных фактах неабходнасць большэвіцкага вырашэння пытання, паказаць перамогу рэволюцыі над моцным і небяспечным ворагам—у гэтым заключаецца вялікая ўдача А. Корнійчука.

Асноўная сюжэтная лінія п'есы распадаецца на рад прыватных эпізодаў, ад якіх, аднак, залежыць вынік дзеяння ў цэлым і якія даюць магчымасць аўтару усебакова паказаць класавыя і псіхалагічныя якасці сваіх герояў. Выйдзе каманда з Севастопаля ў мора ці контррэволюцыйнаму камандванню сумесна з петлюраўска-кулацкімі элементамі (боцман Кобза) удасца затрымаць яе да прыхода немцаў (выхад з бухты мініраваны), падначаляцца маракі сакрэтнаму распараджэнню ўрада аб затапленні эскадры, ці возьме верх версія Гойдая аб тым, што дэлегаты Балтыйскага флота, якія прывезлі распараджэнне—падасланыя шпіоны, ці ўдасца камандванню і Кобзе ажыццявіць правакацыйны план захопа ўлады ў свае рукі і знішчэння большэвіцкага камітэта—такія сюжэтныя вузлы п'есы, якія дэманструюць сілу большэвізма, уменне партыйнай ячэйкі апераваць у самых складаных і адказных умовах, весці за сабою масу.

У п'есе няма „адналінейных“ схематычных тыпаў, калі не лічыць паміраючага ў першым дзеянні камісара (добра, між іншым, пададзен самы момант смерці, калі па просьбе камісара марак грае на гармоніку яго ўлюбёную песню).

Вельмі падкрэсліваецца месцамі гераізм Аксаны.

Добра распрацаваны тып Гайдая, які, не гледзячы на суб'ектыўную адданасць рэволюцыі, ледзь не робіцца яе здраднікам (па віне Гайдая гіне ад рукі Кобзы Аксана), ярка паказан правакатар Кобза, які ўмела выкарыстоўвае ўсякі недагляд у лагеры чырвоных маракоў, да вялікага мастацкага абагульнення падымаецца аўтар у паказе старога марака Бухты.

„Бухта: (*паволі падняў свісток і ціха свіснуў*) Зважай! У апошні раз, каб чыстым аддаць мору карабль, які гіне за рэволюцыю... Таварышы, апошні аврал (*зноў свіснуў, праз слёзы*). Палубу скаціць, працерці пяском, ізноў скаціць і... і... пралапаціць. (*Пауза*). Памяшканне мыць мылам, жалеза, мядзяшкі дра... драіць...

Стрыжань. Апошні аврал. Ціха без шума бяруць маракі швабры, шлангі і пачынаюць чысціць палубу, драіць медныя часткі. Ціха палілася песня: „Вихри враждебные веют над нами. Черные силы нас грозно гнетут..." Ідзе аврал. Фрэгат не вытрымаў, усхвалявана апусціў галаву, нібы хоча схаваць яе на грудзёх у Палады.

Палада (*Фрэгату цёпла*) Трымайся, Фрэгат, трымайся... Перад табою ўся планета, старая даўно чакае нашага аврала. Абняў Фрэгат Паладу і паволі пашлі па палубе. Аврал працягваецца. Адышоўшы на некалькі хвілін, Стрыжань вяртаецца разам з балтыйцамі—яны нясуць сцягі загінуўшых караблёў."

Драматычнае напружанне дзеяння п'есы вельмі добра падкрэсліваецца характэрнай мовай, якая ўскрывае класавую сутнасць розных персанажаў.

У прыватнасці аўтар удала праціпастаўляе казённую петлюраўскую фразеалогію дамарошчанага „запарожца" у нямецкай уніформе палкоўніка Цэнтральнай рады і іранічныя, утрыраваныя рэплікі дэлегата мінаносца „Пылкага".

Палкоўнік: Я буду гаварыць каротка. Ці-ж можна многа гаварыць, калі ліецца кроў народа?! Наша задача—спыніць праліццё крыві дэмакратыі. Сябры! Цэнтральная рада просіць вас прыгадаць, хто вы... Вы-ж украінцы, сыны стэпаў залатых, нашчадкі слаўных рыцараў Вялікага луга, якія калісці ехалі праз Чорнае мора на байдарках, здабывалі сабе сусветную славу, а цяпер... хто з вас пойдзе супроць сваёй гісторыі? Я прапаную спыніць барацьбу паміж двума часткамі дэмакратыі... Паміж братамі...

Прадстаўнік „Пылкага" (*перабівае*) Брат! Ой, браток прыбыў, ідзі сюды. Я з радасці абніму цябе (*ідзе да палкоўніка, расставіўшы рукі*), так абніму, што душа з цябе вон (*Палкоўнік адступае*). Ідзі на грудзі мае, малютка!

Каларытна паказан і боцман Кобза, масціты „просвіцянін", недавучаны бурсак з кулакоў або паповічаў з сваімі „пазаякамі" і іншымі „стыльнымі" абаротамі, якія сімвалізуюць сутнасць петлюраўскай „дзяржаўнасці".

А. Корнійчук падкрэслівае трагічнасць сітуацыі элементамі юмара. Жыццярадасныя качагары і адданыя байцы рэволюцыі Фрэгат і Палада ажыўляюць дзеянне п'есы і карыстаюцца заслужаным поспехам у гледача,

П'еса І. Кочэргі „Гадзіншчык і курыца" з'яўляецца паказальнай з пункту погляду ўпартай работы аўтара над формай. Бліскуча распрацаваная, цікавая інтрыга з самымі нечаканымі, але матываванымі ходамі дзеяння—добрая аснова для социяльнай камедыі палажэння.

Што-ні-што у „Гадзіншчыку і курыцы" яшчэ застаецца ад бытавізма ўласцівага папярэднім п'есам. І. Кочэргі, напрыклад, фальклор-

ныя прыказкі, як „рэж маю душу варэнікам“, некаторая схільнасць да прыўзнятых сентэнцый („Няўлоўная вогненная птушка рэволюцыі“— Юркевіч аб Лідзе) але асноўнае ў п‘есе заключаецца не ў гэтым.

І. Кочэрга паказвае, як час ломіць і перарабляе людзей і як пролетарская рэволюцыя падначальвае сабе час.

1912, 1914, 1920, 1929 гады—граф куравод Лундышэў, гадзіншчык спецыяліст Карфункель, рэволюцыянерка Ліда Званцова і Юркевіч, якi не падняўся да яе ўзроўня, але якi некалі ёй спачуваў—паказана ў рознастайных і цікавых сітуацыях.

Заўзяты прыхільнік курынай „прынцэсы“ Бальбуль Эль-Газар накіроўваецца ў дамавіне да брата ў Парыжы, адкуль, дарэчы сказаць, вывезена славутая курыца, а сама „прынцэса“, ці правільней яе нашчадкі, паступаюць у распараджэнне прайшоўшай праз франты грамадзянскай вайны і назначанай дырэктарам курасоўгаса Ліды Званцавай. Гадзіншчык Карфункель, будучы за шкодніцтва арыштаваным, нарэшце, атрымлівае магчымасць вярнуцца дахаты і заняцца канструяваннем гадзіннікаў сваёй уласнай сістэмы, але даведваецца, што ў Германіі „час спыніўся“—абанкроцілася старая фірма, якая павінна была ажыццявіць яго вынаходніцтва, і што пабудаваць яго гадзіннік змогуць толькі ў краіне „варвараў“, з якой Карфункель збіраўся уцякаць. Закаханы ў Званцаву лятуценнік Юркевіч так і застаўся на правінцыяльным паўстанку, пе трапіўшы на цягнік сучаснасці.

Матыў часу набывае пэўнае социяльнае гучэнне: І. Кочэрга на невялікім участку рэчаіснасці паказвае сутычку капіталістычнай і соцыялістычнай сістэм, залежнасць лёсу людзей ад іх здольнасці знайсці сябе ў гэтай барацьбе, ад умення паставіць свой гадзіннік па хранометру эпохі.

З другіх драматычных твораў украінскай совецкай літаратуры навейшага перыяда трэба адзначыць лірычную камедыю І. Мікітэнка „Дзяўчаты нашай краіны“. Стварыць п‘есу, якая-б высмейвала адмоўныя з‘явы, але ў плане сяброўскага гумару, паказвала-б рысы новага ў псіхалогіі рабочай моладзі—вось задача Мікітэнка.

Аўтару не ўдалося пазбегнуць некаторай павярхоўнасці і спрашчэнства ў увязцы „асабістага“ і „грамадскага“ (вытворчасць і каханне), але твар бадзёрага, жыццярадаснага комсамола ён паказаў, паказаў кантраст здаровай перадавой моладзі і заражанага дробнабуржуазным індывідуалізмам маральна і ідэйна неўстойлівага Шмецелюка, якога, між іншым, калектыву таксама ўдаецца вярнуць у свае рады.

Наіўная соцыяльная матывіроўка „перараджэння“ Шмецелюка ў выніку яго захаплення жонкай інжынера Латоцкай (выяўляецца, што гэтая сумуючая барыня какетуе з Шмецелюком з-за ідэй, жадаючы праверыць сваю тэорыю аб перавазе буржуазнага тыпа культуры над пролетарскай.

І. Мікітэнка процiпастаўляе у сваёй п‘есе індывідуалізм, дробнабуржуазнае ячаства Шмецелюка арганізаванай волі комсамольскага калектыва.

І. Мікітэнка напісаў п‘есу „Бастылія маткі боскай“, пабудаваную на першай частцы рамана „Раніца“, аб якім мы ўжо гаварылі. У гэтай п‘есе І. Мікітэнка паказвае, як прыватныя „нацыянальныя“ рознагалоссі петлюраўскіх бандытаў і дзенікінцаў адступаюць на задні план, калі гутарка заходзіць аб адзіным фронце супроць рэволюцыі. Аб‘яднанаму блоку белагвардзейшчыны і петлюраўскіх нацыяналістаў процiпастаўляецца пролетарскі інтэрнацыянальны фронт працоўных розных нацый, якія аб‘ядналіся для барацьбы супроць контррэволюцыі.

І. Мікітэнка закончыў новую п'есу „Птахі і камахі".

За апошні перыяд з новымі п'есамі выступілі паэты Л. Первамайскі („Ваграмава ноч") і С. Галаваніўскі.

У сваім жанры пабытовай драмы, пабудаванай на актуальным матэрыяле класавай барацьбы на вёсцы, працуе Г. Мізюн (адна з яго п'ес „Ледаход" пастаўлена тэатрам „Бэрэзіль"). Хоць колькасць новых п'ес украінскіх драматургаў і не асабліва значная, але ў адносінах да якасці украінская совецкая драматургія мае за апошні час значныя дасягненні, высунула новых драматургаў, п'есы якіх увайшлі ў рэпертуар сталічных тэатраў.

Праф. ІЕЗУІТАЎ і К. ГУБАРЭВІЧ

## БЕЛАРУСКАЯ КІНОМАТАГРАФІЯ

Пастановай ураду БССР у 1924 годзе быў пакладзен пачатак дзейнасці Белдзяржкіно. Маючы мізерныя сродкі яно, зразумела, не змагло прыступіць да ўласнай вытворчасці зараз-жа пасля арганізацыі. Таму дзейнасць яго выразілася ў аўладанні пракатнымі аперацыямі на тэрыторыі Беларускай рэспублікі і кінофікацыі краіны. З гэтай задачай Белдзяржкіно справілася да канца першага года работы, павялічыўшы ў некалькі разоў колькасць кінотэатраў, набыўшы да дзесятка кіноперасовак і вялікую частку савецкіх фільмаў. Што датычыць уласнай вытворчасці, дык яе Белдзяржкіно, па прыкладу старых савецкіх кіноарганізацый, пачала з хронікі. Былі засняты з'езды, канферэнцыі, важнейшыя падзеі, якія адбываліся ў Менску, у Віцебску і іншых мясцовасцях рэспублікі. Ад першага часу дзейнасці Белдзяржкіно захаваліся наступныя, маючыя цяпер толькі гістарычную цікавасць фільмы: „2-гі Усебеларускі з'езд советаў", „2-я сэсія ЦВК БССР у Віцебску, „адчыненне Сельска-гаспадарчай акадэмі", „9-ты Усебеларускі з'езд КП(б)Б" і інш. Большасць гэтых першых хронік былі зняты аператарам Леонцьевым. Да 1926 г. вытворчасць мастацкіх фільмаў яшчэ не была наладжана. Таму і зразумела, што вядомы справаздачны зборнік матэрыялаў аб развіцці і росце кіноарганізацый СССР „Советское кино на под'еме" (1926 г.), гаворачы шырока аб дзейнасці ВУФКУ, Дзяржкіно Грузіі, Пролеткіно і іншых арганізацыях, пра Белдзяржкіно не ўспомніў ні аднаго слова. Між тым год выхада ў свет званага зборніка быў для Белдзяржкіно пераломным годам. У гэты іменна год Белдзяржкіно прыступіла да вытворчасці мастацкіх карцін, праўда, не на ўласнай фабрыцы, з прычыны адсутнасці вытворчай базы. Першым беларускім мастацкім фільмам, лічачы парадкавы нумар па часу выпуска фільма ў вытворчасць, была карціна „Прастытутка". Яе ставіў рэжысёр Фрэліх па сцэнарыю Н. Галкіна і Дземідовіча. Карціна здымалася ў Маскве на 3-й фабрыцы Дзяржкіно.

Для беларускага кіномастацтва, якім мы прадстаўляем яго на працягу 10-ці гадавога развіцця, „Прастытутка" аказалася творам не характэрным. Выпадковы рэжысёр, выпадковая соцыяльна-бытавая тэма вызначылі і выпадковае месца „Прастытуткі" як першай карціны і хаця карціна карысталася камерцыйным поспехам і да гэтага часу дэманструецца на экранах Совецкага саюза, тым не менш не яна вызначыла твар беларускай мастацкай кінематаграфіі.

Адначасова з карцінай „Прастытутка" Белдзяржкіно выпусціла „Лясную быль" (па першай назве—„Грышка-свінапас") Тарыча. Рэжысёр карціны раней быў шырока вядомы совецкаму гледачу, як пастаноўшчык фільма з эпохі Іоанна Грознага пад назвай „Крыллі халопа".

Карцінай „Лясная быль“ ён пачаў работу ў беларускай кінематаграфіі, і з таго часу звязаў свой мастацкі лёс з Белдзяржкіно, як адзін з яго значна відных работнікаў. „Лясная быль“ адлюстроўвала эпізоды з жыцця беларускіх партызанскіх атрадаў у часы польскай акупацыі. Нельга сказаць, каб фільм даваў зусім яснае ўяўленне аб характары рэволюцыйнай барацьбы на Беларусі ў 1919-1920 г. г. Тым не менш асобныя эпізоды гэтай барацьбы ён адлюстроўваў праўдзіва. Варта адзначыць і тую акалічнасць, што драматургічная пабудова (фільм быў зроблен па аповесці беларускага пісьменніка М. Чарота) вышла вельмі ўдалай.

Усё разам узятае, далучыўшы сюды таксама і добрасумленную работу аператара Шлюглейта, зрабіла фільм першым сур'ёзным дасягненнем беларускага кіно.

Год выпуска фільма „Лясная быль“ быў для Белдзяржкіно годам вялікіх вытворчых перамен. У сярэдзіне 1927 г. Белдзяржкіно узяло у арэнду ў Ленінградзе памяшканне дарэволюцыйнага тэатра „Кривое зеркало“, і каб прыстасаваць яго пад кіно-фабрыку.

Пакуль ішоў рамонт памяшкання чарговыя беларускія фільмы, у тым ліку і „Кастусь Каліноўскі“, здымаліся яшчэ ў павільёнах іншых совецкіх фабрык. Але ўжо ў 1928 г. Ленінградская фабрыка Белдзяржкіно была пушчана.

Хваравітае, у першыя гады, пытанне аб вытворчай базе было вырашана, хоць і не ў поўнай меры, як гэтага хацелася (далёкая адлегласць фабрыкі ад цэнтра беларускай культуры адбівалася на рабоце фабрыкі).

Што датычыць ідэі пабудовы кінофабрыкі ў Менску, ідэі, узнікшай яшчэ ў 1927 г., то яе ажыццяўленне было адкладзена да больш спрыяючых культурна-эканамічных абставін.

Асваенне эканомікі кіно-вытворчасці прадстаўляла для Белдзяржкіно вялікія цяжкасці, аднак гэта было не так складана, як асваенне нацыянальнай тэматыкі.

Магчыма апошні працэс, працэс барацьбы за нацыянальную форму у кіномастацтве быў бы менш хваравітым, каб Белдзяржкіно мела уласныя кадры работнікаў. Але бяда ў тым, што Белдзяржкіно прыходзілася запрашаць рэжысёраў недзе з боку. Некаторыя з іх былі вельмі карыснымі для Белдзяржкіно людзьмі і шмат чым дапамаглі беларускай кінематаграфіі ў ажыццяўленні яе замыслаў. Другія не змаглі арганічна ўліцца у агульны струмень работы. А ў паасобных выпадках яны, слаба ведаючы шляхі пролетарскай культуры Беларусі, скарыстоўваліся нацдэмамі, якія імкнуліся падпарадкаваць беларускае кіно задачам буржуазнай рэстаўрацыі. У беларускім кіно з першых-жа год існавання пачалася класавая барацьба.

Адным з першых актаў гэтай барацьбы быў фільм „Кастусь Каліноўскі“, зроблены В. Гардзіным (сумесная пастаноўка Белдзяржкіно і Совкіно).

Гэта быў імпазантны гістарычны фільм з усім антуражам вялікіх гістарычных пастановак.

У аснову яго замысла было пакладзена паўстанне сялянства і дробнапамеснай шляхты ў 1863 годзе супроць польскіх памешчыкаў і супроць палітыкі царскай Расіі. Галоўным героем фільма быў зроблен правадыр дробнапамеснай польскай шляхты—Кастусь Каліноўскі. Наперакор гістарычнай рэчаіснасці ён быў ператворан у вызваленца беларускага працоўнага народа. І фільм канчаўся патэтычным воклічам яго, кінутым з эшафота у бок усёй беларускай нацыі: „Чуеш, Беларусь!“, на гэта быў адказ вялізнага натоўпа, які сабраўся

да карнага месца на старой плошчы Вільні: „Чую". Нацдэмакраты імкнуліся зрабіць з „Кастуся Каліноўскага" як-бы свята нацыянальнай культуры, хаця карціна „Кастусь Каліноўскі" не толькі не была звязана з сапраўднай совецкай культурай БССР, але ўсёй сваёй вастрынёю была накіравана супроць яе.

У 1927-28 гг. праяўленні нацдэмакратызма ў беларускай кінематаграфіі былі асабліва моцнымі. І „Кастусь Каліноўскі" з'явіўся не адзіным фактам яго прапаганды. Прыблізна паралельна з пастаноўкай „Кастусь Каліноўскага" быў зроблен Рашалем фільм „Яго вялікасць". Карціна спачатку насіла назву „Гірш Лекерт" і была прысвечана аднаму з эпізодаў яўрэйскага рэволюцыйнага руху на Беларусі. Нацдэмакратызм праявіўся ў фільме ў ідэалізацыі контррэволюцыі „Бунда". Другі фільм Гардзіна, пастаўлены ім, хаця не ўслед, але хутка пасля „Кастуся Каліноўскага" „Песня вясны", тэма якой была ахутана густым флёрам старадаўніх паганскіх абрадаў, казанняў і рознымі ілжэнароднымі афарбоўкамі, каб давесці „самабытнасць беларускага народа". І цікавая тэма гэтага фільма—тэма меліярацыі беларускіх балот паслужыла толькі повадам для дэманстрацыі (з мэтай прапаганды) „самабытных" форм беларускага фольклора. Партыя і ўрад БССР вялі з нацдэмакратызмам неўхільную і нястомную барацьбу, выкрываючы наскокі нацдэмакратаў на тэматычныя планы Белдзяржкіно, даючы кіноматаграфіі ўстаноўкі як трэба падыходзіць да сапраўды большэвіцкай рэалізацыі на экране нацыянальнай тэматыкі, як з дапамогаю такой моцнай прапагандысцкай зброі, якой з'яўляецца кінематаграфія, выхоўваць працоўныя масы рэспублікі ў духу інтэрнацыянальнай салідарнасці рабочага класа. І нацдэмакратызм быў урэшце выкрыты і разгромлен. Гэта безумоўна не выключае магчымасці паўтарэння нацдэмакратызма ў замаскаваных формах, і да барацьбы з рэцыдывамі нацдэмакратызма кінематаграфія павінна быць заўсёды гатовай. Выкрыццё нацдэмаўскіх вытокаў асобных ранніх беларускіх фільмаў суправаджалася некаторымі цяжкасцямі, бо нацдэмакратызм выступаў у кінематаграфіі не з лобавай атакай супроць пролетарскіх ідэй, а праводзіў сваю палітыку надзвычайна тонка і замаскавана.

Прафесійнага мастацтва не хапала ў тыя часы фільмам, не заражаным нацдэмакратычнай інфекцыяй.

Карціна Авербаха і Данскога „У вялікім горадзе", апрача таго, што яна рафінавана і „елейна" паказвала быт рабочай сям'і і з хваравіта істэрычным надрывам паказвала жыццё літаратурнай багемы, была, проста кажучы, карцінай вучнёўскай, прымітыўнай работай. Тое-ж самае можна сказаць пра першую карціну Файнцымера „Отэль Савой", неўдача якой (і шэрага іншых прычын) прымусіла рэжысёра замаўчаць амаль на цэлых тры гады.

Іншыя фільмы гэтага перыяда: „Сосны шумяць" Малчанава, „400 мільёнаў" Гардзіна, „Пеўні пераклікаюцца" Баллюзека, былі з'явамі мала прыкметнымі, каб пакінуць пасля сябе след у беларускім кіно. У фільме „Сосны шумяць" беларускі партызанскі рух быў укладзен у форму таннага. дэтэктыўнага сюжэта. Карціна „400 мільёнаў", прысвечаная рэволюцыйным падзеям у Кітаі, рассыпалася на кавалкі, як дрэнна складзеная будыніна. „Пэўні пераклікаюцца" ішлі на паваду амерыканскай эксцэнтрычнай камеды і хаця тэма фільма (самадурства польскіх графоў, пражываючых на пагранічнай з Беларуссю паласе) і прадстаўляла цікавасць, вырашана яна была ў плане дробных і танных трукаў.

Шмат хто з рэжысёраў названых фільмаў былі для беларускага кіно людзьмі выпадковымі. Ні Баллюзек, ні Малчанаў, ні Рашаль

больш не выступалі ў якасці пастаноўшчыкаў Белдзяржкіно. Творчасць іншых рэжысёраў расла і мацнела.

Так, Тарыч у 1929 г. выпускае фільм „Да заўтра". Гэта новы крок у мастацтве самога майстра і ў дзейнасці Белдзяржкіно. Фільм „Да заўтра", быў пабудаваны на маладзежнай тэматыцы, выклікаў неаслабную зацікаўленасць да сябе з боку кінаработнікаў. Ей прысвечан быў у свой час фільм „У вялікім горадзе", аўтары якога імкнуліся зарысаваць вобразы студэнтаў сталіцы СССР. Для фільма „Да заўтра" Тарыч выкарыстаў іншы матэрыял. Ён паспрабаваў паказаць гледачу быт беларускай моладзі на тым баку савецкай граніцы у Заходняй Беларусі, і на гэты раз маладзежны фільм выйшаў удалым і па зместу і па выкананню. Вобразы герояў (рэвалюцыйна настроеныя выхаванцы польскага прытулку, сын начальніцы прытулку, яна сама, яе госці) былі зроблены ў добрай рэволюцыйнай манеры, без фальшывай узвінчанасці, якую часта можна сустрэць у фільмах на зарубежную тэматыку. Таму апошняя (тэматыка) зрабілася вельмі патрэбнай і палітычна-актуальнай. У фільме не было асаблівага кінематаграфічнага наватарства. Ды рэжысёр і не ставіў сваёй мэтай быць абавязкова наватарам. Ён проста і безхітрасна паказаў адзін з бакоў зарубежнага жыцця і паказ гэты быў расцэнен гледачом вельмі станоўча.

Аднак маладых кінаработнікаў Белдзяржкіно, якія толькі што распачалі свой творчы шлях, гэткія адносіны да майстэрства не маглі поўнасцю задаволіць. Яны пачалі адшукваць новыя маляўнічыя сродкі і з прагнасцю выкарыстоўваць дасягненні савецкай кінематаграфіі таго часу. Асабліва паказальны у гэтых адносінах фільм В. Корша „У агні народжаная" (1929 г). У ім гаварылася аб узнікненні савецкай Беларусі і аб верным вартавым яе граніц—Чырвонай арміі. Рэжысёр гнеўна і ўсхвалёвана паказваў беларускія балоты, асушаныя пякельнай працай прыгонных пакаленняў, утрамбаваныя касцямі замучаных і зняволеных панамі людзей. І ў той-жа час патэтычна, з нейкай асаблівай рамантыкай манціраваў кадры паўстаючай у агні рэволюцыі і грамадзянскай вайны савецкай Беларусі. Для такога патэтычнага развароту патрабаваліся асаблівыя сродкі вырашэння, і Корш запазычваў іх з арсенала мастацтва Эйзенштэйна і Даўжэнкі. З фільма „У агні народжаная" атрымалася карціна, блізкая па сваёй канструкцыі да „Звені гара" і „Окцябр". Гэтым мы не хочам сказаць, што нібыта яна была на мастацкім узроўні апошніх твораў—аб такім параўнанні не можа быць і гутаркі. Нам важна адзначыць толькі, што ў гэтай карціне і вышэй названых фільмах была адна і тая-ж стылістычная тэндэнцыя. Тэндэнцыя гэта выявілася ў такіх, напрыклад момантах, як сустрэча польскага князя з прыслужнікамі рэлігіі: папом, ксяндзом і рабінам (Эйзенштэйнаўскі матыў), як сцэна расстрэла большэвіком контррэволюцыянера (матыў Даўжэнкоўскага „Арсенала"), як усе гэтыя з'явіўшыяся падобна фэніксу з попела групы коннікаў, даўгія шэрагі Чырвонай арміі. Фільм быў зняты апаратарам Шлюглейтам, сталым і ўмелым работнікам Белдзяржкіно—апаратарам „Лясной былі", „400 мільёнаў", „Да заўтра", „Сонечнага пахода" „Першага кахання" і іншых фільмаў. У карціне „У агні нарожданая" Шлюглейт даў немала кадраў, якія добра запамінаюцца. Паслаблены сюжэт, прымітыўная публіцыстыка, схематычнасць вобразаў паасобных герояў перашкодзілі фільму Корша стаць колькінебудзь значнай з'явай. Але фільм зрабіў сваю карысную справу. Ва ўсякім выпадку ён стаў у беларускім кіно творам паваротным ад аднаўленчага да рэканструкцыйнага перыяда.

Рэканструкцыйны перыяд паставіў перад беларускім кіномастацт.

вам новыя ідэйна-арганізацыйныя задачы. Зноў узнікла пытанне аб пабудове кіно-фабрыкі на тэрыторыі БССР. На гэты раз была вырашана пабудаваць яе ў Віцебску. Былі ўжо загатоўлены чарцяжы, прыняты праекты і прыступлена да ўстанаўлення яе фундамента. Але праўленне Саюзкіно перадумала гэта пытанне, і пабудова фабрыкі была законсервавана, бо пабудова кінофабрыкі ў Віцебску была-б не спадручнай і гэтым актам развіццё беларускай кінематаграфічнай культуры адрывалася ад цэнтра БССР—Менска. У той час як наспяваў працэс эканамічнай рэканструкцыі беларускага кіно, у такой-жа ступені інтэнсіўнасці адбывалася ідэйная перабудова беларускага кіномастацтва. Гэты паварот патрабаваў аднолькава вялікага напружання як ад старых майстроў, так і ад моладзі. Зразумела, не да ўсіх работнікаў дайшла думка аб неабходнасці ідэйнага пераўзбраення. Так у гэту пераломную эпоху выходзяць яшчэ фільмы, мала звязаныя з новымі мастацкімі запатрабаваннямі. Узяць хоць бы такі твор, як „Саша“ Хахловай. „Суд павінен працягвацца“ Дзігана, „Храманожка“ Вінакурава, „Сапраўднае жыццё“ Гаўронскага і Уліцкай. Гэта былі фільмы, якія не задавальнялі запатрабаванні новай эпохі.

Запатрабаванні новага этапа Кастрычніцкай рэвалюцыі знайшлі больш ці менш правільную рэалізацыю ў двух фільмах 1930 г.: „Рубікон“ Вайнштока і ў „Нянавісці“ Тарыча. Рэжысёр Вайншток—аўтар агітпропфільма „Заваяваная зямля“—твору слабога і вучнёўскага (за выключэннем хіба работы апаратара Кальцатага)—у „Рубіконе“ паказаў сябе мастаком здольным, які разумее сэнс новых задач, пастаўленых перад савецкай кінематаграфіяй. Ён выбраў аб'ектам мастацкіхназіранняў замежнага марака, трапіўшага ў Савецкі саюз. Марак гэты, апынуўшыся ў незвычайных для яго, грамадскіх умовах, адмовіўся ад старых сваіх звычак выхавання, светапогляда і зрабіўся адэптам новага соцыяльнага ладу. Тэма перараджэння для 1930 г. калі вышаў у свет „Рубікон“, з'явілася тэмай арыгінальнай і свежай. Яна сустрэла жывы водгук і на Беларусі і на іншых экранах Савецкага саюза. Можна сказаць, што Белдзяржкіно выпускам „Рубікона“ паказала большую рухавасць у рэалізацыі тэматыкі соцыялістычнага будаўніцтва, чым іншыя нацыянальныя кіно-арганізацыі Саюза. На жаль, гэтага самага нельга сказаць аб мастацкай якасці гэтага фільма. Ён быў усё-ткі не на тым узроўні, якога патрабаваў час. Справа тут заключалася, безумоўна, не „у прымітыўнай тэндэнцыйнасці“, за што гнеўна накінуўся замежны друк, а ў неўмельстве паказаць героя ва ўсёй складанасці яго маральна-псіхалагічных працэсаў. Таму вобраз Біля вышаў бледным і мала-пераканаўчым, вышаў чарнавік вобраза з усімі слядамі штрыхавых спроб, пакінутых не сцертымі.

Другім удалым фільмам перыяда рэканструкцыі, як мы сказалі ўжо, была „Нянавісць“ Тарыча. У звязку з гэтай карцінай, зробленай на матэрыяле класавай барацьбы польскага пролетарыята, неабходна асабліва падкрэсліць глыбокую зацікаўленасць Белдзяржкіно зарубежнай тэматыкай. Да „Нянавісці“ аб'ектыў беларускага апарата зазіраў па той бок Савецкай мяжы ў карцінах „Да заўтра“, „Пеўні пераклікаюцца“. Пасля „Нянавісці“ ённазіраў за рэвалюцыйным рухам у буржуазных краінах у карцінах „Шчасце“, „Першая любоў“, „Слава света“. У „Нянавісці“ Тарыч дасягнуў надзвычайна-вострай палітычнай злабадзённасці. Нездарма польская фашысцкая прэса назвала яго з гэтага поваду „бальшэвіцкім рэжысёрам“. Але гэта злабадзённасць фільма абярнулася супроць яго-ж самога. Сцэнарый фільма, зроблены самім пастаноўшчыкам, відаць, пацягнуў рэжысёра ў бок голых агітацыйна-прапагандысцкіх прыёмаў. У выніку гэтага ў фільме

атрымаўся толькі адзін жывы вобраз—гэта сялянка-забастоўшчыца, ролю якой выконвае Ада Войцік, і адзін жывы драматургічна-цэльны эпізод—гэта эпізод з токам, пушчаным з электрастанцыі ў калючы дрот. Усё астатняе было прыстасавана і зашыта грубаватымі публіцыстычнымі ніткамі.

Тарыч знайшоў у фільме вялікую і важную тэму, але страціў сваё майстэрства, досыць высокае ў фільмах „Лясная быль" і „Да заўтрага" і вельмі бледнае ў „Нянавісці". Такія былі вынікі перабудовы рэжысёра, такі быў яго ўхіл у бок агітпропфільма—жанра надзвычай характэрнага для ўсёй савецкай кінематаграфіі таго часу.

Агітпропфільмы знаходзілі месца і ў вытворчых планах беларускага кіно, яшчэ задоўга да таго памятнага 1931 г., калі яны атрымалі ўрэшце поўную перавагу ў мастацкай праграме Белдзяржкіно. Вышэй мы адзначылі фільм Вайнштока „Заваяваная зямля". Сюды неабходна дадаць „Беларусь" Еўгенія Пятрова—кінонарыс, выпушчаны да 10-годдзя БССР. Ды па сутнасці „У агні народжаная" была больш за ўсе падобна на агітпропфільм, а не на сапраўдны мастацкі твор. Асабліва ўраджайным у адносінах агітпропфільмаў быў гэты самы 1931 год. Калі выключыць з пераліку фільм „Хамелеон" Леўшына—дрэнную эксцэнтрычную камедыю, якая запазнілася на цэлых сем год,—дык усе астатнія карціны будуць паслядоўнымі, або якія імкнуцца да таго, каб стаць паслядоўнымі агітпропфільмамі. „Сталёвы шлях" Корша, „Сонечны паход" яго-ж і „Ураган" Вайнштока—вось гэтыя істужкі, якія білі ў адну цэль, імкнуліся да аднаго разумення мастацтва і яго задач. „Сталёвы шлях" расказваў аб транспарце ў грамадзянскую вайну і транспарце сучасным. Шэсць нарысаў, ідучы адзін за адным, развівалі ідэі савецкай палітыкі ў адносінах транспарта і агітавалі гледача на барацьбу з непаладкамі на чыгунках. За выключэннем драматычнага эпізода першага нарыса (барацьба за цягнік у эпоху вайсковага комунізма) астатнія нарысы былі шэрымі і мала цікавымі. Яны складаліся з лозунгаў і канчаліся таксама лозунгамі. Нават партрэты ўдарнікаў чыгуначнага транспарта ў канцы фільма былі перасыпаны цітрамі агітацыйнага характара.

Другі фільм Корша „Сонечны паход" нельга было назваць у поўным сэнсе слова агітпропфільмам, але ў драматургічных адносінах ён быў пабудаваны ў ідэнтычнай форме. Толькі лозунгі тут былі ўкладзены ў вусны дваццаціпяцітысячніцы, якая прыехала ў вёску ў гады вялікага перелома. Між іншым, хаця рэжысёр і імкнуўся прымацаваць лозунгі да героя, але ад гэтага ні герой, ні сам фільм у цэлым не сталі жывымі і дзейснымі. Віна тут была ў агульнай агітпропаўскай устаноўцы фільма, устаноўцы, якая прымусіла рэжысёра нарысаваць прысланую з горада работніцу надзвычай нейтральнымі і схематычнымі рысамі (гімнасцёрка, расхрыстаны каўнер, закасаныя рукавы, лазунговая прамова з трыбуны), а ўвесь фільм пабудаваць амаль без сюжэтнага руху, на адным лагічным, і то не заўсёды, заканамерным руху разумення.

Трэці фільм з гэтай групы „Ураган" Вайнштока быў зняты на матэрыяле рабочых будаўнікоў, іх быта, прасякнутага ў некаторай ступені атрутай дробна-буржуазнай псіхалогіі, іх пераробкі ў працэсе соцыялістычнай працы. Для Вайнштока фільм з'явіўся крокам назад у параўнанні з „Рубіконам". Тэма перавыхавання рабочых і другая тэма карціны—тэма савецкага друку і яго ўдзелу ў будаўніцтве соцыялізма былі аб'яднаны ілжывым мастацкім метадам. Карціна вышла шэрая, не цікавая. Не выратаваў яе і сцэнары Кобеца і Брадзянскага, напісаны ў параўнанні з аналагічнымі творамі тэатральнай драматур-

гіі таго часу, хаця бы з „Тэмпам" Н. Пагодзіна, у якім, як вядома, дзейнічаюць таксама рабочыя-будаўнікі—напісаны бледна і сухя.

Бачачы недахопы і нават трываласць агітпропаўскіх фільмаў, няправільна было-б думаць, што на вытворчасці гэтых фільмаў белдзяржкінаўскія рэжысёры нічому не навучыліся. Не, працэс палітызацыі мастацтва, якім уяўляецца нам працэс барацьбы за агітацыйны фільм, дапамог многім мастакам наблізіцца да сучаснасці, да баявых пытанняў совецкай агульнай і нацыянальнай палітыкі. Можа быць Коршу і не ўдалося-б зрабіць у будучым такі поўнацэнны фільм, як „Першы ўзвод", калі-б ён не прайшоў праз карціну „У агні народжаная", праз „Сталёвы шлях" і „Сонечны паход". Тое-ж самае можна сказаць і пра Тарыча, Дзігана, Аршанскага і інш. Адно толькі бясспрэчна, што перыяд агітпропфільмаў высунуў ў Белдзяржкіно цэлы рад маладых майстроў, якія з цягам часу занялі ў беларускай кінематаграфіі месца мастакоў. І гэтыя абставіны не маглі не стаць становучым фактарам у развіцці кіномастацтва БССР.

У гады 1931-1932 г., калі, здавалася, прынцыпы агітпропфільма зрабіліся пануючымі, у беларускай кінематаграфіі пачалі складацца новыя сілы, якія проціпастаўлялі сябе агітпропаўшчыне, якія амагаліся за поўнацэнныя вобразы герояў, за сюжэт, за высокае майстэрства пабудовы кадра. З'явіўшыся следам за карцінамі хадульнымі і схематычнымі, гэтыя, загаварыўшыя іншай мовай, творы ўнеслі ў беларускае кіно аднаўленне творчых потэнцый, яны ўварваліся ў кіно свежым ветрам, які змёў з кіно-мастацтва напластаванні смяротнага пылу, яны паказалі сапраўды жывыя адчувальныя рэчы і з'явы, вобразы людзей і падзеі. Але фільмы гэтыя былі яшчэ далёкімі ад сапраўднага мастацтва і калі назваць іх—а мы далей пералічым іх—выклікаюць на твары некаторых крытыкаў і кіно-работнікаў міну расчаравання і нават нездаваленні. І, магчыма, з падобным нездаваленнем прыдзецца згадзіцца, калі разбіраць гэтыя фільмы безадносна. Але варта толькі высунуць гэтыя карціны ў працэсе развіцця беларускага кіно, як адразу зменіцца іхная ацэнка і іхнае значэнне. Бо ў канкрэтна-гістарычнай абстаноўцы, у акружэнні рацыяналістычнай стыхіі, „Шчасце" Файнцымера, „Жанчына" Дзігана і „Вышыня 88,5" Тарыча былі з'явамі вельмі станоўчага характара.

У „Шчасці" быў паказан лёс бедняка Заходняй Беларусі, гісторыя селяніна ва ўмовах заалагічнай варожасці капіталістычнага лада, чалавека, які не знайшоў шчасця ні ў полі, ні ў горадзе і знайшоў сэнс жыцця у турме сярод таварышоў, такіх-жа, як і ён абяздоленых, але не разгубленых, якія засталіся барацьбітамі за светлае будучае. Гэтую гісторыю Файнцымер паказаў востра і цікава, пабудаваўшы сюжэт фільма на выразных соцыяльных канфліктах. Сутычка селяніна з млынаром, сцэна допыта яго ў турме, заключная сцэна турэмнай забастоўкі былі скампанаваны добра і жыва, хвалявалі і закранялі, нават пры ўсіх шурпатасцях, нервовасці і недахопах карціны. Яшчэ больш выразна была зроблена карціна „Жанчына", якую здымаў рэжысёр Дзіган па даволі эмацыянальнаму сцэнарыю Іванова. Хаця на карціне і ляжаў адбітак запазычанасці майстэрства ў Даўжэнка, аб чым можна было заключыць па канструкцыі паасобных сцэн, па аператарскай рабоце, па кампаноўцы кадраў—тым не менш карціна мела нешта самастойнае. Напрыклад, вобраз Машкі (у выкананні Есіпавай) уяўляў сабою для совецкага кіномастацтва новы, свежы і не заштампаваны вобраз жанчыны соцыялістычнай вёскі. „Жанчына" была сустрэнута друкам і грамадскасцю даволі добра. І гэтае адабрэнне ўскружыла галаву аўтару і Дзіган пайшоў з беларускай кінематаграфіі

ў пошукі больш „спадручнага“ і лепшага месца для творчай работы. Такім чынам два фільмы Дзігана, зробленыя ім у Белдзяржкіно прымітыўная карціна „Суд павінен працягвацца“ і добрая карціна „Жанчына“ з‘явіліся толькі гастрольнымі фільмамі рэжысёра, творамі для беларускай кіноматаграфіі не паказальнымі, ва ўсякім выпадку не паказальнымі ў адносінах характарыстыкі яе творчых кадраў.

За тое паказальнай вышла карціна „Вышыня 88,5“ Тарыча, паказальнай у тым сэнсе, што яна адлюстроўвала адзін з асноўных напрамкаў тэматычнай палітыкі Белдзяржкіно. Напрамак гэты, які адрознівае Белдзяржкіно ад іншых нацыянальных кінематаграфічных арганізацый, заключаўся ў вытворчасці карцін на абаронную тэматыку. Мы ўжо адзначалі у нашым аглядзе некаторыя з абаронных твораў Белдзяржкіно. Узяць хоць-бы „Лясную быль“, „У агні народжаную“, „Сосны шумяць“. І ў далейшым спынімся на абароннай тэматыцы, калі будзем характарызаваць такую вялікую абаронную карціну як „Першы ўзвод“. Зараз у цэнтры нашай увагі стаіць „Вышыня 88,5“—фільм, у аснову замысла якога было пакладзена вайскова-стратэгічнае заданне і яго вырашэнне ў форме, не пазбаўленай вялікага і напружанага драматызма. Сярод групы абаронных карцін. зробленых усёй савецкай кіноматаграфіяй, „Вышыня 88,5“ заняла асобнае і выключнае месца, дзякуючы таму іменна, што яна змагла зрабіць тактычны эпізод не фонам, а сапраўдным сюжэтам рэчы. Магчыма, да сёняшняга дня аператыўна-тактычная абстаноўка будучай вайны, нарысаваная рэжысёрам, ужо ўстарэла калі не ў цэлым, дык часткова. Але не ўстарэў ваенна-палітычны сэнс карціны, і яна да гэтага часу дзейнічае на розныя катэгорыі гледача вельмі актыўна і рашуча ў лепшым сэнсе гэтага слова. Да гістарычнай пастановы ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка 1932 г. сілы беларускай кіноматаграфіі ўжо наспелі, каб працаваць па-новаму, не хапала толькі штуршка—аўтарытэтнага ды ўмелага.

І калі рашэнне ад 23 красавіка урэшце было вынесена, беларускае кіно горача і ўпэўнена ўзялося за яго рэалізацыю. На жаль, спачатку пастанова ЦК была зразумета паасобнымі творчымі работнікамі няправільна. Вайншток ў „Славе света“ вытлумачыў гэта як „амністыю“ старым выцертым штампам, меладраматычным эфектам джазам, факстротам, сляпым дзяўчатам і авантурніцкім прыёмам,

Але „Слава свету“ была ўсяго толькі выключэннем з агульнага напрамку развіцця беларускай кіноматаграфіі пасля ліквідацыі раппаўскіх арганізацый. Што датычыцца асноўнага патока прадукцыі, выпушчанай пасля 23 красавіка 1932 г., то ён уяўляў сабою рэалізацыю тых новых ідэй, якія былі высунуты барацьбой за павышэнне мастацкай якасці нашага мастацтва. Асабліва прыметна палепшылася якасць беларускіх фільмаў з пераходам да гукавой кіноматаграфіі. Вядома, што пасля 1932 г. удзельная вага нямых фільмаў Белдзяржкіно рэзка ўпала. За два апошнія гады беларуская фабрыка выпусціла вельмі мала нямых кіно-істужак, з якіх можна адзначыць, як станоўчую з‘яву, работу маладога рэжысёра Шрэйбера „Першае каханне“ (барацьба компарты ва ўмовах фашыстоўскай дыктатуры) і „Хто твой друг“ Авербаха. Паўтараем, вытворчасць нямых беларускіх фільмаў, у параўнанні з 1927-1931 г. г., значна знізілася. Затое вырасла вытворчасць гукавых карцін „Пераможцы“ Аршанскага, „Слава свету“ Вайнштока, „Зварот Нейтана Беккера“ Шпіса і Мільмана, „Першы ўзвод“ Корша, „Пачатка часу“ Кроля, „Двойчы народжаны“ Аршанскага, „Паручык Кіжэ“ Файнцымера—вось амаль поўны пералік беларускіх гукавых фільмаў, якія выйшлі за апошнія часы. Частка гэтых фільмаў была пастаўлена людзьмі, ужо знаёмымі гледачу беларускага кіно: Вайштокам, Коршам,

Файнцымерам і Аршанскім, якія раней рабілі культурфільмы. Другая частка здымалася работнікамі новымі, зразумела, новымі для Белдзяржкіно. Гэтыя новыя рэжысёры былі: Шпіс, Мільман і Кроль. Беларуская гукавая прадукцыя рушыла наперад у сэнсе якасці не толькі рэжысёраў, але і работнікаў іншай катэгорыі кіноматаграфічнай працы. На гукавым фільме вырас у кваліфікаванага драматурга Брадзянскі—аўтар „Славы света", „Першага ўзвода" і „Высокага напружання" (апошні сцэнарый знаходзіцца цяпер у вытворчасці). Гукавы фільм даў магчымасць разгарнуцца аператарскаму таланту Кальцатага, які пачаў мастацкую дзейнасць непрыметным членам калектываў рэжысёра Малчанава („Сосны шумяць") і рэжысёра Баллюзека („Пеўні пераклікаюцца"), які дабіўся прызнання і высокай мастацкай ацэнкі сваёй работы ў фільмах „Слава свету", „Першы ўзвод" і „Паручык Кіжэ". Урэшце зусім ужо нядаўнія карціны Белдзяржкіно абяцаюць нам новага здольнага аператара—Рабава, які здымаў „Двойчы народжаны" і цяпер здымае „Высокае напружанне".

Энергічная дзейнасць Белдзяржкіно ў галіне тэхнікі гукавога кіно, імкненне да падвышэння мастацкай якасці кіно-твораў з боку усіх кампанентаў—з боку драматургічнай, аператарскай і музычнай, запрашэнне рада буйных спецыялістаў (кампазітара Пракоф'ева для „Паручыка Кіжэ", актора Міхоэліса для карціны „Зварот Нейтана Беккера") высунулі беларускія гукавыя фільмы на вельмі прыметнае месца ў сістэме ўсесаюзнай кінематаграфіі. Праўда, і раней нямыя фільмы Белдзяржкіно дэманстраваліся на ўсіх экранах Савецкага саюза, прычым практыкаваліся не адзіныя творы, але асноўная маса іх. Але толькі гукавыя фільмы Белдзяржкіно заваявалі большую ўвагу да беларускай кіноматаграфіі з боку шматмільённага гледача Савецкага саюза і ў першую чаргу з боку працоўных мас самой Беларусі, на соцыяльныя інтарэсы якіх яны былі перш за ўсё разлічаны.

Аднак першы вялікі беларускі гукавы фільм „Слава свету", не гледзячы на яго камерцыйны поспех, нельга уключыць у лік тых, якія заваявалі гледача. Наадварот, „Слава свету" выклікала з боку гледача „дружны адпор": не падабаліся фальшывыя прыёмы займальнасці, якія ўжыты былі рэжысёрам. Не падабалася механічнае супастаўленне эпізодаў рэволюцыйнага руху на Захадзе, зробленых пад агітпропфільм, з эпізодамі, разлічанымі на тое, каб развесяліць наведвальнікаў кіно-тэатраў.

Вобразы фільма: Біль, Марта, яе бацькі былі надуманы, і таму акторы не маглі нічым дапамагчы рэжысёру, каб зрабіць іх праўдзівымі. Адзінае, чым хваляваў фільм, гэта аператарская культура. Кальцатаму ўдалося аднолькава зазняць і кадры морскай пагоні і сілуэт сляпой дзяўчыны на вісячым мосце і праменні пражэктараў, якія скрыжаваліся на цёмнай вадзе. „Зварот Нейтана Беккера" з'явіўся больш удалым фільмам, чым „Слава свету", хаця-б таму, што змест карціны быў сабраны Шпісам і Мільманам у адно заканамерна-развітае дзеянне, якое паказвала працэс змянення псіхікі амерыканскага муляра-яўрэя, які вярнуўся у Савецкі саюз. Карціна проціпастаўляла два светы: жыццё старога яўрэйскага мястэчка, з яго ўросшымі ў зямлю маленькімі хаткамі, крытымі гонтам, і жыццё новага будаўніцтва, якое ствараецца непадалёк мястэчка новымі людзьмі, якія прышлі змяніць стары гандлярскі быт. Няма чаго граха таіць, быт мястэчка, паказаны ў першых двух частках фільма, рэжысёры адлюстравалі куды больш каларытна, чым быт соцыялістычнай новабудовы. Адзінае, што магло паслужыць у даным выпадку апраўданнем для

рэжысёраў, гэта іх шчырае імкненне паказаць новых людзей і вялікую соцыялістычную справу як мага больш праўдзіва.

На жаль, для выканання такой сур'ёзнай задачы адны толькі жаданні былі недастатковы. Тым не менш фільм вышаў карысным і патрэбным. Гэта быў першы гукавы фільм на яўрэйскай мове, з добрымі акторамі, сярод іх першае месца належала Міхоэлісу, які выконваў ролю бацькі Нейтана Беккера.

Наступны гукавы фільм Белдзяржкіно „Першы ўзвод" пайшоў яшчэ далей у сэнсе мастацкай якасці, чым „Зварот Нейтана Беккера". Яго можна было характарызаваць, як безумоўнае дасягненне беларускага кіно. Ідэя рэчы—перарастанне вайны імперыялістычнай у вайну грамадзянскую, ідэя, да якой іншыя кіно-рэжысёры раней лёгка датыкаліся, не паглыбляючыся ў яе нутро,—у „Першым узводзе" была ўпершыню рэалізавана даволі поўна і ярка дзякуючы цэламу раду акторскіх вобразаў, якія добра запамінаюцца. Паасобныя сцэны карціны былі зроблены з сапраўдным мастацкім густам, са шчырым эмацыянальным уздымам. Узяць хоць-бы правады сялянскага хлапца (ролю выконвае Кміт) на вайну, апошнія абдымкі сына са сваей маткаю ў напалову зруйнаванай хаце і ўвесь даўгі абоз прысуджаных да смерці людзей,—абоз, які праходзіць міма зялёных сенажацей, дзе пасуцца каровы, міма пералескаў і бярозавых пушчаў. Калі пасля гэтых ідылічных карцін з зацямнення ўзніклі гукі ваеннага марша і панорама першага ўзвода, які ідзе на пазіцыі—супастаўленне гэта параджала ў гледачоў ўсхваляваныя пачуцці.

Не менш хвалюючымі былі зроблены эпізоды акопнага жыцця, з яго адчаем і безнадзейнасцю. Ва ўсіх пералічаных эпізодах знайшло месца выкарыстоўванне ўзораў буржуазнага пацыфісцкага фільма, і „Першы ўзвод" змог-бы таксама стаць пацыфісцкім творам, калі-б не апошнія часткі карціны, у якіх гнеў салдацкай масы знайшоў сабе выйсце, і салдацкія штыхі павярнуліся супроць тых, хто задумаў вайну і каму яна была выгаднай і патрэбнай. „Першы ўзвод" з'явіўся сінтэзам шуканняў, якія вяла беларуская кіноматаграфія на працягу дзесятка гадоў у галіне абароннай тэматыкі. На „Першым узводзе" вырас і рэжысёр В. Корш (у творчым рэестры яго „Першы ўзвод"—лепшы фільм) і сцэнарыст Брадзянскі, для якога фільм з'явіўся лепшай сцэнарнай работай, і аператар Кальцаты. Куды слабей было з акторамі, хоць яны і праявілі жаданне працаваць (Нікіцін, Краўчанка, Цараў), аднак не дасягнулі той мастацкай сілы, якой патрабавала ідэя твора. Адзіным выключэннем быў у гэтых адносінах Бабачкін ў ролі большэвіка Макара Бобрыка. Да ліку недахопаў фільма трэба аднесці таксама не зусім заканамернае развіццё дзеі, або лепш кажучы, „аслаблены сюжэт", хранікальны падыход да адлюстравання падзей.

Гэтага нельга сказаць пра гукавы фільм Аршанскага „Двойчы народжаны", у якім сюжэт з'яўляецца моцным і дзея развівалася цікава і паступова. „Двойчы народжаны"—фільм пра беларускую вёску, бадай першы сур'ёзны фільм аб калгасным будаўніцтве. Ва ўсякім выпадку, да яго з'яўлення совецкая кіноматаграфія зрабіла ўсяго толькі дзве гукавыя карціны аб соцыялістычнай перабудове вёскі: „Шакіра" Л. Эсакіа—і „Аднаго з многіх" Капаліна. Абодва апошніх фільмы былі нездавальняючымі. Безумоўна фільм „Двойчы народжаны" таксама мае недахопы, але ў ім ёсць здаровыя мастацкія тэндэнцыі, умельства вылепіць вобразы, якія добра запамінаюцца (на высокім ўзроўні была ў фільме акторская работа), любоў да адлюстравання дэталяў вясковага жыцця, маляўнічасць у пабудове кадраў (тут неабходна зазначыць цудоўна заснятую аператарам Рабавым натуру).

Усё разам узятае склала добры чарговы фільм, які не прэтэндуе стаць „баевіком“, але ні ў якім разе не стандартны прадукт кінопрамысловасці, якія нерэдка сустракаюцца ў нашай практыцы.

Апошнюю вялікую карціну—„Паручык Кіжэ“ Файнцымера Белдзяржкіно выпусціла ў 1934 г. Карціна здымалася па сцэнарыю Ю. Тынянава. У аснову сцэнарнага замысла быў пакладзен анекдотычны выпадак з эпохі Паўла І-га. У практыцы беларускага кіно гэта была першая гістарычная карціна, узятая не з гісторыі Беларусі, і разам з тым першая карціна з такой далёкай гістарычнай эпохі. Звычайна, змагаючыся за рэалізацыю гістарычнай тэматыкі („Яго вялікасць“) і інш. беларускае кіно далей сярэдзіны мінулага стагоддзя не ішло. На гэты-ж раз прадметам адлюстравання стала XVIII стагоддзе і яго норавы.

Для самага Файнцымера „Паручык Кіжэ“ з'явіўся безумоўным крокам наперад. Пасля „Отэля Савой“ і нават „Шчасця“ Файнцымер у „Паручыку Кіжэ“ заявіў аб сабе, як умелым майстры. Праўда, яму не ўдалося зліць ў арганічны ансамбль супярэчлівыя элементы, сабраныя ім для твора, і ігра Гарына (у ролі ад'ютанта) не знайшла кантакта з ігрой Яншына (Павал І), Растоўцава і інш. Затое адзінства было знойдзена ў выяўленчых і музычных частках твора. Ва ўсякім выпадку работа Кальцатага зноў-такі была высокай і цікавай, таксама, як і музыка кампазітара Пракоф'ева. Але калі Файнцымера, як рэжысёра „Паручыка Кіжэ“, можна было бясспрэчна залічыць у актыў—для беларускай кіноматаграфіі ў цэлым пастаноўка „Паручыка Кіжэ“ была супярэчлівай з дваістым значэннем: з аднаго боку гэта пастаноўка прадэманстравала вялікія потэнцыяльныя мастацкія магчымасці Белдзяржкіно, з другога боку—сігналізавала пра недаацэнку фабрыкай тэматыкі соцыялістычнага будаўніцтва.

Тут мы павінны спыніцца на характарыстыцы гэтага ўхіла ў беларускім кіно-мастацтве, як вышэй звярталі ўвагу чытача на варожыя выпады супроць совецкай кіно-культуры Беларусі з боку нацдэмакратызма. Вялікадзяржаўніцтва праяўлялася ў рабоце Белдзяржкіно ў форме недаацэнкі беларускай тэматыкі, а таксама ў форме спрашчэнскай яе трактоўкі. Падобную вульгарызацыю можна было назіраць не ў адным, а ў радзе беларускіх фільмаў: у „Сапраўдным жыцці“ Гаўронскага і Уліцкай, у „Гонары“ Авербаха, і інш.

Апошняе вызначылася таксама ў тым, што кіраўніцтва кіно-фабрыкі дрэнна рыхтавала і нерашуча вылучала нацыянальныя творчыя кадры. За сваю гісторыю Белдзяржкіно мала прымала захадаў, каб вырасціць уласных сцэнарыстаў, рэжысёраў, актораў і апературараў. Яно працавала з выпадковымі кадрамі, з людзьмі, якія часам дрэнна разумелі канкрэтныя і непасрэдныя задачы эканамічнага і культурнага будаўніцтва ў БССР. Таму не было нічога дзіўнага, што некаторыя работнікі лічылі, быццам нацыянальных тэм зусім не існуе, а ёсць толькі тэмы агульна-саюзныя, што ў беларускіх вёсках і беларускіх гарадах нельга знайсці падыходзячай, „кіноматаграфічнай фактуры“.

Небяспека вялікадзяржаўнага шавінізма своечасова была папярэджана. У 1933 годзе кіраўніцтва кіно-фабрыкі „Совецкая Беларусь“ было знята за няздольнасць павярнуць беларускую кінематаграфію у бок абслугоўвання задач соцыялістычнага будаўніцтва БССР, і на кіруючыя фабрычныя пасады былі прыцягнуты новыя людзі з новымі патрабаваннямі, з новымі планамі. Загартаваная ў барацьбе з нацдэмакратызмам і вялікадзяржаўным шавінізмам, беларуская кіноматаграфія стаіць цяпер на рубяжы ўздыму, якога яна не ведала яшчэ з дня ўзнікнення. Яе рост абумоўлен ростам совецкай культуры ў цэлым

і ў тым ліку ростам соцыялістычнай культуры Беларусі: літаратуры, тэатра, выяўленчага мастацтва і музыкі. Кіноматаграфія павінна ўвабраць ў сябе дасягненні ўсіх мастацтваў, каб на аснове іх будаваць вялікае пролетарскае сінтэтычнае мастацтва, важнейшае для нас з усіх мастацтваў. Для ажыццяўлення такой грандыёзнай задачы неабходна моцная матэрыяльная база. І ўрад БССР улічыў гэтыя абставіны. У наступным 1935 г. у Менску засноўваецца гукавая кіно-фабрыка, разлічаная на вытворчасць дваццаці-пяці поўнаметражных карцін у год.

Фабрыка будзе пабудавана па апошняму слову навейшай кіноматаграфічнай тэхнікі. Гэта дасць магчымасць наладзіць і творчыя працэсы вытворчасці фільмаў. Зразумела, дваццаць пяць вытворчых адзінак павінны будуць поўнасцю задаволіць патрэбы працоўных БССР, хаця-б на першае паўгоддзе. З прычыны павелічэння гэтых патрэб, праэкт разлічан на пашырэнне фабрыкі да 35 адзінак у год.

Такая ў кароткіх рысах гісторыя беларускай кіноматаграфіі, такі дзесяцігадовы шлях яе развіцця. Прыблізна з 40 фільмаў, зробленых Белдзяржкіно за гэты перыяд,—не ўсе, як мы бачылі, можна залічыць цяпер у актыў арганізацыі, але якім бы цяжкім ні быў пасіў—агульны баланс застаецца станоўчым.

## ЗМЕСТ



---

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*

РЭДКАЛЕГІЯ: *Я. Бранштэйн, П. Галавач, П. Глебка, З. Жылуновіч, К. Зарэмбоўскі, М. Клімковіч, Я. Колас, К. Крапіва, М. Лынькоў, К. Чорны.*

АДРАС РЭДАКЦЫІ: *Менск, Совецкая, 68. Дом пісьменніка.*

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ

НА ШТОМЕСЯЧНУЮ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКУЮ ЧАСОПІСЬ

# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**Адказны рэдактар Міхась ЛЫНЬКОЎ**

**Члены рэдкалегіі: Я. БРАНШТЕЙН, П. ГАЛАВАЧ, П. ГЛЕБКА, З. ЖЫЛУНОВІЧ, К. ЗАРЭМБОЎСКІ, М. КЛІМКОВІЧ, Я. КОЛАС, К. КРАПІВА, М. ЛЫНЬКОЎ, К. ЧОРНЫ**

**У 1935 годзе ў часопісі „Полымя рэволюцыі" будуць змешчаны:**

**Раманы, аповесці:** Платона Галавача, Міхася Зарэцкага, Змітрака Бядулі, Кандрата Крапівы, Кузьмы Чорнага—„Трыццаць год" (раман, другая частка), „Назарэўскі" (раман); Цішкі Гартнага —„Перагуды" (раман); Рыгора Мурашкі—„Палітаддзел" (аповесць); Эдуарда Самуйлёнка—„Пагібель воўка" (раман); „Апраўданне крыві" (раман, першая кніга); Барыса Мікуліча—„Чорналессе (аповесць); Сымона Баранавых (комсамольская аповесць); Сяргея Знаёмага (новая аповесць); Макара Паслядовіча (аповесць); Васіля Каваля—„Права на мужнасць" (аповесць); Вячэслава Палескага (раман); новыя творы Янкі Ліманоўскага, Міколы Целеша, Цімаха Зарэчнага.

**Апавяданні:** Міхася Лынькова, Платона Галавача, Янкі Скрыгана, Рыгора Мурашкі.

**Паэмы, вершы:** Янкі Купалы, Якуба Коласа, Міхася Чарота, Андрэя Александровіча, Пятруся Броўкі, Пятро Глебка, Аркадзь Куляшова, Алеся Зарыцкага, Сяргея Дарожнага, Міколы Хведаровіча, Тодара Кляшторнага, Валерыя Маракова і інш.

**П'есы:** Курдзіна—„Азеляненне цэха", новая п'еса Ільі Гурскага, Анатоля Вольнага—„Апошнія сяляне" камедыя), Васіля Сташэўскага і інш.

**Артыкулы:** Праф. Браништэйна, Д. Коніка, М. Клімковіча, Дунца, Л. Літвінава, Гітгарца, А. Некрашэвіча, Алеся Кучара, В. Вольскага, М. Модэля, Я. Шарахоўскага, Куніцкага, М. Алехновіча, І. Плашчынскага, С. Левіна, П. Хатулёва.

Часопісь „Полымя рэволюцыі" друкуе пераклады лепшых твораў совецкіх пісьменнікаў рускіх, украінскіх, яўрэйскіх і іншых народаў СССР. Часопісь шырока асвятляе на сваіх старонках становішча сусветнай рэволюцыйнай мастацкай літаратуры.

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА на часопісь „Полымя рэволюцыі" на 1935 г.**

На год (12 кніжак) . . . . . 24 руб.
„ поўгода . . . . . . . . 12 „
„ 3 месяцы . . . . . . . . 6 „
Кошт асобнага нумару . . . 2 „

Падпіска прымаецца аддзяленнямі, магазінамі, кіёскамі і ўпаўнаважанымі кнігасектара ДзВБ, а таксама на пошце.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ ЧАСОПІСІ: Менск, Совецкая, 68, Дом пісьменніка**